

***Карані беларускай геральдыкі дасягаюць XI–XII стст., і ад гэтых часоў яна жыве і развіваецца ў тым жа рэчышчы, што і агульнаеўрапейская геральдычная традыцыя, і з'яўляецца яе неад'емнай і арганічнай часткай***

**Анатоль ЦІТОЎ**

# ГЕРАЛЬДЫКА БЕЛАРУСІ

## (АД ПАЧАТКАЎ – ДА КАНЦА XX СТАГОДДЗЯ)



**Мінская фабрыка каляровага друку**
**2010**

УДК 929.6(476)(031)
ББК 63.2(4Бел)я73
Ц 74

**Цітоў А.К.**

**Ц 74** Геральдыка Беларусі.— Мн.: МФЦП, 2010.— 144 с.: іл.

ISBN 978-985-454-500-4

Разглядаюцца шляхі развіцця геральдычнай традыцыі на землях Беларусі ад даўніх часоў да канца XX ст. Дадзеная кніга будзе карыснай і цікавай усім, каму неабыякавы лёс нашай Бацькаўшчыны, яе шчыльныя сувязі ў агульнаеўрапейскай культурнай прасторы.

УДК 929.6(476)(031)
ББК 63.2(4Бел)я73

ISBN 978-985-454-500-4

# ПРАДМОВА

Інтарэс да геральдыкі як культурнай з'явы ў розныя часы і на розных этапах развіцця грамадства не быў аднолькавы. Апагею свайго развіцця яна дасягнула ў эпоху феадалізма. У часы буржуазнага грамадства геральдыка стае «перажыткам», «радзімай плямай» феадальнага грамадства. Пазней да яе звяртаюцца, як да прыгожай традыцыі, якая можа ў пэўнай ступені кансалідаваць грамадства. Найбольшы застой у адносінах да геральдыкі і нават вострае яе непрыяцце ў нашай краіне назіраліся у 70–80-я гады мінулага стагоддзя, тым не менш змена палітычнай сітуацыі спарадзіла новую хвалю інтарэса ў грамадстве і кіруючых структурах да гербатворчасці. На жаль, здараецца, што гэтая хваля, у залішнім энтузіязме прадстаўнікоў пэўных структур, перахлёствае магчымасці і геральдыкі.

Расійскі даследчык пачатку XX ст. Ю. Арсеньеў пісаў: «Геральдыка ёсць свайго роду сімвалічная міжнародная мова, таму што ва ўсіх краінах, дзе яна існуе, мы сустракаем адны і тыя ж постаці і эмблемы, якія перадаюць з роду ў род высокія паняцці рэлігіі, рыцарскага гонару і любові да Бацькаўшчыны».

Як навуковая дысцыпліна геральдыка канчаткова сфарміравалася ў XVIII ст. Папярэдне, як сусветная з'ява, яна прайшла спачатку стадыю практычнага ўжытку. Пры гэтым яе ўзрост налічвае каля васьмі-дзевяці стагоддзяў. Што тычыцца нашай краіны — Беларусі, дык тут прыкладна з XIV–XV ст. пачынаецца гісторыя гербаў.

Тэрмін *геральдыка* паходзіць ад ням. *Heer Alt* (літаральна — стары пан, спадар) – так называліся асобы, якія распараджаліся ў час правядзення турніраў і адным з абавязкаў якіх было апісанне рыцарскіх гербаў. Прадмет вывучэння геральдыкі — герб як сімвалічная выява, выкананая па жорскіх спецыяльных правілах.Слова паходзіць ад ням. *Erbe* (спадчына). Выява герба размяшчалася на пячатках, надмагіллях, прадметах хатняга ўжытку, зброі, на розных архітэктурных пабудовах, у кнігах і г. д.

**Галоўныя функцыі герба спалучаюцца з падкрэсліваннем:**

• індывідуальнасці ўладальніка;

• прыналежнасці той альбо іншай рэчы канкрэтнаму ўладальніку і знака ўласнасці);

• прыналежнасці самого ўладальніка праз права карыстацца гербам да пэўнай сацыяльнай групы насельніцтва;

• прыналежнасці праз герб да пэўнай дзяржаўнай, этнічнай, зямельнай, вайсковай, саслоўнай, карпарацыйнай, крэўнай (радавой) і інш. агульнасці.

Праз свае функцыі герб вырашае дзве задачы. Першая з іх — *рэпрэзентацыйная.* Гэта азначае, што ён прадстаўляе і адлюстроўвае праз пэўную сімволіку як гістарычныя абставіны свайго ўзнікнення, так і тую дзяржаву, зямлю, горад, народ ці асобу, якім належыць. Другая функцыя — *распазнавальная*. Згодна з ёй герб з'яўляецца сімвалам, задача якога чвылучаць і падкрэсліваць адметнасць свайго ўладальніка сярод астатніх. У сувязі з гэтым герб мусіць быць добра запамінальным і лёгка распазнавальным.

На Беларусі класічнае (у сучасным разуменні) ўстойлівае паняцце і тэрмін «*герб*» фіксуюцца і канчаткова замацоўваюцца ў XIV–XV стст., хаця і ў пазнейшых дакументах можна калі-некалі спаткаць пэўную дваістасць разумення паняцця — «*герб альбо пячаць*», што часцей тычыцца атрыбутаў местскага самакіравання.

У старадрукаваных кнігах, дзе часта прыводзіліся гербы фундатараў з вершаванымі прысвячэннямі, спаткаюцца паэтызаваныя паралелізмы: герб-клейнод або клейнот (у сэнсе — герб як упрыгажэнне асобы, каштоўнасць). Ёсць яшчэ адно значэнне слова клейнод — гэта ўпрыгажэнне, якое размяшчалася на версе прылбіцы (шлема) ўладальніка герба.

Значная геральдычная спадчына, якая засталася нам са старажытнасці, патрабуе пільнага і руплівага вывучэння. У ёй вылучаецца дзве асобныя галіны:

першая — *гербы і эмблематычныя выявы мясцовага паходжання;*

другая — *прыўнесеныя звонку найбольш рухомай часткай феадальнага грамадства — служылага саслоўя, якое ў моц пэўных прычын вандравала ў розных накірунках па ўсёй Еўропе.*

Акрамя таго, і выявы гербаў, якія часцяком надаваліся, пазычаліся, станавіліся такім чынам «вандроўнай» сутнасцю.

Геральдыка як навука мае дзве галіны – *практычную* і *гісторыка-тэарэтычную*. Першая ўтрымоўвае ў сабе правілы геральдыкі, выкарыстанне якіх дазваляе і сёння ствараць гербы дзяржаўныя і гарадскія, ведамасныя і прыватныя. Падзеі канца ХХ стагоддзя далі новы штуршок у развіцці гэтай галіны геральдычных ведаў. Станаўленне нацыянальных дзяржаў на месцы былога СССР пацягнула за сабой шырокае адраджэнне і вялікую патрэбу ў геральдычных ведах, без якіх немагчыма аднаўленне гістарычных і стварэнне і ўжыванне на гэтым падмурку правільных сімвалаў адноўленых дзяржаў, гербаў гарадоў і г.д.

Другая галіна — *гістарычная* геральдыка — мае неацэннае значэнне ў працэсе вывучэння і крытыкі гістарычных крыніц. Яна найбольш шчыльна звязана з сфрагістыкай, нумізматыкай, генеалогіяй, вексілалогіяй, археалогіяй, філіграналогіяй і г.д.

Пры вывучэнні геральдыкі, асабліва гістарычнай, варта памятаць, што галоўнай з'яўляецца эмблема, размешчаная ў шчыце (тарку), дапоўненая спадарожнымі элементамі — усім тым, што знаходзіцца па-за беражкамі тарка.

***Геральдыка — гэта навука, якая спалучае ў сабе як строгія правілы, што забараняюць будзь які адыход ад іх, так і прыгажосць мастацкага твора, сёння гэта спецыяльная гістарычныя дысцыпліна, пры дапамозе якой вывучаюцца старажытныя і ствараюцца новыя гербы.***

Вывучэннем гербаў займаецца тэарэтычная, а іхнім стварэннем — практычная галіна геральдыкі.

У беларускіх летапісных і дакументальных крыніцах паняцце герб фіксуецца і як сродак ідэнтыфікацыі асобы, і як знак уласнасці. Сімвал — герб у перыяд XV–XVIII стст. быў неад'емнай часткай агульнай культуры, пры гэтым ён валодаў і пэўнымі ўтылітарнымі функцыямі. Помнікі пісьменнасці ўтрымоўваюць даволі шмат згадак аб ужыванні сімвалаў у якасці гранічных знакаў на дрэвах. Гэта былі крыжы, грані, знамена, меткі, якія вырубаліся з двух бакоў, як правіла, на старых моцных дрэвах — дубах, соснах, вольхах і г.д. Як сведчыць дакумент 1597 г. аб размежаванні зямель двараніна гаспадарскага Лукі Капца і віцебскага ваяводы Мікалая Сапегі, па адрэзку мяжы былі **«у дубе знак граничный крыж»** і ў **«восьми вольхах крыжи починено».**

Калі падобныя простыя сімвалы ўжываліся ў працэсе зацвярджэння дакументаў, яны насілі назву *знамя* і часцей — *клейна*. У заяве (апавяданні) магілёўскага мешчаніна Анікея Кузняцовіча ў суд, зробленым у 1578 г., гаварылася, што **«згинула печать отца... з клейном Х...».** Крыху раней другі мешчанін зрабіў апавяданне ў той жа суд (1577 г.) аб тым, што страціў невядома дзе **«сыгнет серебреный под гербом вчиненый».**

У скарзе мінскага мешчаніна Лукаша Пашковіча на Амельяна Юшкевіча, які не жадаў аддаць грошы, зафіксавана спроба гербавай экспертызы. Апошні адмаўляецца ад іску таму, што на пячатцы, прыкладзенай да «ліста» [дакумента — А.Ц.], **«не его есть герб ...До печати ся, которая до листа притиснена не знал, вымовляючися, же того гербу который на печати вытиснены не видел, нигды не вживал, але тот здавна в себе мелъ, которыйтеперь же в него есть менилъ и положилъ** [перад судом — А. Ц.] **сыкгнетъ под гербом своимъ вчиненый».**

Мяркуючы па дакументах, цяжка сказаць, ці былі гэта паўнавартасныя гербы. Хутчэй за ўсё, іх можна лічыць мяшчанскімі, «умоўнымі» гербамі-клейнамі, якія адыгрывалі ролю распазнавальных сімвалаў і маглі мяняць свае абрысы і змест, пераходзячы ад папярэдніх прадстаўнікоў да наступных пакаленняў. Яны бліжэй да клейнаў, знаменаў.

Герб быў неад'емным атрыбутам урачыстых працэсіяў, святаў, фэстаў, хаўтураў. Ён упрыгожваў, акрамя пячатак, харугвы, будынкі, грабоўцы, зброю, кніжныя выданні і г.д. Так, «маляру», які зрабіў у 1599 г. сем гербаў для пахавальнай працэсіі віцебскага ваяводы, было заплочана «сем золотых польскіх». Геральдычныя помнікі даюць даследчыку добрую магчымасць прасачыць радавыя сувязі.

Веданне геральдыкі дазваляе ўбачыць тагачасныя крытэрыі прыгажосці, яно неабходна і пры вывучэнні гістарычных дакументаў.

# ГЛАВА 1
# ГАЛОЎНЫЯ ПАНЯЦЦІ І ТЭРМІНАЛОГІЯ

Упершыню, сапраўдныя ў сучасным разуменні, гербы ўзніклі ў часы крыжацкіх паходаў у XI–XIII стст. Зразумела, што рыцара, апранутага з ног да галавы ў жалезныя даспехі, не маглі б пазнаць нават блізкія сябры, калі на яго шчыце ці шлеме не была размешчана якая-небудзь умоўная адзнака, малюнак. Ды і сама дружына ці вайсковы аддзел былі б раструшаны на полі бітвы, калі б не мелі зборнага пункта, на якім узвышалася на сцягу ўсім ім добра вядомая каляровая выява знака іхняга князя ці камандора. Да таго ж пісьменнасць у тыя часы была распаўсюджана вельмі слаба, таму гэтыя знакі ўспрымаліся і запаміналіся лягчэй, чым літарныя надпісы. Каб гэтыя знакі можна было лёгка запомніць ці заўважыць здалёку, іх малявалі яскравымі і сакавітымі фарбамі, а каб спрыяць іхняму распазнаванню, малявалі спрошчана, стылізавана, не падкрэсліваючы шматлікія дэталі. Часцей за ўсё распазнавальны знак (герб) размяшчалі на рыцарскім шчыце, адсюль і ідзе традыцыйная форма герба.

Пасля заканчэння крыжацкіх паходаў традыцыя ўпрыгожвання рыцарскага ўзбраення асобнымі распазнавальнымі сімваламі не была забыта. Наадварот, яны сталі прыгажэйшымі і складанейшымі па форме і занялі вельмі важнае месца ў рыцарскім жыцці. Немагчыма ўявіць сабе рыцара, які прыбыў на рысталішча-турнір (так тады называліся спаборніцтвы паміж імі), не маючы ўласнага, адметнага ад іншых знака. Менавіта па ім распазнавалі ўдзельнікаў, якія прыехалі паказаць перад панадными спадарынямі і паненкамі сваё рыцарскае майстэрства, валоданне зброяй, свае спрытнасць і моц.

За выкананнем рыцарскіх правілаў, у тым ліку і за формай эмблемы, сачылі найбольш старыя і вопытныя рыцары — вайскоўцы, якія зваліся герольдамі. Акрамя таго, з цягам часу іхнім абавязкам стала не толькі распараджэнне і судзейства на турнірах, але і «чытанне», расшыфроўка старых рыцарскіх гербаў, а таксама стварэнне адпаведна з правіламі новых гербаў.

«Чытанне» або апісанне герба ў шэрагу сучасных моў носіць назву «блазаніраванне». Гэтае слова паходзіць ад нямецкага *blazen* (што значыць «трубіць у рог»). Сваё жаданне ўдзельнічаць ў турніры рыцар абвяшчаў тым, што набліжаўся да бар'еру і трубіў у рог. Пасля гэтага герольд, пераканаўшыся, што кандыдат належыць да шляхецкага стану, пачынаў блазаніраваць уголас, каб чулі ўсе прысутныя, апісваць ягоны герб. Потым тая ж працэдура праводзілася ў дачыненні да ягонага саперніка. Калі за абодвума рыцарамі не было вядома ніякіх ганебных учынкаў, ім дазвалялі ўдзельнічаць ў турніры.

Калі герольды апісвалі і складвалі новыя гербы, дык зацвярджаць іх і надаваць шляхецкую годнасць маглі толькі прадстаўнікі вярхоўнай улады — імператары, каралі ці тыя асобы, якім яны афіцыйна дазвалялі рабіць гэта ад свайго імя.

З цягам часу герб пачынае перадавацца ад бацькі дзецям і далей – унукам, можа, менавіта таму за такой выявай і замацавалася назва спадчына (ням. – *Erbe*).

У нас гербы з'явіліся ў XIV–XV стст. Беларускія гербы, як і ў іншых краінах, падзяляюцца на *гаворачыя* і *звычайныя*. Гаворачыя гербы — гэта такія, у якіх галоўны сімвал адпавядае сваёй уласнай назве або назве ці

прозвішчу ўладальніка. Напрыклад, герб з выявай тапара носіць назву «Тапор», з выявай падковы — «Падкова», або падковы і стралы — назву «Тэмпа падкова» (ад лацінскага *tempo* — хутка) — значыць, дакладны пераклад назвы герба будзе гучаць, як «хуткая падкова» — спрытны і хуткі яздок. Горад Рагачоў мае герб з выявай рога, а Ваўкавыск — галавы ваўка, які вые, і г. д.

Па іншай класіфікацыі вылучаюцца прыватныя, радавыя, асабістыя, карпарацыйныя — гарадскія, цэхавыя, брацкія, зямельныя і дзяржаўныя гербы. Аб іх пойдзе гаворка ў адпаведных главах. Найбольш пашыранымі сярод іх з'яўляюцца гербы, якія адзначалі шляхецкую годнасць пэўных асоб ці родаў. Увогуле, гэтыя гербы сваім знадворным выглядам адрозніваюцца ад іншых іх катэгорый шэрагам элементаў. Галоўны элемент герба — тарк — можа мець некалькі адметную форму ад спрошчанай традыцыйнай, ён больш складаны. Часта шчыты прыватных гербаў маюць з аднаго боку адтуліну, у якую падчас турніру рыцары ўкладалі дзіду.

Як правіла, прыватныя гербы ўпрыгожваюцца прылбіцай. Калі прылбіца пастаўлена на шчыце не прама, а павернута ў профіль, гэта значыць, што род уладальніка герба вельмі старадаўні. Прылбіца-гелм, як правіла, упрыгожвалася каронамі, якія падзяляліся на шляхецкія (дваранскія) — з трыма пялесткамі, графскія — з трыма пялёсткамі і дзвюма перлінамі паміж імі. Калі асоба належала да духоўнага саслоўя, тады замест кароны з шлемам ці над імі адлюстроўваўся капялюш, упрыгожаны кутасамі, колькасць якіх падкрэслівала духоўны сан уладальніка. Але гэта — у рымска-каталіцкім і грэка-каталіцкім (уніяцкім) веравызнанні. У праваслаўных на Беларусі замест капелюша надавалася вастракутная шапка — мітра.

Гербы прыватных асобаў падзяляліся на тры катэгорыі — радавыя, прыватныя і асабістыя. Калі на першых адлюстроўваліся сімвалы, якія належалі ўсяму роду, дык на апошніх — сімвалы, якія належалі канкрэтна вызначанай асобе. Прыватныя гербы шляхетных асобаў складаліся часцей за ўсё з двух, чатырох ці пяці гербаў, хоць былі і больш складаныя. Асабістыя гербы надаваліся пэўнай асобе з правам асабістага шляхецтва, як гэта адбылося, напрыклад, з нашым першадрукаром Францыскам Скарынам. Адпаведна звычаяў тагачасных універсітэтаў, калі чалавек простага стану атрымоўваў вышэйшую адукацыю, і пасля гэтага за багатыя веды яму прысвойвалася ступень доктара навук, то яму надавалася асабістае, без права перадачы сваім нашчадкам, шляхецтва.



*Пячатка з гербам Ваўкавыска. Прыціснута да дакумента 1633 г.*



*Герб Рагачова, 1781 г.*



*Пячатка з гербам старосты слуцкага княства В.Свінярскага, 1733 г.*



*Пячатка з гербам нова-
гародскага падсудка Фёдара
Еўлашэўскага, 1593 г.*



*Герб «Камар».
Малюнак пачатку XIX ст.*

*Пячатка Томаша Макавецкага,
слонімскага падскарбія, кавале-
ра ордэна Св. Станіслава
з выявамі гербаў «Паўкозіч»
і «Малая Пагоня», XVIII ст.*



Як правіла, дзяўчына, выходзячы замуж, атрымоўвала пэўныя правы на герб свайго мужа, які яна ставіла наперадзе (з правага боку), і такім чынам атрымліваўся сямейны герб. Кожны чалавек, ведаючы гербы сваёй мясцовасці і правілы геральдыкі, па гербу мог атрымаць больш глыбокую і якасную інфармацыю аб паходжанні і роднасных сувязях яго ўладальніка, чым, скажам, па сучаснай метрыцы або пашпарту. Галоўным у гэтым «чытанні» было правіла размяшчэння эмблем у палях герба, адпаведна з якім яны нумараваліся наступным чынам. Калі герб быў чатырохполевы, то у першым полі ставіўся герб бацькі (бацькоўскага роду), у другім — маці, у трэцім — бабкі па бацьку (або бацькавай маці), у чацвёртым — бабкі па маці; калі ў цэнтры (сэрцы) шчыта быў яшчэ і маленькі шчыток (шыльд), тады ён станавіўся нумарам першым, а ў пятым полі размяшчаўся герб прабабкі па бацьку (бацькавай бабкі). Такім чынам, убачыўшы той або іншы герб, нашы продкі адразу ж даведваліся аб тым, што за чалавек перад імі.

Незалежна ад уладальніка кожны герб уяўляе сабой пастаянную канструкцыю, якая мае ўнутраны змест і вонкавае асяроддзе. Беражкі тарка і з'яўляюцца той мяжой, што падзяляе існасць уладальніка, якая прадстаўлена ў выглядзе гербавай эмблемы і знешняга асяроддзя. Калі ў тарку ёсць шыльд сэрца, тады існасць як быццам адлюстроўваецца ў ім, а ў палях тарка паказаны састаўныя часткі яе. Па-за межамі тарка існасць уладальніка ўваходзіць у кантакт з наваколлем, што адлюстроўваецца ў сімволіцы афармлення знадворных бакоў тарка. Уладальнікам і асяроддзем можа быць асоба ці ўстанова, зямля ці дзяржава, места ці карпарацыя. Дзякуючы афармленню наверша глядач атрымлівае інфармацыю аб рангу ўладальніка (трохпялёсткавая карона — шляхціч, мітра — князь альбо епіскап і г.д.). Па баках тарка знаходзяцца пахолкі-шчытатрымальнікі, якім прадпісваецца абараняць уладальніка. Каля гербавай пяты размяшчаюцца дэвіз альбо ўзнагароды, само месца якіх сведчыць аб іхніх рэальных коштах з пункту гледжання быцця.

Такім чынам, герб — гэта форма пазнання, якая прызвана раскрываць аб'ект не толькі ў гісторыка-фізічным плане, але і на больш высокім духоўным узроўні. Праўда, гэтая галіна геральдыкі, у адрозненне ад першай, больш-менш вывучанай, поўнасцю закрыта для сённяшніх даследчыкаў.

## Асноўныя правілы, тэрміналогія, галоўныя фігуры

Асноўнымі правіламі стварэння гербаў з'яўляюцца наступныя:

*1. Адзін герб не можа быць тоесным другому. Хоць якія, няхай нават дробныя дэталі, павінны іх адрозніваць паміж сабой.*

*2. Адзін род, места, народ, дзяржава не могуць адначасова карыстацца больш чым адным гербам. Гэтае правіла дапускае карыстанне некалькімі гербамі, але не адначасова народ, дзяржава могуць адмовіцца ад аднаго герба і абраць сабе другі, новы герб.*

*3. У геральдыцы прызнаецца за герб толькі тое, што зроблена геральдычна правільна, і не прызнаецца тое, што зроблена з адхіленнем ад яе правілаў, незалежна ад таго, наколькі дасканала і прыгожа намаляваны ці зроблены выявы.*

*4. Кожны герб мае два бакі, пры гэтым у апісанні арыентуюцца не на гледача, а на асобу, якая трымае шчыт (тарк) з выявай герба. Гэта значыць, што той бок, які здаецца гледачу левым, па-геральдычнаму з'яўляецца правым, і наадварот,*

*5. Жоўтая фарба адпавядае золату, а белая – срэбру. Абодва гэтыя колеры лічацца «металамі» і не могуць спалучацца ў адным гербе. Гэта значыць, што на белым (срэбным) полі не можа размяшчацца залатая эмблема, і наадварот. Дадаткова да «металаў» у геральдыцы выкарыстоўваюцца і фарбы: чырвоная. блакітная, зяленая, чорная. Для малявання чалавека прымяняецца цялесны колер. Акрамя гэтага, нельга выкарыстоўваць зялёнае дрэва ў блакітным альбо чырвоным, ці наадварот, чырвоныя муры, вежы ў зялёным ці блакітным полі. Зорка, залатая ці срэбная, не будзе ўспрымацца натуральна ў чырвоным полі. Сярод фарбаў (эмаляў) толькі чорная можа спалучацца з усімі астатнімі.*

*6. Коса пастаўлены шчыт падкрэслівае глыбокую старажытнасць герба ў параўнанні з іншымі.*

*7. У аб'яднанні гербаў таксама існуюць свае правілы. Калі дзве дзяржавы аб'ядноўваюцца ці адзін уладальнік заваёўвае другую зямлю, вобласць і месца, тады яго герб ставіцца ў правым баку на шчыце, а падпарадкаваны— ў левым, ці герб пераможцы ставіцца ўверсе, а пераможанага — у нізе шчыта.*

Сам герб складаецца з шэрагу элементаў, кожны з якіх мае сваю назву і функцыі. Трэба таксама памятаць, што і ў правілах бываюць выключэнні. Напрыклад, герб Ушачаў мае св. Лаўрэна ў белым полі пры залатой рацэ. На гербе Геранёнаў у зяленым полі размешчана чырвоная эмблема, што пярэчыць



*Герб «Ляліва». Малюнак пачатку XIX ст.*



*Герб «Грыф» (Свабода). Малюнак пачатку XIX ст.*



*Герб «Бяліна». Малюнак пачатку XIX ст.*



*Пячатка з гербамі «Кентаўр» і «Ружа» Стафана Іаана кн. Гедройца, епіскапа жмудскага, кавалера ордэнаў Белага Арла і Св. Станіслава. XVIII ст.*



*Пячатка з асабістым пяціполевым гербам Антонія Міхала на Княжычах, Галоўшчыне і інш., графа Паца, вялікага пісара ВКЛ, (у сэрцы — герб радавы «Газдава», далей: Радзівілаўскі арол, Агінскіх «Брама», Лебедзь, Ражкі — Трабы). XVIII ст.*

пятаму правілу. Галоўнае ў геральдыцы — прымаць выключэнні, створаныя гісторыяй, а не ствараць іх.

У беларускіх дакументальных крыніцах XVI ст. (часу існавання «жывой» геральдыкі) можна даволі часта спаткаць назвы дэталяў рыцарскага ўзбраення, якое было асноўным месцам размяшчэння гербаў. Так, у заяве ў Слонімскі земскі суд двараніна гаспадарскага Якава Савіцкага аб наездзе Станіслава Руцкага на ягоны «маёнтак Косаўскі», акрамя пабраных дакументаў і маёмасці пералічваюцца **«зброи, панцыры, тарчи, прилбицы, седлы, ўзды...»**.

Другі дакумент пералічвае амаль той жа набор і называе кошт гэтага ўзбраення (у Менску) так: сагайдак каштаваў 70 грошай, шабля — капу грошай, «панцер» — пяць копаў і прылбіца — сорак грошай.

У нашым выпадку найбольш цікавымі з'яўляюцца назвы тарк (у некаторых краінах таркам называецца турнірны шчыт) альбо тарч, якія былі выціснуты ў пазнейшы час зрусіфікаваным тэрмінам шчыт; прылбіца (пры ілбе), не зусім адэкватным сінонімам якой з'яўляецца шалом (абодва гэтыя словы былі выціснуты са звароту тэрмінам шлем). Гэта тлумачыцца, з аднаго боку, русіфікацыяй тэрміналогіі, а з другога, занядбанасцю ў савецкія часы спецыяльнных гістарычных дысцыплін, у тым ліку і геральдыкі. Адсутнасць нацыянальнай школы геральдыкі спрыяла росту запазычанняў тэрміналогіі ў суседзяў, галоўным чынам, у Расіі.

Галоўным інфармацыйным элементам герба з'яўляецца эмблема, якая размешчана ў тарку, а ўсё, што знаходзіцца на ім, з'яўляецца, у большай ці меншай ступені, упрыгажэннем. Без тарка, незалежна ад ягонай формы, не можа быць герба, нават калі тарк «празны» — пусты. Усе астатнія элементы герба адыгрываюць спадарожную, часта нават дэкаратыўную функцыю, хаця і нясуць пэўную дадатковую інфармацыю.

## РАДАВЫЯ ГЕРБЫ ШЛЯХТЫ



*Герб «Дуб». Малюнак пачатку XIX ст.*



*Герб «Корчак». Малюнак пачатку XIX ст.*



*Герб «Магіла». Малюнак пачатку XIX ст.*



*Герб «Праўдзіч». Малюнак пачатку XIX ст.*




ВЯНОК – скручаны кавалак матэрыі, на які накладвецца карона пры адзяванні яе на прылбіцу. Яшчэ ён мае назву бурэлет альбо начэлле.

ДЭВІЗ – размяшчаецца часцей за ўсе на стужцы, пад таркам. У ім адлюстроўваюцца ідэя і думка герба. Для беларускай геральдыкі гэта з'ява даволі нетыповая.

КАРОНА – размяшчаецца на прылбіцы. У залежнасці ад сацыяльнага стану ўладальніка можа быць трох-пяці (і г.д.)-пялёсткавай, з перлінамі, каштоўнымі камянямі альбо без



*Франтон нясвіжскага замка. Фота красавіка 2007 г.*



*Камінная засаўка з прыватным гербам мінскага кашталяна Яна Глябовіча. Канец XVI ст.*



*Герб Казіміра Лявона Сапегі. 30 – 50 гг. XVII ст.*



*Кафля з выявай стылізаванага герба Радзівілаў*



*Кафля з выявай герба "Вуж". XV ст*



*Кафля з выявай пешага рыцара. XVII ст.*

*Паліхромная кафля з выявай герба "Двугаловы арол" са шчытатрымальнікамі (пахолкамі) – ільвамі . XVIII ст.*



*Фрагмент кафлі са шчытатрымальнікам — адзінарогам XVII ст.*



*Фрагмент кафлі са шчытатрымальнікам – ільвом. XVII ст.*

іх. На гербах духоўных асоб карона замяшчаецца мітрай, клабуком, капелюшом і г.д.

КАРТУШ — дэкаратыўная форма тарка, які ўтвараецца пракудлівымі незамкнёнымі лініямі.

КЛЕЙНОД — упрыгажэнне, якое размяшчаецца на прылбіцы, над каронай і ўяўляе сабой паўтор гербавай эмблемы альбо яе элемента. У якасці клейнода могуць таксама ўжывацца птушыныя крылы, рогі, дэталі ўзбраення, жывёлы, страусавае альбо паўлінавае пер'е. Яшчэ ён можа называцца навершам.

НАМІТКА — хустка, якой рыцары прыкрывалі прылбіцу падчас крыжовых паходаў, каб засцерагчыся ад спякотнага сонца. У гербе яна мае дэкаратыўныя функцыі.

МАНТЫЯ (плашч; корзна) — прыналежнасць гербаў асобам, якія адносіліся да вышэйшых колаў феадальнай іерархіі — імператараў, каралёў, князёў, графаў і г. д.

ПРЫЛБІЦА — частка ўзбраення, назначэнне якой – ахова галавы і шыі рыцара, упрыгажэнне гербавага тарка. На ёй размяшчаецца вянок, карона, клейнод. Прылбіца, павернутая ўправа, сведчыць аб старажытнасці герба альбо рода яго ўладальніка.

ТАРК — частка ўзбраення рыцара, якая адзявалася на левую руку і абараняла цела і галаву ад паражэння халоднай зброяй. Галоўны элемент герба, на якой размяшчаецца эмблема. Форма геральдычнага тарка знаходзіцца ў цеснай сувязі з часам стварэння герба. Яна можа быць гатычнай, рэнесанснай, барочнай, ракаковай і класічнай. Дэкаратыўная форма тарка носіць назву картуш.

ШЧЫТАТРЫМАЛЬНІКІ (пахолкі) — фігуры, якія падрымліваюць гербавы тарк. Могуць быць як натуральнымі, так і штучнымі (выявы людзей, анёлаў, рэальных або міфалагічных звяроў, птушак і г.д.).

ШЫЛЬД (паходзіць ад нямецкага — Schild — тарк) — маленькі тарк, які размяшчаецца на перакрыжаванні восевых ліній асноўнага тарка.

Усе выявы на тарку робяцца фарбамі (фініфцямі) ці металамі, альбо тарк «абіваецца» футрам. З яго ж робіцца падбіўка мантый. У геральдыцы прынята пяць асноўных фарбаў: чырвоная, блакітная, зялёная, чорная і пурпуровая. Для абазначэння чалавечай фігуры ўжываецца ў якасці дадатковай цялесная або натуральная фарба.



*Герб «Калюмны» са зборніка Эразма Коміна, 1575 г.*



*Герб «Сыракомля». Малюнак пачатку XIX ст.*



*Пячатка Марціна Валадковіча, мінскага земскага суддзі,1578 г.*



*Абазначэнне эмаляў (колераў) у беларускай геральдыцы*

*Кожны колер мае сваё ўласнае алегарычнае значэнне.*

**Чырвоны** — колер улады, кахання, жыцця, крыві, агню, небяспекі, барацьбы, анархіі, Марса, сімвал гатоўнасці да бою, шляхецтва і г.д. Трэба памятаць, што ў старажытнасці чыста чырвоны-алы колер не ўжываўся, а быў распаўсюджаны т.зв. кармазінавы, які мяняў сваё адценне ад цёмна-вішнёвага да малінавага.

**Блакітны** — сімвал нябёс, панны Марыі, навукі, Юпіцера, вады, але пры наяўнасці ў гербе нябёс і вады апошняя абазначаецца хвалямі і белым колерам.

**Зялёны** — колер надзеі, жыцця, дабрабыту, раслін, Венеры, вясны, сталага ўзнаўлення.

**Чорны** абазначае ўшэсце ад міру (згадаем чорны воск на пячатках духоўных асоб), сум, журбу, планету Сатурн.

**Пурпуровы** з'явіўся ў Рымскай імперыі як колер адзення імператараў, ад тых часоў належыць вышэйшым уладарам. У геральдыцы Беларусі амаль не ўжываўся.

Паколькі звыш стагоддзя Беларусь знаходзілася ў сферы ўплываў расійскай геральдыкі, на помніках, асабліва ў гарадской геральдыцы, можна спаткаць і дадатковыя колеры, якія былі ва ўжытку ў Расіі. Там былі ўведзены да чырвонага — малінавы і ружовы колеры, да зялёнага— светла-зялены, да блакітнага – светла-блакітны.

Часта пры маляванні гербаў немагчыма было перадаць ягоныя фарбы натуральным шляхам. Таму ў XVII ст. была распрацавана сістэма графічнага абазначэння колераў. Гэтыя сістэмы распрацоўвалі Я. Франкарт, С. Пера-Санкта, М. Каламбіер, Э. Геленіус. На Беларусі больш шырока ўжываліся сістэмы апошніх трох.

Акрамя фарбаў у геральдыцы ўжываюцца яшчэ два асноўныя металы: золата, якое абазначаецца жоўтай фарбай і з'яўляецца сімвалам сонца, багацця, улады, дабрабыту; срэбра — сімвал Месяца, чысціні, цноты, добразычлівасці, мірных, сяброўскіх намераў. На вайне белы сцяг азначае капітуляцыю, альбо перамовы, калі ён у парламентарыя. У рэлігіі старажытнага Егіпта гэта найбольш папулярны колер. Белая лілея лічылася сімвалам чысціні.

Спарадычна ў геральдыцы ўжываюцца і іншыя металы: жалеза, якое абазначаецца чорнай фарбай, і сталь — светла-блакітнай.

Іншы раз у аздобе гербаў і на іх саміх можна спаткаць футра — гарнастаевае альбо вавёрчына. Першае належыць да гербаў асоб, якія займаюць вышэйшыя пры-

ступкі феадальнай іерархіі, і абазначаецца графічна ў выглядзе чорных хвосцікаў па беламу полю альбо кропкаварысачных крыжыкаў. Другое, вавёрчына футра, абазначаецца срэбнымі і блакітнымі шаломамі і належыць да асоб, што прадстаўляюць больш «нізкія» саслоўныя прыступкі феадальнага грамадства. З футра выраблялісе мантыі або імі поўнасцю ці часткова абіваліся таркі.

Сам тарк можа быць як «празным», так і мець на сабе якую-небудзь выяву. Усе выявы, размешчаныя ў гербе, падзяляюцца на два віды — фігуры геральдычныя (якія маюць чыста ўмоўны сэнс) і негеральдычныя (якія могуць быць як творам чалавечай фантазіі, так і прадметам з рэальнага жыцця і побыту).

У сваю чаргу геральдычныя фігуры падзяляюцца на ганаровыя, альбо першасныя, і другасныя — звычайныя.

Ганаровыя фігуры — чало, пас, пята, слуп, перавязь, крыж, кроква, ліштва (альбо бардзюр) і шыльд. Ганаровыя фігуры маюць сваё строга фіксаванае месца ў тарку. Так, глава займае верхнюю трэцюю частку, пас — сярэдзіну, «ногі» — ніжнюю трэцюю частку тарка, а сёмую частку ніза тарка займае «пята».

Слуп займае сярэднюю трэцюю частку па вертыкалі. Перасячэнне слупа з пасам нараджае новую фігур—прамы крыж. Калі слуп займас менш трэці часткі, ён набывае назву слупок, а калі менш сёмай часткі, тады гэта прут. Спалучэнне дзвюх перавязей дае фігуру пад назвай андрэеўскі крыж, а аб'яднанне дзвюх перавязей з слупом — вілападобны крыж. Аб'яднанне главы і слупа дае Т-падобны крыж або мыліцу. Кожная з гэтых фігур падзяляецца яшчз на шэраг сабе падобных, але ў іншай прапорцыі да поля тарка.

У геральдыцы толькі формаў крыжа налічваецца звыш двухсот. Канструкцыя ў выглядзе раскрытага цыркуля называецца кроква.

Гэтыя абстрагаваныя ганаровыя фігуры ўжываліся таксама ў беларускай геральдыцы, хаця ў чыстым выглядзе яны сустракаюцца не вельмі часта.

Значна большы аб'ём займаюць фігуры негеральдычныя (звычайная), разнастайнасць якіх амаль неабмежавана. Але і для іх існуюць пэўныя правілы. Так, яны павінны быць арыентаваны ў правы бок (геральдычны — гл. правіла 4). Калі яно не выканана, то тая альбо іншая фігура называецца «павернутай».




*Абазначэнне эмаляў (фініфцяў) у расійскай геральдыцы*



*Пячатка Фёдара Іванавіча, кн. Мсціслаўскага, 1611 г.*

Леў, напрыклад, заўжды паказваецца ў профіль, стаячы на задніх лапах. Калі яго паказваюць ідучым, з галавою ў фас, тады ён называецца леапардам і г.д.

Суадносіны фігуры і тарка, як правіла, адпавядаюць прапорцыі 5/6 ці 6/7.

Існуе сем галоўнейшых месцазнаходжанняў фігуры ў тарку. Яна можа быць у цэнтры (сэрцы), у галаве, у пяце, у правым альбо левым верхнім ці ніжнім куце. Адна фігура заўжды размяшчаецца ў цэнтры. Калі яна прыпаднятая над «сэрцам», то называецца «узвышанай», калі наадварот — «прыніжанай». Калі фігуры размешчаны адна на другой, тады першая называецца «абцяжаранай». Фігуры могуць суправаджаць тарк, аблямоўваць, абкружаць яго і г.д.

Сам тарк (што найбольш характэрна для прыватных гербаў Беларусі) падзяляецца на часткі. Галоўных дзяленняў чатыры: рассячэнне (па простападнай лініі), перасячэнне (па паземнай лініі). Спалучэнне рассячэння і перасячэння нара-

*Дзяленне тарка і парадак чытання гербаў*

*1. Чало. 2. Пас. 3. Пята. 4. Слуп. 5. Перавязь. 6. Андрэеўскі крыж. 7. Крыж. 8. Мыліца. 9. Вілападобны крыж. 10. Кроква. 11. Шыльд. 12. Ліштва.*





*Рыцарская лусковая кашуля з гербам "Габданец",*
*пад графскай каронай. [XVI ст.]*





*Паліваная кафля з выявай коса пастаўленага шчыта з гербам "Начэлле". [XV ст.]*



*Герб «Адынец». Мал. XIX ст.*




*Кафля з выявай чатырохпалёвага асабістага герба. XVII ст.*



*Паліваная кафля з выявай герба «Двугаловы арол». 1690 г.*



*Герб «Навіна» Мал. XIX ст.*

джае чатырохполевы герб. Кропка, дзе гэтыя дзве лініі перасякаюцца, і есць сэрца тарка. Калі сячэнне робіцца па дыяганалях, атрымоўваецца чатырохполевы скошаны тарк. Аб’яднанне простага чатырохполевага і скошанага сячэння ўтварае клінчаты тарк. Акрамя таго, дзяленне можа праводзіцца не прамой, а ламанай або звілістай лініяй, але гэта ўжо тэарытычныя пабудовы, якія не характэрны для нашага гербаўтварэння.





*Пячатка Полацкага князя Ізяслава Уладзіміравіча, X ст.*

**Перыядызацыя геральдыкі.** Працэсы развіцця геральдыкі на Беларусі былі шчыльна звязаны з агульнымі эканамічнымі, палітычнымі, сацыяльнымі і культурнымі ўмовамі. Змены ў жыцці прыводзілі да пэўных зменаў і зрухаў як у стылі выканання, так і ў форме, змесце і сімволіцы. У нашай геральдыцы даволі яскрава, акрэслена прасочваецца шэраг перыядаў, якія маюць непасрэдныя вытокі наступных з папярэдніх, але непасрэдна кожны з іх валодае сваімі асабістымі рысамі, якія уласцівы толькі яму.



*Пячатка Яна Юражэвіча Гедройта з гербам «Порай» (Ружа), 1535 г.*

***Старажытны перыяд гісторыі Беларусі(ад XI ст. да паловы XIII ст.).*** Супадае з часам актыўных крыжовых паходаў, калі адбываўся працэс актыўнага фарміравання геральдыкі як культурнай з’явы. У нас назіраецца працэс назапашвання сімвалавага патэнцыялу, ягонай першаснай крышталізацыі і афармлення юрыдычна-прававой базы. На найбольш даступных тагачасных крыніцах па сімволіцы — полацкіх пячатках — фіксуецца, як правіла, выява тэзаіменнага (уладальніку пячаткі) святога, на значнай частцы пячатак — выява Божай Маці тыпу «Знак», альбо «Знаменіе», гэта выява пазней замацоўваецца як герб Пінскай Капітулы. Зафіксаваны варыянт сімвала, які пазней атрымаў назву «трызуб» (пячатка полацкага князя Ізяслава Уладзіміравіча).

Што тычыцца помнікаў класічнай геральдыкі, дык аб іх гаварыць заўчасна. Можна толькі канстатаваць вылучэнне пэўных знакаў, знаменаў і іншых выяў, якія часцей за ўсё яшчэ не заўжды асацыіраваліся з канкрэтным уладальнікам, а выкарыстоўваліся як знак радавой уласнасці з утылітарнымі мэтамі. Яны яшчэ не мелі ўстойлівай формы. Пазней некаторыя з іх увогуле знікнуць, іншыя ж набудуць больш дасканалыя абрысы, сімвалічнае значэнне і канкрэтных уладальнікаў.



*Пячатка Пінскай Капітулы, 1662 г.*



*Пячатка Полацкага магістрата, 1667 г.*

*Адбітак пячаткі Станіслава Мікалаевіча Кезгайлы з гербам «Задора», стольніка ВКЛ, дзяржаўцы Радуньскага, Канеўскага і Дубіцкага, 1545 г.*



***Вялікакняжацкі перыяд (канец ХШ–ХVП стст.).***
У гэты час працэс узнікнення і развіцця беларускай геральдыкі ішоў у двух напрамках. Першы — гэта выспяванне геральдычных эмблем з мясцовай традыцыі, другі — шляхам адаптацыі заходнееўрапейскіх гербаў, большай часткай польскіх, або праз прызму польскай геральдыкі. Навукоўцы лічаць, што адной з галоўных крыніц беларускай геральдыкі была польская геральдычная традыцыя. З такім меркаваннем можна пагадзіцца толькі часткова. Справа ў тым, што нашы заходнія суседзі шмат у чым успрынялі агульнаеўрапейскія гербы непасрэдна праз культурныя ўплывы немцаў і чэхаў, а ўжо потым, праз Польшчу, гэтыя «струмені» трапілі на землі Вялікага княства Літоўскага, да нас. Акрамя гэтага, зонай непасрэдных геральдычных кантактаў былі Браслаўшчына і, галоўным чынам, Полаччына і Віцебшчына, якія межавалі з Прыбалтыкай, што знаходзілася ў сферы ганзейскай, ордэнскай нямецкай, а потым шведскай геральдычных традыцый.

Вельмі важным вытокам, які спрыяў адаптацыі (успрыняццю) звычаю ўжываць гербы, было тое, што яшчэ ў сівой даўніне на нашых землях была завядзёнка адзначаць свае ўласныя рэчы, межы валоданняў рознымі знакамі — «знаменамі» або клейнамі. Цікава, што гэты звычай зберагаўся і тады, калі геральдыка ўжо шырока распаўсюдзілася па ўсёй Беларусі. Найбольш яскравым прыкладам гэтага з'яўляюцца размешчаныя Ф. Скарынам гербавыя шчыты — таркі, выявы радавых клейнаў свайго бацькі і маці. Вельмі часта падобнымі знаменамі адзначалі і борці з пчоламі. Тады гэтыя знакі насілі назву бортных клейнаў. Ужываліся яны нават для завярэння дакумента сваім подпісам.

Найбольш актыўна геральдыка пачала пашырацца на нашых землях у пачатку XV ст., калі ў 1413 г. была падпісана Гарадзельская ўнія. Адпаведна з яе ўмовамі 47 найбольш знатных родаў Вялікага княства Літоўскага атрымалі гербы, якімі карысталася дагэтуль польскае дваранства. Па задуме стваральнікаў уніі, тыя, хто прынялі прапанаваныя гербы, як бы пабраталіся з тымі, хто імі валодаў дагэтуль. На працягу XVI–XVII стст. адбывалася паступовая замена мясцовых клейнаў — знакаў уласнасці, распазнавальных знаменаў — еўрапейскімі, створанымі па агульных законах сімваламі, або пераўтварэнне мясцовых узораў па гэтых законах.

У беларускіх летапісных і дакументальных крыніцах паняцце *герб* фіксуецца і як сродак ідэнтыфікацыі асобы, і як знак уласнасці. Сімвал — герб у перыяд XV–XVIII стст. быў неад'емнай часткай агульнай культуры, пры гэтым ён валодаў і пэўнымі ўтылітарнымі функцыямі. Помнікі пісьменнасці ўтрымоўваюць даволі шмат згадак аб ужыванні сімвалаў у якасці гранічных знакаў на дрэвах.



*Пячатка з гербам Яна Хвалькоўскага, новагародскага харужага, 1706 г.*

Пры несумненнай важнасці прыватных гербаў найбольшую цікавасць маюць гарадскія і цэхавыя, а таксама выявы на пячатках брацтваў. На іх, як правіла, адлюстроўваецца ў форме лёгка ўспрымальнага і добразапамінальнага сімвала прыналежнасць да той або іншай карпарацыйнай установы або аб'яднання.

Дзяржаўныя ўстановы, як правіла, ужывалі герб асобы, што ўзначальвала яе ці выконвала пэўныя абавязкі, ці дзяржаўны герб.



*Пячатка з гербам Паўла Караля Сангушкі, вялікага маршалка ВКЛ, 1742 г.*

***Перыяд позняй Рэчы Паспалітай (XVIII ст.).*** Поўнасцю ён завяршаецца ў пачатку XVIII ст. Колькасць асобаў, якія карыстаюцца ўласным клейнам-гербам змяншаецца. Герб становіцца адзнакай прыналежнасці да ўпрывілеяванага стану. Рэшта насельніцтва працягвае карыстацца, адпаведна з традыцыяй, бортнымі клейнамі, знаменамі, якія часцей фіксуюцца на матэрыяльных помніках і ў пісьмовай дакументацыі, чым у сфрагістычным матэрыяле. Сам герб багата аздабляецца сцягамі, харугвамі, вайсковымі рыштункамі і г. д., што само па сабе з'яўляецца адлюстраваннем бурлівых ваенных падзей першага дваццацігоддзя XVIII ст. Малюнак герба ўдасканальваецца і набывае закончанасць кампазіцыйнай пабудовы. Гэты перыяд можна лічыць апагеем мастацтва гербавых упрыгожванняў на Беларусі. Назіраецца агульнасць у стылі выканання сродкаў легалізацыі дакументаў — пячатак розных дзяржаўных устаноў. На пячатках земскіх судоў ніжэй дзяржаўнага герба з'яўляецца герб пісара, у якога і захоўвалася пячатка пэўнай дзяржаўнай або грамадскай установы.



*Пячатка Галоўнага Трыбунала ВКЛ, Віленская кадэнцыя, 1745 г.*



*Пячатка земскага суда Ашмянскага павета, 1799 г.*



*Герб Рэчыцкага павета, 1845 г.*



*Герб Вілейскага павета, 1845 г.*



*Герб Ваўкавыскага павета, 1845 г.*



*Пячатка Слуцкага магістрата Мінскай губерні, 1802 г.*

***Перыяд Расійскай імперыі і СССР (апошняя чвэрць XVIII ст.–1917 г.–1991 г.).*** Далучэнне Усходняй Беларусі да Расіі адразу знайшло сваё адлюстраванне ў змене геральдычных выяў, што належалі да пэўных грамадскіх інстытутаў. Паводле «Гарадавога палажэння», якое было прынята ў 1785 годзе, гораду прадпісвалася мець герб, зацверджаны ў Пецярбургу, і скарыстоўваць яго ва ўсіх гарадскіх справах. Адначасова дазвалялася мець і пячатку з гарадскім гербам. Гэтыя новыя гербы не падкрэслівалі асаблівасць і індывідуальнасць кожнага горада, іхняя іканаграфія характарызавалася шаблоннасцю, што ўвогуле знішчыла сам прынцып ужывання местам уласнага герба і пячаткі. Легенды выконваліся рускай мовай, грамадзянскім шрыфтам, але некаторы час існавалі і пячаткі з легендамі на лацінскай мове тых гарадоў, якія не атрымалі зацвярджэння герба ў Пецярбургу.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай 1793 і 1795 гг. і далучэння да Расіі цэнтральнай і заходняй частак Беларусі царскі ўрад захоўвае тую ж тэндэнцыю да нівеліравання тутэйшых геральдычных узораў па агульнарасійскім лякалам.

10 жніўня 1799 года прымаецца новы расійскі дзяржаўны герб, а 19 жніўня выходзіць указ Сената аб пераробцы ўсіх пячатак дзяржаўных устаноў паводле новага ўзора герба.

Органы самакіравання некаторых гарадоў Беларусі да атрымання новага герба карыстаюцца старым, з выявай двухгаловага арла ўверсе або без яе. Уплывы расійскіх густаў у мясцовай геральдыцы паступова «захопліваюць усё новыя пазіцыі», гэты наступ адлюстраваўся у тым, што скасоўваліся і знішчаліся старажытныя гербы нашых «магдэбургскіх местаў»

і змяняліся на новыя, «здабыткі» пецярбургскай кабінетнай гербатворчасці. Адпаведна з гарадскім палажэннем цэхі атрымлівають дазвол на «значик и управную печать». Пакуль што пытанні пераймання геральдычных эмблем старажытных рамесных цэхаў адпаведнымі рамеснымі ўстановамі часоў расійскага панавання дакладна не прасочаны. Як паказваюць назіранні аўтара, часцей на цэхавых пячатках XIX ст. фіксуецца наяўнасць царскага арла і адпаведнага надпісу або толькі радковай «легенды». Такім чынам, для гэтага часу можна гаварыць толькі аб «геральдычных рэцыдывах», безумоўна, калі даследчыку пашчасціць трапіць на іх.



*Герб Дзісенскага павета, 1845 г.*

Уніфікацыя закранула не толькі выявы гербаў на пячатках грамадзянскіх установаў краіны, але і рэлігійных. Указам Сената ў 1836 годзе Сіноду прадпісваецца, каб усе цэрквы мелі пячаткі, якія выразаны па аднолькавай форме, з выявай царквы «в древнем русском виде», з надпісам царкоўна-славянскімі літарамі вакол. Кляштары ўжывалі пячаткі з дзяржаўным гербам. Апошнія адрозніваліся ад пячатак цывільнага ведамства толькі тым, што легенды на іх былі выкананы не грамадзянскім, а, як і на царкоўных пячатках, славянскім шрыфтам. Супярэчлівая палітыка царызму ў адносінах да мясцовай шляхты спрыяла росту яе паланізацыі ўвогуле і імкліваму распаўсюджванню польскай геральдычнай традыцыі. «Разборы шляхты» прывялі да зніжэння колькасці носьбітаў і карыстальнікаў гербаў мясцовага паходжання. Тыя, хто не меў пісьмовых дакументаў, звярталіся да прац польскіх геральдыстаў, шукаючы там пацвярджэнне сваёй шляхетнасці.



*Пячатка земскага суда Лепельскага павета Віцебскай губерні. Пачатак XIX ст.*

Прыватныя асобы прыкладалі пячаткі як у асабістай перапісцы, так і пры зацвярджэнні дакументаў — таму на іх можна спаткаць яшчэ пэўныя геральдычныя «рысы», праўда, варта адзначыць, што ў гэты перыяд даволі інтэнсіўна ўваходзіць «мода» на размяшчэнне на пячатках вензеляў (па-мастацку пераплеценых ініцыялаў уладальніка), што, безумоўна, таксама аўтаматычна звужала сферу ўжывання гербавых эмблем. З 50–60-х гадоў 19ст. з нараджэннем дзяржаўнай пошты, і гэты звычай запячатваць свае асабістыя лісты ўласнай пячаткай усё больш набывае рысы архаізму.

Вялікую цікавасць для даследчыка маюць пячаткі рэвалюцыйнага руху. Часта яны мелі простую форму. Па знешняму колу ішоў надпіс аб партыйнай прыналежнасці, а ў цэнтры ў некалькі радкоў абазначалася назва канкрэтнага ўладальніка. Такія пячаткі былі на лістоўках, якія распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі, а таксама на партыйных квітках. Варта адзначыць такі цікавы факт тагачаснай псіхалогіі: сярод людзей



*Пячатка Магілёўскага таварыства інвалідаў Першай сусветнай вайны, сакавік 1917 г.*

не было даверу да лістовак, не замацаваных пячаткай.

Падзеі кастрычніка 1917 г. распачалі новы этап у беларускай геральдыцы, для якога характэрна амаль поўнае знікненне першаснага геральдычнага «твару», дамінантай у фарміраванні сімвалавай базы, дарэчы не толькі ў Беларусі, сталі пэўныя ідэалагічныя патрабаванні. Да гэтага ж этапа адносяцца і пячаткі БССР ад пачатку яе станаўлення да 1991 г. На іх адлюстраваліся змены гербаў, якімі карысталася наша краіна ў гэты час.

Новы перыяд у беларускай геральдыцы распачаўся ў 1991 г. пасля абвяшчэння незалежнасці, працягваецца і сёння. Але ён стане поўнавартасным аб'ектам увагі гісторыкаў і даследчыкаў наступных пакаленняў.

Такім чынам:

*1. Для герба, як пэўнай існасці, характэрны галоўныя і другасныя элементы. Галоўнымі з'яўляюцца тарк і гербавая эмблема на ім. Усе астатнія дэталі спадарожныя, наяўнасць альбо адсутнасць адной ці нават усіх іх залежыць ад сацыяльнага статуса ўладальніка, традыцый мясцовасці і г. д.*

*2. Невыкананне правілаў геральдыкі знішчае сам герб і яго ідэю, незалежна ад таго, наколькі дасканала выкананы твор.*

*3. Беларуская геральдыка развівалася на самастойнай глебе і на агульнаеўрапейскім тэарэтычным падмурку, убірала ў сябе як польскія, так і нямецкія, і расійскія ўплывы, і пры гэтым выдатна спалучала нацыянальныя і інтэрнацыянальныя рысы і плыні.*

*4. У сваім развіцці геральдыка Беларусі перажыла шэраг перыядаў і этапаў, яна адлюстроўвала праз своеасаблівую прызму галоўныя гістарычныя падзеі, што адбываліся на тэрыторыі краіны.*

# КРЫНІЦЫ І ДАСЛЕДАВАННІ ПА БЕЛАРУСКАЙ ГЕРАЛЬДЫЦЫ



# ГЛАВА 2
# КРЫНІЦЫ І ДАСЛЕДАВАННІ ПА БЕЛАРУСКАЙ ГЕРАЛЬДЫЦЫ

**Першыя гербоўнікі і геральдзісты.** Найбольш старажытныя звесткі па беларускай геральдыцы можна адшукаць у знойдзеным у Стакгольме рукапісе фландрыйскага паходжання, які быў складзены ў XV ст. Гэты рукапіс сярод іншых мае 56 польскіх і 22 «літоўскія» прыватныя гербы.

У той жа час польскі гісторык Ян Длугаш (1415–1480) у сваіх працах пакінуў вопісы як радавых і прыватных, так і дзяржаўных прыватных гербаў. Ен быў больш гісторыкам, чым геральдыстам. Падаючы не толькі вопісы гербаў, але і гісторыю іх узнікнення (рэальную ці ўяўную), аўтар даволі шырока распавядаў аб уладальніку герба, даваў яму характарыстыку, часта (што было ўласціва яго часу) ва ўзнёслых, пахвальных формах. Звышмэтай Длугаша было выпрацаваць апінію аб кожным выдатным шляхецкім польскім родзе, звярнуцца да яго сумлення і ўбачыць, чаго ён варты. Нягледзячы на пэўную заангажаванасць (у чым, зразумела, яго нельга вінаваціць), у ягоных кнігах сустракаецца і геральдычная інфармацыя, звязаная з беларускімі землямі.

У сюжэце, прысвечаным Грунвальдскай бітве, ён згадвае пра нашы вайсковыя харугвы, якія былі ўпрыгожаны гербамі Пагоня і Калюмны.

Першай спецыялізаванай друкаванай працай, што была прысвечана геральдыцы Рэчы Паспалітай увогуле і непасрэдна беларускай (хаця апошняя выступае там пад назвай літоўскай), была выдадзеная ў 1578 г. у Кракаве кніга Барташа Папроцкага «Gniazdo cnot …». Шматлікія звесткі аб гербах у ёй шчыльна пераплецены з генеалогіяй. Багаты ілюстрацыйны матэрыял вельмі часта дапаўняецца фантастычнымі звесткамі аб паходжанні тых альбо іншых родаў. Другая частка кнігі непасрэдна прысвечана «літоўскім» гербам, дзе, акрамя радавых, паказаны зямельныя і гарадскія гербы. Аўтар, які, магчыма, не заўсёды мог праверыць прыйшоўшую да яго інфармацыю, дапусціў шэраг недакладнасцей, што не зніжае каштоўнасці гэтай першай спробы асэнсавання сучаснай аўтару найцікавейшай з'явы. Гэтая праца зрабіла велізарны ўплыў на наступных стваральнікаў і ўладальнікаў гербаў. Нават праз 250 гадоў у дакументах па доказах шляхецтва першай паловы XIX ст. можна даволі часта спаткаць спасылкі на кнігу Барташа Папроцкага.

Даволі значны ўзрост гэтай і аналагічных прац наступных стагоддзяў робіць іх цікавымі не толькі з пункту гледжання тагачаснага разумення ўзнікнення і ўжывання гербавай традыцыі, але і як добрай іканаграфічнай крыніцы.

Багаты пласт менавіта беларускай геральдыкі зафіксаваўся ў нашых старадруках XVI – першай паловы XVII ст. Вядома, што выданне кніг было справай нятаннай. Амаль кожная з іх выдавалася коштам якой-небудзь заможнай асобы. Аўтары і выдаўцы, у адпаведнасці з тагачаснай этыкай, лічылі неабходным размясціць у такой кнізе (акрамя пісьмовага, часта вершаванага прысвячэння) і герб фундатара кніжкі. Такім чынам, захоўваўся даволі багаты зрэз тагачаснай «жывой» геральдыкі, які цесна спалучаўся з «вершамі на герб» той або іншай асобы. Рыфмаваныя панегірыкі ўслаўляюць уладальніка і спрабуюць растлумачыць з'яўленне на гербе той ці іншай эмблемы.

Вельмі цікавай і карыснай, асабліва для нашчадкаў, спробай зафіксаваць тагачасную геральдычную сітуацыю была праца львоўскага злотніка Эразма Коміна. Ён пакінуў пасля сябе рукапісны твор — «Кніга сімвалаў і клейнотаў Каралеўства Польскага …», які скончыў у 1575 г. Гэтая праца аздоблена значнай колькасцю пamastацкі выдатных малюнкаў гербаў (і зямельных таксама), у тым ліку і тых, што тычацца нашай тэрыторыі.




Тытульны аркуш
з геральдычнага зборніка
львоўскага злотніка
Э.Коміна, 1575 г.

Наступнай, пасля Я. Длугаша і Б. Папроцкага, спробай аб'яднаць геральдычны матэрыял была трохтомная кніга «Orbis Polonis…» (1641–1643 гг.), аўтарам якой быў ураджэнец Падоліі Сымон Акольскі (1580–1653). Гэта кніга ўяўляе сабой гербоўнік, выкладзены ў алфавітным парадку. Праца прынесла аўтару не толькі гонар і пашану, але і шмат непрыемнасцей. Матэрыялы, прадстаўленыя ім у кнізе, у звычаях эпохі ўслаўлялі гонар і годнасць, заслугі перад Рэччу Паспалітай уладальнікаў гербаў. Але, паколькі С. Акольскі не здолеў знайсці аднолькавую колькасць гераічных учынкаў для кожнага прадстаўленага ў кнізе, ён часта дапаўняў рэальныя звесткі фантазіяй, даваў аб адных родах звестак больш, чым аб іншых. Тыя, каму дасталося менш друкаванай плошчы, раззлаваліся на яго і нават пачалі цкаваць і прыцягваць аўтара да судовай адказнасці.

Яшчэ больш сумны лёс чакаў ураджэнца ВКЛ Альберта В. Каяловіча (1609–1677). Іезуіт, аўтар шэрагу прац па тэалогіі і гісторыі, ён таксама аддаў даніну геральдычным і генеалагічным даследаванням. Вынікам іх стала чатырохтомная работа «Гербоўнік шляхты Літоўскае». Прадстаўнікі знатных родаў, абураныя тым, што аўтар выводзіць іхняе паходжанне не ад прадстаўнікоў каралеўскіх, антычных і гераічных дынастый, увогуле перакрылі шлях кнізе да друкарні.



Герб «Чорны Анёл»
Навагародчыны.
З кнігі Б. Папроцкага, 1578 г.

У XVIII ст. найбольш значныя працы па геральдыцы пакінулі К. Нясецкі, Ю. Ябланоўскі, Д. Кола, В. Вялядка.

Першым сярод сваіх сучаснікаў па аб'ёму зробленага і пакінутай ім навуковай спадчыне з'яўляецца Каспер Нясецкі (?–1744). Выхаванец Ордэна іезуітаў правёў значную частку жыцця ў Львове і прысвяціў сябе збору геральдычных і генеалагічных звестак у грамадскіх і прыватных архівах. Ён карыстаўся рукапісамі, перапіскай, а таксама працамі папя-



*Герб Жмудзі «Мядзведзь».*
*З кнігі Б. Папроцкага, 1578 г.*



*Герб Тарнава.*
*Малюнак пач. XIX ст.*



*Пячатка Даменіка кн. Радзівіла, кавалера ордэна Белага Арла з радавым гербам.*
*Канец XVIII–пач. XIX стст.*

рэдніх аўтараў. Першы том яго гербоўніка выйшаў з друку ў Львове ў 1728 г. Гэты том, як і наступныя, меў даволі багатыя звесткі па гісторыі, генеалогіі, геральдыцы як Кароны, так і Княства. Другі, трэці і чацвёрты тамы ўбачылі свет адпаведна ў 1738, 1740, 1743 гг. К. Нясецкі, як і яго папярэднікі, не здолеў абысціся без хібаў і памылак. Абапіраючыся на больш раннія працы, а ў большай ступені на архіўныя дакументы, ён часта інтэрпрэтаваў іх адпаведна сваёй прыналежнасці да іезуітаў: у працы рэзка адлюстроўваецца ягоная нецярпімасць да «дысідэнтаў», з аднаго боку, а з другога — дакучлівае ўслаўленне асоб каталіцкага веравызнання ўвогуле і іезуітаў у прыватнасці. Толькі там, дзе дзейнасць тых або іншых асоб не ўваходзіла ў пярэчанне з інтарэсамі Ордэна іезуітаў, К. Нясецкі праяўляў сябе як выдатны знаўца гісторыі і аб'ектыўны даследчык. Закрануты гонар шляхты прычыніў яму яшчэ больш нягоды, чым С. Акольскаму і В. Каяловічу — акрамя позваў у розныя суды, аднойчы натоўп раз'юшанай шляхты пабіў усе шыбы ў ягонай плябаніі пры Краснастаўскім касцёле, дзе на той час ён служыў. Апошні, пяты, том гэтага гербоўніка так і застаўся ў рукапісным стане. Пасля смерці аўтара ён быў дапоўнены і закончаны Станіславам Чаплінскім. Другое, 10-томнае выданне працы К. Нясецкага, убачыла свет у Ліпску ў 1839–1846 гг.

Сучаснікам Нясецкага з'яўляецца Дзімітры Францішак Кола (1694–1766), аўтар лацінска-французска-польскага слоўніка, шэрагу тэалагічных твораў і панегірыкаў. У 1747 г. ён выдаў у Варшаве кароткі трактат аб геральдыцы, у які акрамя гербаў былі ўключаны невялічкія гісторыка-генеалагічныя экскурсы.

Прыкладна ў той жа час працаваў і Юзаф Аляксандр Яблаpoўскі (1712–1777), які выдаў у Львове ў 1742 г. кнігу «Heraldyka...», дзе зрабіў спробу растлумачыць тыя гербы, якія не знайшлі свайго адлюстравання ў працах папярэднікаў, альбо не былі імі растлумачаны. Пры жыцці аўтара гэта кніга была перавыдадзена ў 1748–1751 гг. Другое выданне было значна пашырана і дапоўнена. У 1743 г. у Амстэрдаме Ябланоўскі выдаў генеалагічную табліцу свайго роду, якая была надрукавана другі раз праз шэсць гадоў у Варшаве. Акрамя названых, гэты навагародскі ваявода з'яўляецца аўтарам шэрагу навуковых прац у іншых галінах ведаў, сярод якіх найбольш значнай з'яўляецца выдадзеная ў 1772 г. у Лондане карта Рэчы Паспалітай на 24 аркушах.

У канцы XVIII ст. выйшла праца ўраджэнца Украіны, сына кіеўскага стольніка Войцаха Вінцэнта Вялядкі. Ён валодаў лацінскай, французскай, італьянскай і нямецкай мовамі, пісаў па-польску. Мэтай ягонай працы было перасягнуць паўнатой інфармацыі свайго папярэдніка К. Нясецкага. Вынікам гэтых намаганняў стаў 12-томны рукапісны гербоўнік. Гэты твор утрымоўвае звесткі аб родах Рэчы Паспалітай за XVII-XVIII стст. Пэўна, ведаючы аб сумным лёсе сваіх папярэднікаў, і ў першую чаргу К. Нясецкага, ён не імкнуўся абапірацца на дакументальныя крыніцы. Наадварот, у адпаведнасці з пажаданнямі шляхты ён ахвотна і часта за дадатковую плату ўключаў гераічныя, фантастычныя альбо сфальсіфікаваныя звесткі аб тых альбо іншых родах. Прыжыццёвым выданнем яго геральдычна-генеалагічнай працы быў пяцітомнік «Геральдыка альбо апісанне фамілій, крыві і сувязі радавітай шляхты Польскай і Вялікага княства Літоўскага з іх гербамі». Яно было надрукавана ў Варшаве ў 1794–1796 гг. Першыя тры тамы ахоплівалі літары А, В, С; чацвёрты ад G да D. Пяты том зноў пачынаўся з літары А, і ў ім фігуравалі толькі тыя роды, якія існавалі на час выдання кнігі.



*Герб Вялікага княства Літоўскага «Пагоня». З кнігі Б. Папроцкага, 1578 г.*

Падсумоўваючы вышэйсказанае, адзначым, што ў працах аўтараў гэтых перыядаў няма навукова-тэарэтычных абагульненняў. Тым не менш, пачынаючы з XVI ст., назіраецца ўстойлівы рост цікавасці да геральдыка-генеалагічных даследаванняў, пры гэтым яны часта маюць практычны падмурак: мець магчымасць у любы момант пацвердзіць сваю шляхетнасць і знатнасць. Гэта абумоўлівала для юпрэтэндэнтаў шанс заняць пэўнае, і часта даволі высокае месца ў сацыяльнай іерархіі тагачаснага грамадства.

*Пячатка з выявай герба Януша Радзівіла, кн. Біржанскага і Дубіцкага, падкаморага ВКЛ. 1641–1650 гг.*



**Працы і даследаванні па геральдыцы у XIX–XX стст.** У перыяд Расійскай імперыі практычная значнасць і папулярнасць прац аўтараў папярэдніх перыядаў значна ўзрасла. Праведзены расійскімі ўладамі т.зв. «разбор шляхты» даў моцны штуршок да «паланізацыі» беларускай прыватнай геральдыкі. Прэтэндэнты на пацверджанне сваіх правоў, асабліва тыя, хто страціў па якіх-небудзь прычынах пісьмовыя дакументы, пачынаюць актыўна (калі не ліхаманкава)

шукаць доказы свайго шляхецтва менавіта ў старых кнігах-гербоўніках.

«Разбор шляхты», што распачаў расійскі ўрад, ускосна спрыяў стварэнню даволі значнага масіва дакументацыі, звязанай з прыватнаўласніцкай геральдыкай. У фондах губернскіх, дваранскіх, дэпутацкіх сходаў назапасілася вялізная колькасць дакументаў: асабістых спраў, генеалагічных кніг, пратаколаў, дэкрэтаў, выракаў пасяджэнняў павятовых і губернскіх дваранскіх сходаў, у якіх утрымоўваецца багатая генеалагічна-геральдычная інфармацыя.



*Герб «Баумгартэн». Малюнак пачатку XIX ст.*

Аналагічныя, але больш абагульненыя звесткі па беларускаму, ды і па іншых рэгіёнах былой Расійскай імперыі, былі назапашаны і ў фондзе Дэпартамента Герольдыі, які існаваў пры Сенаце ў Пецярбургу. Акрамя прыватнай геральдыкі, там можна таксама знайсці і каштоўныя звесткі па гарадской геральдыцы розных перыядаў. Гэта могуць быць як каляровыя малюнкі (як правіла XIX ст.), так і адбіткі старажытных гарадскіх пячатак (часта больш ранняга перыяду), гербы і праекты гербаў, што былі распрацаваны Гербавым аддзяленнем Дэпартамента Герольдыі ў Пецярбургу ў 40–60-я гг. XIX ст.

Пэўную (праўда, у некаторых выпадках не зусім дакладную) інфармацыю па геральдыцы, у прыватнасці, мясцовай, можна адшукаць у статыстычных апісаннях губерняў, якія стваралiся ў 50–70-я гг. XIX ст. афіцэрамі Генеральнага штаба Расійскай імперыі. Найбольш поўна такія звесткі прыведзены ў працах славутага віцебскага навукоўца-краязнаўца А. П. Сапунова (1851–1924), але інтарэсы апошняга абмяжоўваюцца Полаччынай і Віцебшчынай. Асаблівая ўвага ўдзелена А.П. Сапуновым Віцебску. Тут ён сабраў амаль вычарпальную інфармацыю, а агульны аб'ём назапашанага ім матэрыялу (не толькі ў галіне сфрагістыкі, а краязнаўства ўвогуле) можа быць прыкладам і сённяшнім навукоўцам. Дзеля справядлівасці можна адзначыць пэўную прамаскоўскую арыентацыю гэтых выданняў, але, з аднога боку, сабраныя ім дакументы часта гавораць значна больш таго, што жадаў сказаць укладальнік, а з другога, без гэтай арыентацыі наўрад ці ягоныя працы прайшлі б цэнзурныя забароны пецярбургскага ўрада.



*Пячатка места Віцебскага, 1559 г. Паводле публікацыі А. Сапунова*

Вельмі каштоўнай крыніцай для гарадской геральдыкі з'яўляюцца аўтэнтычныя прывілеі на магдэбургскія правы беларускім гарадам. На жаль, на сённяшні дзень даследчыкам вядома нязначная колькасць гэтых прывілеяў, хаця на самой справе іх было больш за паўтысячы. Справа тлумачыцца тым, што адпаведна з існаваўшай пры царызме практыкай, усе гарады, якія імкнуліся пацвердзіць свае старажытныя правы і вольнасці, абавязаны былі прадстаўляць атрыманыя імі прывілеі ў арыгінале. Як паказала практыка, адасланыя дакументы (а часта гэта былі дзесяткі аўтэнтычных грамат, прывілеяў, дакументаў) надзейна асядалі ў сховішчах архіваў Міністэрстваў унутраных альбо замежных спраў. Спробы як дарэвалюцыйных, так і сучасных даследчыкаў з Беларусі дакладна высветліць іх месцазнаходжанне не прывялі да якога-небудзь станоўчага выніку.



*Герб места Віцебскага. З выдання А. Сапунова, 1597г.*

Значны пласт геральдычнай інфармацыі захоўваецца ў старажытным архіве ВКЛ — Метрыцы Вялікага княства Літоўскага. Сюды ўносіліся ўсе дакументы, якія выходзілі пасля зацвярджэння іх дзяржаўнай пячаткай. Такім чынам, тэкставая, у адрозненне ад візуальнай, інфармацыя захавалася больш поўна. Адзіным выключэннем з гэтага з'яўляецца справа, дзе прыведзены канфірмацыйныя прывілеі гарадам, якія датуюцца канцом XVIII ст. У іх прыведзены і каляровыя малюнкі гербаў. Але і гэты архіў таксама быў вывезены з Беларусі і захоўваецца сёння ў Маскве.



*Герб места Крычаўскага. З актыкацыі прывілея ў кнігах Метрыкі ВКЛ. Малюнак пяром. Першая палова XVII ст.*

У канцы XVIII ст. у Пецярбургу быў выдадзены чатырохтомны «Общий гербовннк дворянских родов» (1797). Разам з «Дополнениями» (1803–1809), якія занялі таксама чатыры тамы, гэтая праца з'яўляецца каштоўнай крыніцай, якая змяшчае багаты і цікавы матэрыял не толькі па цэнтральных рэгіёнах Расіі, але і па «літоўскіх і рускіх».

Наступным вопытам такога ж плану з'яўляецца «Росийская родословная книга», якая выдавалася ў 1854–1857 гг. князем Пятром Даўгарукім. Гэта найбольш поўны і лепшы гербоўнік Расійскай імперыі сярэдзіны XIX ст. Акрамя іншых звестак у ім ёсць інфармацыя аб радаслоўі літоўскіх, рускіх і некаторых польскіх сем'яў.

У 1881 г. у Віцебску быў выдадзены «Аршанскі гербоўнік», які змяшчае гербы і звесткі аб даволі шматлікіх шляхецкіх родах Аршанскага павета на канец XVIII – пачатак XIX ст.



*Герб места Мазырскага. Малюнак з канфірмацыйнага прывілея 1680 г.*

# ПРЫВАТНЫЯ ГЕРБЫ ШЛЯХТЫ




*Прыватны герб Яна Глябовіча, мінскага кашталяна, скарбніка ВКЛ. 1583–1584 гг.*




*Прыватны герб Тэадора Скуміна-Тышкевіча, навагародскага ваяводы і г.д. З віленскага выдання 1618 г. (Liskevičene J. S. 271).*



*Прыватны герб Эльжбеты Шэметаўны Пацавай, троцкай ваяводзіны. З віленскага выдання 1652 г. (Liskevičene J. S. 295).*



*Прыватны герб Ганны Млоцкай, жонкі Крыспіна Кіршэнштэйна. З віленскага выдання 1666 г. (Liskevičene J. S. 179).*

Побач з расійскімі публікацыямі крыніц і геральдыка-гістарычных даследаванняў з'яўляюцца працы, прысвечаныя гэтай жа тэматыцы і на польскай мове. Адным з першых у гэтай галіне быў Ст. Крыжаноўскі (1841–?), які выдаў у Кракаве ў 1870 г. «Slownik Heraldyczny», дзе акрамя прыватнаўласніцкіх згадваецца шэраг як гарадскіх, так і ваяводскіх гербаў.

Неардынарны пункт погляду на шляхі развіцця «рускай» геральдыкі выказаў у сваёй працы «Znaki pieczetne Ruskie» (Парыж, 1862 г.) А. Вярыга-Дарэўскі (1815–1874). Ён, маючы на ўвазе беларускія і ўкраінскія гербы, імкнецца даказаць іхнюю цесную сувязь з літарамі славянскага алфавіту і адначасова абвінавачвае сваіх папярэднікаў у «папсаванні» геральдыкі і нават называе іх у палемічным захапленні «ілгунамі і баламутамі».

Прафесар Ягелонскага ўніверсітэта Фр. Пекасінскі (1844–1906) ў сваім даследаванні (Кракаў, 1899), разглядаючы крыніцы ўзнікнення польскай і «рускай» (маецца на ўвазе ізноў-такі беларуская і ўкраінская) геральдыкі, бачыў іхнія вытокі ў заходніх уплывах. У прыватнасці, ім была выказана рунічная тэорыя іхняга паходжання. Такім чынам, ён у пэўнай ступені салідарызаваўся з вышэйназваным А. Вярыгам-Дарэўскім.



*Герб «Бонча» (Адзінарог). Малюнак пачатку XIX ст.*

У другой палове XIX ст. з'яўляецца шэраг прац расійскіх даследчыкаў, прысвечаных рускай (у сэнсе расійскай) геральдыцы, сярод якіх асобнае месца займае А.Б. Лакіер (1824–1870). Як адзначалі сучаснікі, яго кніга «Русская геральдика» (Спб., 1855) была «первой и блистательной попыткой», «трудом замечательным». У гэтай працы А.Б. Лакіер прадстаўляе чытачу шырокую рэтраспектыву шляхоў узнікнення і развіцця гербаў у Заходняй Еўропе, а таксама на тэрыторыі ўласна Расіі. У кнізе таксама прыведзены табліцы з дзвюма сотнямі гербаў і прозвішчамі іхніх уладальнікаў, якія мелі пэўныя генеалагічныя сувязі з тэрыторыяй як Рэчы Паспалітай у цэлым, так і Беларусі ў прыватнасці.

Наступнай постаццю, якая аддала даніну геральдыцы, быў Пётр фон Вінклер. Ягоная праца, прысвечаная гербам гарадоў, губерняў, абласцей і пасадаў Расійскай імперыі, была сустрэта шырокай грамадскасцю з пэўнай прыхільнасцю.



*Адбітак пячаткі з гербам слуцкага губернатара Крыштафа Вінклера. Прыціснута да дакумента 1669 г.*



*Герб «Астоя».*
*Малюнак пачатку XIX ст.*



*Пячатка гаспадарскага дваранiна Яна Казiмiра Пашкевiча з радавым гербам, 1633 г.*



*Пячатка гаспадарскага дваранiна Яна Казiмiра Пашкевiча з прыватным гербам, 1645 г.*

У кнізе сабраны гербы, у тым ліку і тыя, што існавалі на беларускіх землях. Варта адзначыць, што П.П. Вінклер сабраў у адзінае гербы перыяду Расійскай імперыі, толькі асобныя з апублікаваных ім матэрыялаў кранаюць больш глыбокія гісторыка-геральдычныя пласты, заглыбляючыся ў папярэднія перыяды, але гэта зусім не тычыцца Беларусі.

Выдатным творам, прысвечаным прадмету нашай працы, з'яўляецца кніга "Геральдыка" (1908) захавальніка Маскоўскай зброевай палаты Ю.В. Арсеньева (1857–1919). У ёй, між іншым, зусім слушна адзначаецца, што значная частка расійскіх гербаў адносіцца да прадуктаў «канцылярыйнай геральдыкі. Сюды ж далучаюцца і прыдуманыя ў пачатку XVIII ст. графам Санці гербы гарадоў». Ю.В. Арсеньеў бачыць наступную задачу расейскіх геральдыстаў: «па магчымасці выправіць дапушчанае безгустоўе».

У пачатку XX ст. праблемамі геральдыкі займаўся польскі даследчык Віктар Віттыг, які, разглядаючы ў сваіх працах прыватную геральдыку, аддаў даніну мясцовай геральдыцы Беларусі, якую ён адносіў на рахунак дасягненняў польскай культуры. Такога ж пунку гледжання прытрымліваўся і шчыры патрыёт Гродна Юзаф Ядкоўскі. Пяру апошняга належаць артыкулы, прысвечаныя геральдыцы і ўвогуле мінуўшчыне гэтага слаўнага места.

Вялікая калекцыя перамалёвак адбіткаў пячатак беларускіх местаў захоўваецца ў зборах вядомага польскага нумізмата і геральдыста, ураджэнца Віленшчыны М. Гумоўскага (1881–1974). Гэты збор, які захоўваецца зараз у Кракаве, мае шмат інфармацыі аб помніках гарадской геральдыкі Беларусі. Паміж іншым, там зафіксаваны ўзоры пячатак, якія не знойдзены сёння ў нашых архівах. У гэтым жа архіве неблагі фонд згаданага вышэй В. Віттыга.

Асобныя фрагментарныя звесткі па геральдыцы сустракаюцца ў працах па краязнаўству і гісторыі гарадоў у паслярэвалюцыйны перыяд. Але ідэалагічныя путы і гістарычная канцэпцыя «старшего брата» на доўгі час стрымалі даследаванні ў галіне беларускай геральдыкі.

Толькі ў пасляваенны час, у 50–60-я гг. XX ст., былі зроблены першыя спробы звярнуць увагу грамадства на гэтую цікавую старонку нацыянальнай культуры. У артыкулах І.Г. Чыгрынава, А.І. Пякарскага рабіліся спробы разгляду гарадскіх гербаў. Пры гэтым галоўная ўвага ўдзялялася гербам познегеральдычнага (расійскага) перыяду. Гэта тлумачыцца той крыніцазнаўчай базай, якой карысталіся названыя даследчыкі (галоўным чынам ужо згаданым Поўным зборам законаў

Расійскай імперыі і публікацыямі вышэйназваных А.Б. Лакіера, П.П. Вінклера, Ю.В. Арсеньева).

Прыцягненне да даследаванняў дакументаў архіўнага комплексу (і не толькі нашай краіны) дазволіла ў значнай ступені пашырыць (як колькасна, так і якасна) інфармацыйную базу па пытаннях гарадской геральдыкі Беларусі і прадэманстраваць наяўнасць новага, больш глыбокага пласта ў нашай гістарычнай спадчыне. Менавіта гербы, створаныя ў час існавання «жывой» геральдыкі, адлюстроўвалі асаблівасці жыцця і духоўныя адметнасці нашых прашчураў (адначасова яны абвяргалі міф аб «спрадвечнай вясковасці беларускага люду» і адсутнасці ў яго ўласных гістарычных каранёў).

Расійская савецкая даследчыца Н. Собалева (Масква), пакідаючы па-за ўвагай уласна беларускія гарадскія гербы, ясна і аб'ектыўна ацэньвае агульныя памкненні царызму на знішчэнне мясцовых асаблівасцей у геральдыцы і замяшчэнне старадаўніх сімвалаў такімі, якія б адпавядалі ідэалагічным устаноўкам царызму. Між іншым, да аналагічных вывадаў прыйшла і іншая, таксама расійская даследчыца Н.Ф. Дзямідава (Масква), якая вывучала гарадскія гербы і пячаткі Башкірыі.

Першая праца, дзе была зроблена спроба асвятлення геральдыкі беларускіх местаў, была кніга «Гербы беларускіх гарадоў» (Мн., 1983, аўт. А. Цітоў). Другой кнігай, якая значна дапаўняла і ўдакладняла яе, была «Гарадская геральдыка Беларусі» (Мн., 1989) таго ж аўтара. Найбольш поўна пададзена гарадская гербавая спадчына Беларусі ў яго наступнай кнізе «Геральдыка беларускіх местаў» (Мн., 1998).

Грунтоўнае даследаванне алегарычнага сэнсу скарынаўскай геральдыкі, а таксама агляд геральдычнай традыцыі на Беларусі зроблены Г. Пікарда (Лондан–Парыж).




*Адбітак пячаткі з гербам места Слуцкага. 70-я гады XVIII ст.*



*Пячатка Шклоўскай майдэборыі часоў графа Зорыча. Канец XVIII ст.*

Канец 80-х – пачатак 90-х гг. мінулага стагоддзя і падзеі, звязаныя з набыццём нашай краінай незалежнасці, далі новы моцны імпульс геральдычным даследаванням. У гэты час распачынаецца даволі вострая палеміка ў дачыненні да дзяржаўнай сімволікі, абумоўленая проціплегласцямі ў поглядах камуністычнай партыі, якая ў значнай ступені саступіла з палітычнай арэны, і памкненнямі новых грамадска-палітычных плыняў. У перыядычным друку гэтага часу на гэту тэму актыўна выступалі Г.Я.Галенчанка, А.П.Грыцкевіч, М.А.Ткачоў, А.А.Трусаў, М.П.Касцюк, Г.Я.Штыхаў і шмат іншых навукоўцаў.

Грунтоўная спроба вывучэння і ўвядзення ў навуковы зварот нашай радавой і прыватнай геральдычнай спадчыны была зроблена ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. У 1997 г. быў выдадзены «Малы гербоўнік Наваградскай шляхты», складзены С. Рыбчонкам і Зм. Яцкевічам. Пасля яго пачалося выданне гербоўніка шляхетных родаў, якія былі зафіксаваны на тэрыторыі былой Мінскай губерні. На сёння выйшла два тамы: першы ўключае прозвішчы асобаў і родаў, якія пачыналіся на літару «А» (Мн., 2002), і другі — на літару «Б» (Мн., 2007). На жаль, гэтая карысная справа рухаецца, па розных прычынах, марудна, чакаць нецярплівым чытачам і спецыялістам яе заканчэння прыдзецца, відаць, яшчэ шмат часу.

Падагульняючы вышэйнапісанае, адзначым:

*1. Крыніцамі па геральдыцы з'яўляюцца манеты (нумізматычныя помнікі), пячаткі (сфрагістычныя помнікі), помнікі свецкай і духоўнай архітэктуры, надмагіллі і г.д.*

*2. Сярод пісьмовых помнікаў вылучаюцца радаводныя кнігі, асабістая перапіска і іншая дакументацыя, замацаваная адпаведным чынам; старажытныя кнігі; гербоўнікі, як рукапісныя, так і друкаваныя. Пры вывучэнні апошніх неабходна рабіць папраўкі на асабістыя пазіцыі аўтараў і грамадскія ўмовы стварэння гербоўнікаў.*

*3. У перыяд Расійскай імперыі працягваецца назапашванне геральдычных ведаў з адначасовым разгрупаваннем геральдычных матэрыялаў. Аўтары гэтага перыяду часта разглядаюць геральдычную спадчыну праз прызму польскай і расійскай геральдыкі, не заўсёды пакідаючы месца ў ёй для Беларусі.*

# ГЛАВА 3
# ПРЫВАТНАЯ ГЕРАЛЬДЫКА

Першапачатковай прычынай узнікнення гэтай з'явы была, безумоўна, неабходнасць падкрэсліць сваe ўласніцкія правы на тую альбо іншую рэч, вылучыўшы яе сярод падобных ёй, але якая належыць іншаму гаспадару, пазначыць межы тэрыторыі, на якой жыў род ці племя. На практыцы гэта прыводзіла да неабходнасці ўжывання пэўных сімвалаў. Пры аднолькавасці функцый нават у славянскім асяроддзі яны мелі розныя назвы: гмерк, грань, знак, знамя, кляймо, клейно, метка, рубеж, стан, станіца, тамга, таўро, цэх і г.д.

Гэтыя сімвалы адлюстроўваліся на сцягах, рэчах і зброі, яны замянялі і подпіс на ўзаемных дамовах ва ўсіх выпадках, калі трэба было пазначыць сваю руку альбо падкрэсліць уладальніцкія правы. На думку некаторых навукоўцаў, першасны знак — знак радавой уласнасці — быў, за рэдкім выключэннем, выявай татэма «прабацькі» дадзенага роду. На працягу часу татэм схематызаваўся, потым «псаваўся» (праз даданне розных рысак, крыжыкаў і г.д., альбо зняцце прадстаўнікамі наступных пакаленняў пэўных дэталяў ці выкарыстанне малодшымі родамі пэўнай часткі татэмнай выявы — лапы, крыла, галавы, дзюбы, сківіц, клыкоў і г.д.). У выніку, з цягам часу, выява татэму дэталізавалася і трансфармавалася да непазнавальнасці, а змены ўмоў жыцця выкрэслівалі ў рэшце рэшт і саму памяць пра першаўзор.

Важным момантам, які спрыяў назапашванню эмблематычных сімвалаў (некаторыя з якіх сталі пазней гербамі на абшарах Вялікага княства Літоўскага, Польшчы і Украіны), былі радавыя знакі, якія сфарміраваліся пад уплывам германскіх і скандынаўскіх рунаў. Гэтая рунічная гіпотэза была створа- на больш як сто гадоў таму Францішкам Пекасінскім і, нягледзячы на вострую крытыку як тады, так і пазней, яна не была абвергнута на такім узроўні, каб ад яе можна было б поўнасцю адмовіцца.

РУНЫ — старажытнае пісьмо германцаў, якое ўзнікла ўжо ў IV ст. з лацінскіх літар, змененых прымяняльна да валакністай структуры драўніны, на якой яны вырэзваліся. Круглыя і дугападобныя абрысы замяняліся ламанымі, пазёмныя — косымі. Такая тэхніка пісьма пераносілася з дрэва на камень, метал, рог і г д. Акрамя гэтага, руны выкарыстоўваліся ў магічных мэтах.

Паўночна-скандынаўскае ***rita*** альбо нямецкае ***ritzen*** абазначае напісанне шляхам вышкрабавання на дрэве (параўн. беларускі выраз са Статутаў «...**рыць**» пячаткі) у адрозненне ад пісання чарнілами альбо фарбамі, што на гоцкай мове гучала ***meljan***, а па-нямецку ***malen*** (параўнай бел. *маляваць*).

Перанясенне культурных элементаў ад аднаго да іншага народу непасрэдна, альбо праз нейкі трэці бок, і засваенне гэтых элементаў ёсць з'ява зусім натуральная і сёння. Як сведчаць этнаграфічныя паралелі, некаторыя народы іншы раз бяруць асобныя сюжэты ў сваіх суседзяў, але, як правіла, пры выбары абапіраюцца не на пэўныя выявы якіх-небудзь істотаў ці прадметаў, а на тое, чаго няма ў бяручых (напрыклад, адсутнасць у славян рунічнага пісьма і наяўнасць яго ў германскіх і некаторых іншых народаў). Гэта можа растлумачыць з'яўленне ў славян рунападобнай сімволікі. З пэўнай ступенню верагоднасці да яе можна аднесці выявы з рознымі варыяцыямі стралы, крыжовых матываў і г. д.



*Фрагмент дакумента з подпісамі-клейнамі баяраў і валашчанаў Чачэрскай воласці, 1551 г.*



*Бортныя клейны чачэрскіх старцаў, 1555 г.*

З другога боку, нельга скідваць з уліку і той факт, што ў перыяд разлажэння радавога ладу жыцця ўзнікае разнастайнасць сімвалаў. Чалавек, набраўшыся смеласці адмовіцца ад знака-татэма, часта абіраў сваім знакам які-небудзь прадмет побыту, з якім ён быў цесна звязаны ў паўсядзённым жыцці і ад якога часта залежаў ягоны дабрабыт. Калі ўлічыць той факт, што прадметы побыту былі ў асноўным вельмі падобнымі, асабліва ў тых народаў, што знаходзліся на адной ступені развіцця форм гаспадарання і ў прыкладна адным геаграфічным асяроддзі, дык становіцца зразумелым шырокае распаўсюджанне аднатыповых, амаль аднастайных сімвалаў на вялікіх геаграфічных абшарах.

Гэтыя «прагеральдычныя» звычаі былі ўласцівыя для амаль усіх народаў і працягвалі сваё існаванне ў пэўных колах нашага насельніцтва і пазней, калі беларускія землі апынуліся ў сферы распаўсюджання геральдычнай традыцыі. У той час назіраецца як прыстасаванне і ўліццё мясцовых сімвалаў у рэчышча агульнаеўрапейскага працэсу, так і пэўны антаганізм паміж старымі і новымі традыцыйнымі сімвалавымі выявамі.

Гарадзельскі прывілей 1413 г. замацаваў пазіцыі класічнай геральдыкі праз прыём у гербавыя брацтвы 47 сем'яў буйных магнатаў ВКЛ. Такое наданне ўнесла новы струмень




*Прыватны герб Льва Пацэя, берасцейскага земскага пісара. Малюнак пяром, 1594 г.*



*Пячатка Юрыя Ільініча, графа на Міры, 1569 г.*



*Герб «Кентаўр» на пячатцы Андрэя Сямёнавіча, кн. Гальшанскага, 1533 г.*



*Герб «Лебедзь» Бжэзінскіх. Малюнак пачатку XIX ст.*



*Пячатка з гербам «Памян» баярына гродскага Андрэя Нарковіча, 1543 г.*

у працэсы гербатворчасці, хаця не магло істотна змяніць агульнай карціны, калі тысячы і сотні тысячаў сем'яў працягвалі карыстацца сваімі "старасвецкмі" клейнамі, пакрысе рэдагуючы іхні выгляд пад абрысы гербаў (дадаючы шчытытаркі, прылбіцы, кароны, клейноты, намёткі і г.д.).

Добрай ілюстрацыяй пэўнага "геральдычнага антаганізму" ў ВКЛ на пачатак XV ст. з'яўляецца ўрывак з летапісу Быхаўца. У ім падаецца погляд тутэйшага чалавека (аўтара) як на заключэнне Гарадзельскай уніі, так і на прычыны, якія вымусілі гэта зрабіць. Адным з галоўных матываў на карысць прыёма польскіх гербаў быў аргумент Вітаўта: «**Ведь же колі карону** (каралеўскую — А. Ц.) **прынесут, і вы ім за сім можете лісты** (прывілей на гербы — А. Ц.) **назад адаслаці, а свае старыя узяці**». Такім чынам, шляхецка-гербавае братэрства разглядалася Вітаўтам і ягонымі паплечнікамі толькі як часовы сродак для дасягнення сваёй канчатковай мэты — каранавання, а гэта значыць, выхаду да атрымання поўнага юрыдычнага прызнання і збаўлення ад залежнасці ад Польшчы, у якую трапіла ВКЛ у выніку Крэўскай уніі 1385 г., падпісанай Ягайлам.

Той жа аўтар летапісу крыху вышэй прыводзіць довады мясцовай знаці супраць Гарадзельскай уніі: «**... ляхове не былі шляхтай, але былі людзі простыя, яны не мелі гербау сваіх і вялікімі дары таго даходзілі ад чэхау... і шляхтай іх пачынілі і гербы сваі ад іх прынялі, але мы шляхта старая, рымская... не патрабуем жадных інных гербау, новых, але трымаемся старых сваіх, што нам продкі заставілі**». Пакідаючы на сумленні аўтара сцвярджэнне аб «рымскасці» паходжання нашай шляхты, адзначым, што згадка аб старых гербах зусім слушная. Яшчэ адным сведчаннем існавання гэтага дагеральдычнага пласта. што быў шырока распаўсюджаны на абшарах колішняга ВКЛ, з'яўляецца згадка іншага летапісца. Ён, гаворачы пра разлад, які адбыўся паміж шляхтай ВКЛ і Кароны падчас сойму ў Петрыкаве, адзначаў: «**...Од таго часу стала велика немилость межы панами литовскими и коронными... во панове литовские ... гербы, которые собе были от поляков до печатий за Ягайла побрали, знову им назад отослали а своими старыми печатоватися почали...**». Гэта, менавіта, і ёсць першасныя эмблемы – сімвалы, якія былі ў шырокім ужытку ва ўсіх колах тагачаснага грамадства і якія толькі паступова пачыналі станавіцца правадзейнымі гербамі ў магнацка-шляхецкім асяроддзі.



*Крыж Ордэна рыцараў Божай труны. Нясвіжскі касцёл. XVII ст.*



*Срэбная бляха з гербам віленскага біскупа І.Я Масальскага. Канец. XVIII ст.*



*Нагробак бурмістра места віленскага Федаровіча і яго сына, з выявай мяшчанскага герба. Апошняя трэць XVI ст.*



*Металічная бляха з гербам «Стрэмя» (з труны чашніка Ашмянскага пав. Людвіка Бучынскага). Канец XVIII ст.*

## ГЕРАЛЬДЫЧНЫЯ КАФЛІ XVI –XVII стст.*

(з выявамі радавых і прыватных гербаў розных шляхецкіх фаміліяў).



* *Захоўваюцца у музеях Вільні, Гродна, Мінска, Оршы.*

Сярод найбольш старажытных прыватных гербаў, што фігуруюць у летапісах, адзначаюцца наступныя: Кітаўрус (кентаўр), Ружа, Калюмны, Урусін (ад лац. Ursus — мядзведзь), а таксама Пагоня. Гэтыя гербы захаваліся на нашай тэрыторыі як у якасці прыватных, так і ў якасці дзяржаўных (Пагоня). Сярод вышэйпералічаных, мабыць, Урусін сустракаецца найбольш эпізадычна. Нам здаецца, што з'яўленне згадак аб ім у так званых «беларуска-літоўскіх» летапісах ёсць вынік рэдактарскай працы жмудскіх ідэолагаў, якія імкнуліся такім чынам далучыць Жмудзь праз уключэнне зямельнага герба Мядзведзя ў агульнае рэчышча гісторыі і геральдычнай традыцыі ВКЛ. Што тычыцца астатніх згаданых гербаў, дык яны былі шырока вядомы ў «кармазінавым» саслоўі (так часам называлася прывілеяванае саслоў'е — шляхта за кармазінавы — чырвоны, з ухілам да малінавага альбо цёмнавішневага, колер адзення). Вядомы па сведчанню Я. Длугаша герб Калюмны, «якім Вітаўт кляйміў сваіх коней», належаў у XVII ст. і Лаўрыну Фядзюшку, падстаросце берасцейскаму.




Герб «Пагоня» кн. Чартарыйскіх. Малюнак пач. XIX ст.

Славуты герб Кентаўр, якім карысталіся князі Гальшанскія і Гедройцы, быў ва ўжытку і некаторых прадстаўнікоў больш дробнай шляхты.

Герб Самсон, які ўзнік, бясспрэчна, пад уплывам біблейскай традыцыі, быў у карыстанні шэрагу родаў былой Рэчы Паспалітай. Адным з такіх быў прадстаўнік беларускага роду Дзяружынскіх (Дзяржынскіх). Захавалася прашэнне 1887 г. мазырскага ўезднага лекара Феліцыяна Іосіфа Дзяржынскага аб далучэнні да роду і выданні пасведчанняў аб дваранстве дзецям яго роднага брата — нябожчыка Эдмунда (у тым ліку і «славутаму» Феліксу-Руфіму). Гэты дакумент засведчаны пячаткай прасіцеля з выявай Самсона, што змагаецца з ільвом, а род Дзяржынскіх карыстаўся афіцыйна гербам Суліма! Нам здаецца, што гэта не проста гульня выпадку, а, хутчэй, адлюстраванне пэўнага сімвалавага дуалізму, які існаваў яшчэ ў XIX ст. на Беларусі.



*Герб «Самсон». Малюнак пач. XIX ст.*

# ГЕРБЫ СА СТАРАДРУКАВАНЫХ ВЫДАННЯЎ




Григореи алеѯандровичь, х(о)дкевича. панъ виленьскїи гетманъ наивышїи. великаго кнзьства литовскаго. староста городеньскїи и могилевскїи.

*Прыватны герб Грыгорыя Аляксандравіча Хадкевіча. З заблудаўскага выдання «Евангелля вучыцельнага...», 1569 г.*




*Прыватны герб Астафія Валовіча, канцлера ВКЛ. З віленскага выдання «Зборніка навучэнняў ...», 1585 г.*




*Прыватны герб Багдана Агінскага, троцкага падкаморага. З еўеўскага брацкага выдання «Новы запавет з Псалтыр'ю», 1611 г.*




*Радавы герб Адама Кіселя. З віленскага брацкага выдання «Малітваў паўсядзённых», 1635 г.*

# ГЕРБЫ СА СТАРАДРУКАВАНЫХ ВЫДАННЯЎ



*Радавы герб Феадарыта Сапегі, віцебскага падкаморага. З віленскага брацкага выдання «Новага запавета», 1623 г.*




*Радавы герб Мікалая Максімавіча Ломскага. З віленскага брацкага выдання «Бяседаў духоўных», 1627 г.*



*Радавы герб Хрыстафора Трызны. З віленскага брацкага выдання «Малітваслова», 1652 г.*



*Герб «Галава дзіка» Станіслава Дэнгофа, полацкага ваяводы, польнага гетмана ВКЛ. З кнігі «Трактат мудрасці духоўнай». Вільня. Медзярыт, 1722 г.*

# ГЕРБЫ СА СТАРАДРУКАВАНЫХ ВЫДАННЯЎ



*Прыватны герб Лаўрэна Дрэвінскага. З віленскага брацкага выдання «Трэбніка», 1622 г.*




*Прыватны герб Багдана Сцеткевіча, магілёўскага падкаморага. З кіеўскага выдання «Апостала» Спірыдона Собаля, 1630 г.*




*Прыватны герб Аляксандра Агінскага, надворнага харужага ВКЛ. З віленскага альбо еўеўскага выдання «Новага Запавета», 1641 г.*




*Прыватны герб Міхаіла Сцеткевіча, кашталяна навагародскага. З куцеінскага выдання «Новага Запавета з Псалтыром», 1652 г.*

Калі рэцыдывы гэтай з'явы сустракаліся ў канцы XIX ст., дык яна была звычайнай у XV–XVI стст. Унутрыпалітычныя наступствы ў грамадстве ў сувязі з перамогай контррэфармацыі негатыўна адбіліся на захаванні гербаў, што паходзілі ад старажытных мясцовых клейнаў. Поўнасцю яны ніколі не былі выціснуты з ужытку, нават частка з іх была адаптавана і ўвайшла ў агульную скарбонку гербаў Рэчы Паспалітай. Да гэтых гербаў належаць гербы Корсакаў, Пацэяў і інш. Тым не менш большая частка старажытных гербаў-клейнаў была выціснута са звароту. Гэта тлумачыцца тым, што носьбіты гэтай эмблематыкі — праваслаўныя і пратэстанты, пераходзячы ў каталіцка-уніяцкае вызнанне, адначасова мянялі і сімвалавы антураж.

Акрамя таго, асобы, што атрымоўвалі шляхецтва, набывалі аўтаматычна і правы на «паўнавартасны» герб. У вайну караля Жыгімонта III Вазы за шведскую спадчыну ў пачатку XVII ст., падчас штурму каля Феліна (зараз знаходзіцца на тэрыторыі сучаснай Эстоніі) апорнага пункта ягоных апанентаў, удзельнічаў атрад дабраахвотнікаў з віцебскіх мяшчанаў, які ўзначальваў Марка Ілініч Лытка. За свае арганізатарскія здольнасці і мужнасць ён атрымаў у 1606 г. прывілей на шляхецкую годнасць і права называцца Фелінскім. Летапіс Панцырнага і Аверкі 1690 годам згадвае і пра ягонага ўнука [?], бурмістра віцебскага Давіда Фелінскага-Лытку.

Уздым уладальніка па прыступках іерархічнай лесвіцы не мяняў істотна гербавай эмблемы. Падляшскі ваявода Васіль Тышкевіч у 1569 г. лістапада 5 дня атрымаў ад Жыгімонта Аўгуста прывілей на графскі тытул. Як сказана ў тым прывілеі, «**... гербом прыроженым Лелива печатовати мают...**» і што яны «**яко упрывилиованые кграфы тым зацным тытулом кграфским писатися мели**». Такая каралеўская ласка была дадзена Васілю Тышкевічу, «**детям его милости, потомком и щадком**», за тое, што



*Радавы герб Тышкевічаў, графаў на Лагойску і г.д., з віленскага выдання 1672 г. (Liskevičene J. S. 277).*



*Пячатка Лаўрына Фядзюшкі, падстаросты берасцейскага, з гербам «Калюмны» у першым полі, 1631 г.*



*Пячатка Аляксандра Паўла Сапегі, маршалка ВКЛ, 1709 г.*




*Герб Сімяёна Войны, мсціслаўскага кашталяна. З віленскага выдання «Евангелля вучыцельнага», 1595 г.*



*Прыватны герб Мікалая Уладзіслава Юдыцкага, навагародскага кашталяна. З віленскага выдання 1671 г. (Liskevičene J. S. 173).*



*Пячатка Гедэона Міхаіла Трызны, падскарбія і пісара ВКЛ, 1644 г.*

ён **«з молодости лет своих... в посольствах до Волох,... до Москвы будучи посылан, так и в войсках против неприятелей панств наших завжды мужне, не литуючи здоровья и маентности своей, ласку нашу господарскую заслуговал, а в лавицы нашей таемной будучи, радою своею мудрою годне и пожиточне нам Господарю и Речи Посполитой служил».** Вядома, што і іншыя адгалінаванні роду Тышкевічаў карысталіся гербам Лялiва, але, у адрозненне ад Васілёвай галіны, яны не мелі правоў аздабляць свой герб графскімі атрыбутамі. Прыкладна такая ж сітуацыя склалася і з родам Радзівілаў, якія, атрымаўшы тытул князёў Рымскай імперыі, адлюстравалі гэтую падзею адпаведнымі атрыбутамі ва ўпрыгажэнні герба — княжацкімі каронамі, прылбіцамі, наміткамі і мантыямі.

## ГЕРБЫ СА СТАРАДРУКАВАНЫХ ВЫДАННЯЎ



*Радавы герб «Грымайла» Казаноўскіх. З віленскага выдання 1642 г. (Liskevičene J. S. 177)*



*Радавы герб «Лебедзь» Шэметаў. З віленскага выдання 1642 г. (Liskevičene J. S. 269)*



*Радавы герб «Астоя» Служак з кнігі «Трактат Мудрасці духоўнай ...», Вільня, медзярыт, 1722 г.*



*Радавы герб «Газдава« Пятра Міхаэля Паца, генерала Самагіцкага . З віленскага выдання 1685 г. (Liskevičene J. S. 211)*




*Прыватны герб Зафеі (Сафіі), княжны з Друцка Горскай Хадкевічаўны, ваяводзіны віленскай.*
*З кнігі «Агарод ...». Вільня, медзярыт віленскага гравёра Конрада Гётке, 1646 г.*



*Герб Канстанціна Канстанцінавіча, кн. Астрожскага. З выдання «Астрожскай Бібліі», 1578 г.*



*Герб Льва Іванавіча Сапегі. З Статута ВКЛ, 1588 г.*




*Герб Лукаша Іванавіча Мамоніча, Дзісенскага старосты, скарбніка ВКЛ. З віленскага выдання «Апостала», 1591 г.*




*Герб Ганны Хадкевічаўны, кн. Карэцкай. З еўеўскага выдання «Евангелля вучацельнага ...», 1616 г.*




*Сямейны герб Багдана Агінскага і Раіны Валовіч. З еўеўскага брацкага выдання «Евангелля вучыцельнага», 1616 г.*




*Герб Аляксандра Гвагніна, нададзены яму каралём Жыгімонтам II Аўгустам.*

Добра ілюструе парадак фарміравання нададзенага герба пабудова трохполевага герба славутага аўтара «Сармацыі Еўрапейскай...» Аляксандра Гвагніна (каля 1534–1614 гг). Ураджэнец Вероны герба Рызані (Вожык) прыбыў на Беларусь каля 1558 г., удзельнічаў у вайне з Масквой за Інфлянты як інжынер па фартыфікацыі, пражыў 18 гадоў у Віцебску. За вайсковую мужнасць і заслугі па ўмацаванню абароны горада атрымаў тытул рыцара (17 ліпеня 1571 г.) і правы на герб — аднагаловага арла з каронай і вензелем SA [SIGISMUNDUS AUGUSTUS]. Адначасова атрымаў і дыплом на шляхецтва ад цэзара Рымскай імперыі і адпаведна яшчэ адзін дадатак да герба – двухгаловага арла пад каронай. Такім чынам, яго герб набыў выгляд, дзе адпаведна з іерархіяй гербаў у першым полі знаходзіўся цэзарскі герб, у другім — каралеўскі, а ў дольнай частцы тарка — герб Рызані.

Змена веравызнання таксама забяспечвала акрамя шляхецтва і атрыманне герба. Як сведчыць прывілей 1575 г., які атрымаў Станіслаў Дановіч, які **«без жадного прымушенья и по свой доброй воли з давного и долгого розмышленья и веру свою жидовскую** (пакінуў — А.Ц.), **а на тое месцо правдивую веру и набоженство хрестиянское** (прыняў — А.Ц.)». За гэты учынак С. Дановіч (былы «Ливко») атрымаў шляхецтва і **«знак крiжа светого на сыгнет а печать»**, акрамя таго яму быў дадзены герб — крыж белы ў чырвоным полі [НГАБ у Мінску, КМФ 18, спр. 41, арк.411 зв.— 413].

Прадстаўнікі шляхецкага саслоў'я, імкнучыся замацавацца ў прывілеяваным стане, свядома ці падсвядома адмаўляліся ад старых ЗНАМЕНАЎ і пераходзілі да карыстання новымі. Гэты працэс узмацніўся пасля далучэння да Расійскай імперыі. Пецярбургскія ўлады ў 70–80-я гг. XVIII ст. наладзілі разгляд шляхецкай годнасці і правоў прадстаўнікоў «кармазінавага саслоў'я». Іншым станам не дазвалялася выкарыстоўваць яго ў вопратцы. Цікава адзначыць, што калі шляхецтва якой-небудзь асобы выклікала сумненні, гаварылі — «няпэўны кармазін». У суды прадстаўляліся дакументы і пасведчанні аб шляхецкім паходжанні пэўных асоб. Таму ў судовых кнігах гэтага перыяду можна часта спаткаць дакументы пад назвай «Актыкацыя радавітасці...», «Акт генеалогіі...» і таму падобныя. Яшчэ больш жорстка расійскія ўлады пачалі дзейнічаць у час паўстання 1831 г., калі быў выдадзены ўказ (19 кастрычніка 1831 г.), паводле якога асобы, што не здолелі прад'явіць пісьмовыя доказы свайго шляхецтва, пераводзіліся ў аднадворцы ці мяшчане. Зразумела, што такія дзеянні расійскай улады падштурхнулі шляхту да інтэнсіфікацыі практычных генеалагічна-геральдычных «даследаванняў». Пачаліся пошукі пісьмовых сведчанняў, і вось тут якраз не апошнюю ролю адыгралі працы геральдыстаў мінулых



*Сямейны герб Антонія Юзафа Салагуба, графа на Іліі, Івянцы і г. д., і Брыгіты, князёўны з Радзівілаў, ваяводзіны навагародскай. З віленскага выдання 1744 г. (Liskevičene J. S. 235)*



*Пячатка Юрыя Алелькавіча, кн. слуцкага, капыльскага і г.д., з выявай радавога герба, 1584 г.*



*Герб «Даленга». Малюнак пач. XIX ст.*



*Герб «Сляпы воран». Малюнак пач. XIX ст.*

стагоддзяў: на пачатак XIX ст. ужо існавала даволі шматлікая польскамоўная літаратура, прадстаўленая працамі Барташа Папроцкага (XVI ст.), Сымона Акольскага, Альберта Віюка Каяловіча (абодва XVII ст.), Каспера Нясецкага, Войцаха Вялядкі (абодвы XVIII ст.). Названыя і іншыя аўтары былі шырока вядомыя на тэрыторыі былой Рэчы Паспалітай і да іхніх прац як да апошняй інстанцыі пачалі актыўна звяртацца, асабліва тыя асобы, якія не мелі цвёрдых пісьмовых дакументаў. Зразумела, яны, знаходзячы там свае прозвішчы (або сугучныя са сваімі!), абіралі і гербы, якія належалі іх аднафамільцам. Такім чынам, адбылася значная замена гербаў у асобаў, што былі зацверджаны ў дваранстве расійскімі ўладамі. Тыя ж роды, што былі пераведзены ў аднадворцы ці мяшчане, увогуле страцілі правы як на «знамена» першага пласта, так і на гербы.

Рост адукацыйнага ўзроўню насельніцтва, размыванне саслоўнага падзелу ўвогуле звузілі прэзентацыйна-«спажывецкія» функцыі герба, пакінуўшы яму ўжо у канцы XIX ст. толькі дэкаратыўную ролю. Але гэта не памяншае значэнне герба як найкаштоўнейшай гістарычнай крыніцы, з аднога боку, а з другога — ролі стрыжня ў самавызначэнні і самапавазе кожнай асобы, якой ён дастаўся па волі гісторыі.

Нягледзячы на такі лёс, наша прыватная геральдычная спадчына даволі багатая. Калі ў Польшчы налічваецца 200 гербаў, дык на Беларусі, на нашу думку, гэтую лічбу можна падвоіць альбо патроіць, часткова і за кошт пласта папярэдніх гербаў — клейнаў. Адзначым, для параўнання, што ў Германіі колькасць гербаў пераўзыходзіць 200 тысяч.

Беларуская геральдычна-эмблематычная спадчына ўмоўна падзяляецца на дзве асноўныя групы: натуральную і штучную. Да першай адносяцца гербы, на якіх адлюстраваліся аб'екты, створаныя самой прыродай. Адпаведна з такой класіфікацыяй выдзяляюцца наступныя падгрупы — антрапаморфныя,

зааморфныя (на гербах адлюстраваны як прадстаўнікі рэальнага, так і міфалагічнага жывёльнага свету), фітаморфныя гербы (з выявамі раслін), а таксама гербы з выявамі нябесных цел.

Другая група ўключае ў сябе ўсё тое, што створана рукамі чалавека. Найбольш улюбёнымі сімваламі гэтай групы з'яўляюцца стрэлы, мечы, крыжы, падковы, прадметы побыту і г.д.

У чыстым (аднаасобным) выглядзе эмблематычныя выявы сустракаюцца не вельмі часта. Як правіла, гэтыя гербы ўяўляюць сабой спалучэнне двух (радзей трох ці болей) розназоўных прадметаў альбо абстрагаваных сімвалаў.

Па звычаях сярэднявечча, толькі «сіньёр», альбо старэйшы сын атрымліваў у спадчыну бацькоўскі герб. Малодшыя сыны мусілі нейкім чынам відазмяняць герб бацькі, кожны для сябе. Таму пакуль ва ўжытку былі "рунічныя станіцы", якія ўяўлялі сабой фігуры, створаныя камбінацыяй рысак, фарміраванне такіх адрозненняў было надзвычай простым і выконвалася праз увядзенне, выключэнне ці змену накірунка пэўных дэталяў і г.д. Пазней, калі ўвайшлі ў зварот заходне-еўрапейскія гербы, якія адлюстроўвалі зямныя рэальныя прадметы ці істоты, альбо нават фантастычныя, стварэнне падобных адрозненняў стала вельмі складаным ці нават немажлівым. Напрыклад, каню нельга было ані дадаць пятую нагу, ані адняць адну з чатырох; у арла можна было, праўда, адняць або дадаць галаву ці хвост ці ўвогуле рассекчы яго ўздоўж, выкарыстаць таксама асобныя часткі, але ўсё роўна колькасць такіх варыяцый даволі абмежаваная. З мэтай выйсця з такога становішча ў заходняй геральдыцы замест вар'іравання эмблемы мянялі колеры герба. Хаця і гэты спосаб мог нарадзіць даволі абмежаваную лічбу гербаў.

Больш плённай у гэтым сэнсе была іншая практыка, якая давала значна шырэйшую прастору ў выкарыстанні гербаў, калі



*Герб «Роля». Малюнак пач. XIX ст.*



*Герб «Сас». Малюнак пач. XIX ст.*



*Паліваная кафля з выявай герба “Дуброва”. XVII ст.*



*Пячатка беларускай праваслаўнай святой слуцкай князёўны Зафеі [Сафіі] Алелькавічаўны з радавым гербам «Пагоня», 1602 г.*

побач з радавым існаваў яшчэ і прыватны герб. Першы і аб’ядноўваў увесь род, і належаў у аднолькавай ступені кожнаму яго прадстаўніку. Другі, прыватны, падкрэсліваў індывідуальную прыналежнасць уладальніка праз выкарыстанне гербаў, з якімі ён быў звязаны «па кудзелі» (радство па мужчынскай лініі лічылася «па мячу», а па жаночай — «па кудзелі»). Такім чынам, праз генеалогію ўладальніка індывідуалізаваўся ягоны герб. На сёння яшчэ, праўда, не зусім зразумела, якім чынам выходзілі са становішча, калі ў сям’і было некалькі сыноў, якія фармальна мелі аднолькавыя правы як на бацькоўскі радавы герб (па мячу), так і на герб па жаночай лініі (па кудзелі). Хутчэй за ўсё, старэйшы сын атрымоўваў герб адпаведна вышэй названым фармальным правілам, а малодшыя браты вымушаны былі ўносіць пэўныя адрозненні ў свае асабістыя гербы. На жаль, гэты аспект пытання вывучаны яшчэ не вельмі дасканала.



*Металёвая бляха з труны з аб’яднанымі гербамі «Карыбут II» і «Юнаша». Сямейны герб, з жаночай труны. Канец XVIII ст.*

Увогуле, у прыватнай геральдыцы ўжываліся віды гербаў — радавы і прыватны. Калі першы належаў усім прадстаўнікам роду,



*Кніжны” герб князёў Радзівілаў. XVIII ст.*



*Кафля з прыватным гербам Тэадора Абуховіча. Першая палова XVII ст.*

дык другі складаўся, як правіла, з чатырох або пяці самастойных гербаў і належаў толькі адной канкрэтнай асобе. Згодна законам геральдыкі ў чатырохполевым шчыце гербы размяшчаліся у наступным парадку: у першым полі — бацькоўскі герб, у другім — матчын, у трэцім — герб бабкі па бацьку, у чацвёртым — бабкі па маці. Такім спосабам у прыватным гербе фіксаваліся звесткі пра два папярэднія калены роду. У пяціполевым шчыце дадаваўся таксама герб прабабкі па бацьку.

У беларускіх старадруках XVI–першай паловы XVII ст. часта сустракаюцца два таркі з прыватнымі гербамі, аб’яднанымі ў адзін. Гэта сямейныя гербы. На першым месцы размяшчаецца герб мужа. на другім — жонкі. У архітэктуры, прыкладным мастацтве, сфрагістыцы часта можна спаткаць радавыя гербы, аб’яднаныя па таму ж прынцыпу, дзе адзін дамінуючы (мужнін) герб аб’яднаны з другім (жончыным). Замужнія кабеты пануючых класаў таксама карысталіся пячаткамі з сямейнымі гербамі, хаця былі і выключэнні.




*Герб “Крыжастрэл”. Мал. пачатку XIX ст.*



*Асабісты герб доктара вызваленых навук і медыцыны Францыска Скарыны. З дрэварыта.1517 г.*



*Герб Капенгагена, XVI ст.*

Сваімі функцыямі валодаюць і асабістыя гербы. Найбольш вядомым для шырокай грамадскасці з'яўлецца герб усходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны. Паводле тагачасных звычаяў, у еўрапейскіх універсітэтах асобы нешляхетнага паходжання, дамогшыся ступені доктара, праходзілі набілітацыю, г. зн. набывалі асабістае шляхецтва. Разам з доктарскай мантыяй набілітант атрымоўваў і пярсцёнак з выявай асабістага герба. Падчас атрымання звання доктара медыцыны Ф. Скарына ужо меў ступень доктара «вызваленых навук». Вось чаму ў дакументах Падуанскага універсітэта няма ніякіх слядоў набілітацыі Скарыны. Яна адбылася раней, у Капенгагене, а двойчы гэтая працэдура не праводзілася. З наданнем шляхецкай годнасці набілітаваны адорваўся ўсімі правамі і прывілеямі шляхты (толькі без права перадаваць іх у спадчыну), а таксама правам карыстацца асабістым гербам.

Пасля сканчэння Кракаўскага універсітэта (у кастрычніку 1506 г.) шлях Ф. Скарыны губляецца з поля зроку даследчыкаў да лістапада 1512 г. Дзе ж быў Скарына гэтыя шэсць гадоў? Здаецца, адказ дае скупы радок у біяграфіі Скарыны, які ўспамінае, што ён быў сакратаром дацкага караля. Са сталіцай Даніі Капенгагенам звязана не толькі служба ў якасці каралеўскага сакратара. Скарына, хутчэй за ўсё, працягваў сваю адукацыю і менавіта тут атрымаў ступені доктара мастацтваў — вызваленых навук і магістра медыцыны.

Якія ж падставы меркаваць, што Скарына вучыўся ў Капенгагенскім універсітэце? Як вядома, 5 лістапада 1512 г. віцэпрыёр калегіі Падуанскага універсітэта Фадзей Мусаці, выступаючы перад членамі калегіі, сказаў: «Ёсць адзін вельмі вучоны, але бедны юнак, які ўжо мае ступень доктара мастацтваў і жадае аддацца заняткам медыцынай». У дакументах Падуанскага універсітэта Скарына яшчэ два разы называецца «доктарам». Гэта не было рытуальнай далікатнасцю, бо тая ж калегія, калі гаворыцца пра медыцыну, называе Скарыну «магістрам Францыскам». Нагадаем, што ў Кракаўскім універсітэце ён атрымаў (10 кастрычніка 1506 г.) толькі ніжэйшую вучоную ступень «бакаляра вызваленых навук» (бакалаўра філасофіі). Наступныя ж ступені — доктара мастацтваў, магістра медыцыны — былі ім атрыманы ў іншым месцы, найбольш верагодна, у Капенгагене.

Скарынаўскі герб мае непасрэдную сувязь з Капенгагенам. Сонца з месяцам — гэта элементы гарадскога герба. Цікава, што падобную сімволіку выкарыстоўвалі нідэрландскі тыпограф і дацкі першадрукар Готфрыд ван Глемен з Брабант,

пазней і друкар Мадс Вінгаард. Данія абавязана Готфрыду ван Глемену тым, што ён надрукаваў у 1495 г. першую кнігу на нацыянальнай мове — «Дацкую рыфмаваную хроніку».

У адрозненне ад дацкага першадрукара на скарынаўскім гербе спалучаны дзве асобныя эмблемы — выявы зоркі і месяца — у адзін суцэльны герб.

Гаворка пра герб Скарыны будзе няпоўнай, калі пакінуць па-за ўвагай дзве выявы ў верхняй частцы яго партрэта.

З правага боку пададзены т. зв. «шалі», а з левага — «друкарскі прэс». Гэтыя назвы, якія і прыдаліся па схематычнаму падабенству з арыгіналамі, ні ў якім разе не адпавядаюць сэнсу саміх выяў. Тут мы маем справу не з гербамі, хоць выявы і размешчаны на геральдычных, турнірных шчытах (тарках), а з асабістымі эмблемамі — клейнамі. Яны былі таксама ўласніцка-распазнавальнымі знакамі і адыгрывалі тую ж ролю, што і шляхецкія гербы. Клейны, пярсцёнкі з імі былі ва ўжытку бюргерства і нават сялянства. Кляйно давалася ў спадчыну, часам сыны дадавалі да яго адну-дзве рысачкі, каб адрознівалася ад бацькоўскага ці іншых дарослых членаў сям'і, якія жылі асобна. Незалежна ад саслоўнага становішча ўладальніка ў штодзённым жыцці клейны часта называлі гербамі. Больш таго, некаторыя з іх з цягам часу набылі нязменны выгляд і сталі гербамі, а іншыя, з-за ваенных ліхалеццяў, эканамічнага заняпаду ўладальнікаў, згубіліся ў нетрах гісторыі.

Так званыя «шалі» — гэта бацькоўскае кляйно, якое належала Луку Скарыне. Нездарма Францыск вельмі часта змяшчае яго побач са сваім гербам, часта на першым месцы. Гэтае размяшчэнне стасуецца з культам павагі да бацькоў, якой патрабуе адпаведны біблейскі запавет.

Крыху радзей сустракаецца іншае кляйно-герб — «друкарскі прэс». Узапраўду — гэта кляйно роду маткі Францыска. Яно на партрэце — з левага, значыць, менш пачэснага, боку ад постаці асветніка, і ў мастацкай аздобе скарынаўскіх выданняў сустракаецца вельмі рэдка параўнальна з папярэднім кляйном.

Факт, цалкам зразумелы, — Францыск быў носьбітам прозвішча і прадаўжальнікам роду бацькі — Лукі Скарыны. На матчына кляйно ён не мог мець ніякіх правоў, бо па жаночай лініі клейны не перадаваліся, як і прозвішчы. Ды не толькі гэта, але і тагачасная традыцыя былі прычынай, што ўплывала на дзеянні Скарыны.

Мова геральдыкі, дзякуючы яе алагічнасці, алегарычнасці і абстрагаванасці,будзе нараджаць шмат версій падчас яе тлу-



*Герб Даніі з каралеўскім гербам на шыльдзе і элементамі гарадскога. З кнігі «Рыфмаваная хроніка» Готфрыда ван Глемена*



*Мяшчанскія радавыя клейны бацькі Лукі [Іванавіча] і маці Ф. Скарыны. З дрэварыта.1517 г.*



*Пячатка з кляйном-«гербам» полацкага баярына Сенькі Фядковіча, 1545 г.*

мачэння, але назаўсёды застанецца закрытай для поўнай расшыфроўкі. У гзтым сэнсе лягчэй уявіць агульную карціну развіцця гэтага феномену — геральдыкі, чым спрабаваць даць расшыфроўку асобных дэталяў.

Сімвал ёсць строга індывідуальны камунікацыйны знак, які не можа быць у такім сціслым выглядзе адлюстраваны праз дапамогу іншых сродкаў (напрыклад, пісьма). Ён акумулюе ў сабе элементы надгістарычныя, якія не падлягаюць зменам у храналагічнай прасторы. Эмблематычна-геральдычная сімволіка пры значнай яе кансерватыўнасці таксама падвяргалася зменам. На гэтыя працэсы ўплывалі не толькі індывідуальныя асаблівасці ўладальніка, але і асяроддзе, у якім ён знаходзіўся (уплыў хрысціянскай ідэалогіі, культурны і адукацыйны цэнз асобы, нарэшце, яе жыццёвы шлях і г.д.). У пэўнай ступені мадыфікацыі падвяргаліся не толькі знешні выгляд герба, але і алегарычны сэнс эмблемы. Камунікацыйныя функцыі герба заключаюцца не толькі ў наяўнасці пэўнай эмблемы, але і ў фарбах як яе, так і гербавага поля. Акрамя гэтага, форма тарча, прылбіцы, клейнота і іншых дэталяў уключае ў сябе пэўны пласт інфармацыі аб уладальніку. Ключом для разумення гэтай мовы можа быць імкненне ўладальніка герба, з аднаго боку, вылучыць сябе з шэрагу сабе падобных праз падкрэсленне сваіх індывідуальных фізічных і псіхалагічных годнасцей (магчыма, у пэўных выпадках чыста ўяўных), з друго- га — акрэсліць сваю прыналежнасць да асобнага больш ці менш замкнёнага асяроддзя.

Вывучэнне багацця геральдычнай спадчыны трэба праводзіць з вялікай асцярожнасцю. Геральдысты XVI–XVIII стагоддзяў зафіксавалі вялікую колькасць сучасных ім гербаў, але, не разумеючы мовы сярэднявяковай сімволікі і часта жадаючы дагадзіць уладальнікам гербаў, пачалі тлумачыць генезіс гербаў рознымі легендамі, байкамі. Гэтая акалічнасць вымушае сённяшніх даследчыкаў ставіцца да іхніх звестак з вялікай пільнасцю і асцярожнасцю.

Такім чынам, варта адзначыць:

*1. Неабходнасць падкрэсліць свае асабістыя правы, вылучыць свой род альбо сябе з навакольнага асяроддзя вымушала да стварэння і шырокага ўжытку ўласніцка-распазнавальных сімвалаў.*

*2. З пачатку XV стагоддзя пачынаецца інтэнсіўнае пранікненне геральдычнай традыцыі на абшары ВКЛ, паступовы выціск са звароту папярэдняй эмблематыкі. Пазней, у перыяд Расійскай імперыі, назіраецца працэс "паланізацыі" беларускай прыватнай геральдыкі, што адлюстравалася не столькі ў адаптацыі сімволікі, колькі ў прыняцці яе ідэалагічнай базы.*

*3. У беларускай прыватнай геральдыцы было некалькі відаў гербаў:*

*** радавыя,** якія падкрэслівалі прыналежнасць уладальніка да пэўнай суполкі асобаў, аб'яднаных агульным паходжаннем па мужчынскай лініі.*

*** прыватныя**, што належалі канкрэтнай асобе і, у адрозненне ад гербаў папярэдняй групы, падкрэслівалі праз уключэнне ў герб матчыных, бабчыных і іншых сімвалаў індывідуальнасць уладальніка;*

*** асабістыя,** якія атрымоўвалі людзі нешляхетнага паходжання, што вылучыліся ў якой-небудзь галіне (навуцы — атрымалі доктарскую ступень у еўрапейскім універсітэце, вызначыліся падчас вайсковых дзеяў — праявілі асабістую мужнасць і кемлівасць, нанеслі значную шкоду ворагу і прынеслі вялікую карысць сваім). **Гэтыя гербы не перадаваліся ў спадчыну;***

*** сямейныя,** яны ўтвараліся шляхам механічнага аб'яднання радавых альбо прыватных гербаў мужа і жонкі. Як правіла, герб мужа знаходзіўся ў дамінуючым стане ў адносінах да жончынага.*

# ГЛАВА 4
# КАРПАРАЦЫЙНАЯ СІМВОЛІКА

Для перыяду феадалізму характэрна саслоўная арганізацыя грамадска-палітычнага жыцця, калі кожная асоба ясна асэнсоўвала сваю прыналежнасць да пэўнага кола ў соцыуме. Гэтыя колы-саслоўі мелі свае ўласныя правы і абавязкі ў дачыненні да вярхоўнай улады і да прадстаўнікоў іншых саслоўяў.

Даволі шматлікім і важкім як па колькасці, так і па сваёй ролі ў дзяржаве было мяшчанскае саслоўе. Жыхары местаў і мястэчкаў (мяшчане), хоць і мелі агульныя ўмовы існавання, жыццёвыя каштоўнасці і сацыяльны статус у дзяржаве, падзяляліся на дзве групы, юрыдычнае становішча якіх было не зусім аднолькавым. Выдзяляліся жыхары тых мест, што карысталіся магдэбургскім правам, і тых, што не мелі такіх правоў. Аб апошніх у дадзенай главе не будзе ісці гаворка ўжо таму, што яны не карысталіся агульным гербам (што было адзнакай гонару для мяшчан «упрывілеяваных местаў»), а мелі толькі прыватныя «гербы» — клейны. Іншая сітуацыя складвалася з мяшчанамі тых мест, якія атрымоўвалі самакіраванне паводле магдэбургскага права. Менавіта яны і з'яўляюцца носьбітамі і карыстальнікамі карпарацыйнай геральдыкі. Яна, у сваю чаргу, падзяляецца на тры асобныя галіны, якія шчыльна пераплецены паміж сабой, але кожная з якіх уяўляе сабой асобны накірунак са спецыфічнымі сюжэтамі і рысамі і сваёй уласнай легітымнай і, у пэўнай ступені, сюжэтнай базай.

Найбольш даследаванай з гэтых галін з'яўляецца гарадская геральдыка, потым ідзе цэхавая (рамесная) і, нарэшце, брацкая геральдыка, якая па сімвалавых матывах мяжуе з рэлігійнай, але сваім паходжаннем больш звязана з беларускім местам і яго насельнікамі — мяшчанамі.

Гарадская геральдыка Беларусі ў сваім развіцці прайшла некалькі этапаў і, адчуўшы на сабе ўплывы розных геральдычных накірункаў, засталася яскравай індывідуальнасцю на тле агульнаеўрапейскай культуры.

Першы этап – дагеральдычны. Яго вытокі сягаюць у глыбокую старажытнасць. Найбольш характэрнымі рысамі гэтага этапу з'яўляецца нараджэнне і выспяванне эмблем з мясцовай традыцыі. Менавіта тут узнікае герб Навагродка – «Чорны анёл» з зусім, здаецца, незразумелай сімволікай, калі не ўлічваць яго геаграфічнае і палітычнае становішча як сталіцы Чорнай Русі. На жаль, з-за аддаленасці эпохі, а таксама вельмі абмежаванага матэрыялу, які захаваўся да нашага часу, гэты этап пакуль што зусім не даследаваны. У сувязі з гэтым застаецца невысветленым пытанне аб лічбе гарадоў, гербы якіх маюць такую ж непасрэдную сувязь з дадзеным перыядам (такія, як Навагродак ці Віцебск).

Другі этап — геральдычны. Ён працягваўся з XV да першых дзесяцігоддзяў XX ст. і падзяляецца на два асобныя перыяды — уласна геральдычны і познегеральдычны. Першы — ад XV да XVII ст., наступны — з апошняй чвэрці XVIII да XX ст.

Для першага перыяду геральдычнага этапа характэрна атрыманне гарадамі Беларусі права на самакіраванне. Сам факт атрымання горадам майдэборскага права сведчыў як пра тое, што той або іншы горад дасягнуў у сваім развіцці пэўнай эканамічнай і палітычнай сталасці, так і пра імкненне ўладальніка спрыяць сваім падданым у гэтым. Стварэнне кіруючага органа — «майдэборыі» або «рату-

шы» — абумоўлівала наданне яму пячаткі як атрыбута ўлады і сведчання юрыдычнай правадольнасці.

*Малюнак герба з навагародскага прывілея на майдэборскае права, 1595 г.*

Асобныя найбольш старажытныя пячаткі некаторых гарадоў не мелі выявы, якую можна было б лічыць гербам. Напрыклад, полацкая пячатка XV ст. мела толькі лінейны надпіс, які падкрэсліваў яе прыналежнасць. Мінская пячатка, што зафіксавана на дакументах 1570–1571 гг, мела на шчыце выяву кірылаўскіх літар **ГО/МО**, надпіс на колу **ПЕЧАТЬ МЕНСКАЯ**. Хутчэй за ўсё, літары ў тарку з'яўляюцца абрэвіятурай, якая павінна расшыфроўвацца як **ГОСПОДИ ПОМОЗИ**. Але ў сувязі з тым, што пакуль вядомыя толькі не вельмі ясныя адбіткі, гэтую расшыфроўку трэба лічыць гіпатэтычнай.



*Пячатка навагародскай майдэборыі, 1729 г.*

Ужо ў другой палове XVI і асабліва ў XVII ст. большая колькасць наданняў магдэбургскага права гарадам агаворвае герб «на печать местскую». Абодва паняцці — «герб» і «пячатка» — выступаюць як узаемазамяняльныя, і гэта з'яўляецца сведчаннем таго, што яны успрымаліся сучаснікамі як ідэнтычныя. У прывілеі ад 28 сту-дзеня 1577 г. Магілёву гаварылася: «**Надаем тому месту печать местскую то есть вежу мурованую высоко выведеную**».



*Пячатка Дзісенскай майдэборыі, выразана ў 1669 г.*



*Малюнак магілёўскага герба з прывілея 1577 г.*



*Пячатка Лідскай майдэборыі, выразаная ў 1792 г.*



*Пячатка войтаўскіх урадаў Бярэсця, зафіксаваная на дакументах 1592–1651 гг.*



*Пячатка Крычаўскай майдэборыі, 50-я гады XVIII ст.*



*Пячатка Пінскай майдэборыі, 1670–1692 гг.*

Увогуле, атрыманне герба, які сведчыў аб непадлегласці места і ягоных жыхароў княжацкім і каралеўскімураднікам, было для іх вельмі важнай падзеяй.

Як праходзіў працэс надання магдэбургскага права і выбару эмблемы для герба, невядома. Магчыма, тут адыгрывала ролю ініцыятыва жыхароў горада. У прывілеі Жыгімонта Аўгуста г. Дзісне ад 28 лютага 1567 г. гаварылася: «**Ино били нам чолом абыхмо мещаном того места герб дали**». Але і не выключаецца роля гаспадароў горада ці іх адміністрацыі.

Гарадскі герб — гэта выява, абумоўленая, як правіла, прывілеем на права самакіравання і адлюстраваная на пячатках бурмістраўска-радзецкай калегіі магістрата альбо ўсяго горада разам (у гэтых выпадках выявы па ідэі і канструкцыі — тоесныя). Выявы на пячатках войта альбо войтаўска-лаўнічай калегіі не з'яўляюцца гарадскім гербам. Змест выяў, якія рэпрэзентавалі гарады, можна падзяліць на дзве вялікія групы — функцыянальныя і штучныя гербы.

Функцыянальныя гербы адлюстроўваюць якую-небудзь адметную рысу геаграфічнага становічша горада, ягоную ролю ў абароне краіны, гандлі, гаспадарцы. Большасць гарадоў, якія маюць на сваіх гербах як галоўны або дадатковы элемент выяву зброі, стаяць уздоўж граніц і вельмі добра акрэсліваюць нашу гісторыка-этнічную тэрыторыю — Бярэсце, Пінск, Мсціслаў, Крычаў, Віцебск і іншыя. Да гэтай жа групы гербаў абарончай сімволікі трэба аднесці таксама і гербы гарадоў, на якіх знайшлі адлюстраванне архітэктурныя матывы: выявы вежаў, муроў, брамаў. Гэта гарады Сураж, Магілёў, Камянец, герб на войтаўскай пячатцы Бярэсця і іншыя.

# ГЕРБЫ МЕСТАЎ, ЯКІЯ КАРЫСТАЛІСЯ МАГДЭБУРГСКІМ ПРАВАМ



*Герб Астрыны. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*



*Герб Барысава. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*



*Герб Браслава. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*



*Герб Гарадной. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*



*Герб Геранёнаў. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*




*Герб Пераброддзя. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*



*Герб Прывалак. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*



*Герб Радашковічаў. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*



*Герб Радуні. Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ*




*Новаатрыманыя гербы Магілёўскай губерніі. Малюнак 80-х гг. XVIII ст.*

Гандлёва-гаспадарчыя матывы адлюстраваліся на гербах Полацка, Дзісны, Шклова, Гродна. Першыя тры падкрэсліваюць сваімі гербамі ўласную ролю ў гаспадарцы ўсёй дзяржавы, на іх прадстаўлены выявы трохмачтавага карабля з ветразямі, ладдзі і бязмена. Герб апошняга места – водгук у значнай ступені паляўнічай сімволікі. На ім выява бягучага аленя з залатым крыжам паміж рогамі.

Другая група — штучныя гербы. Яна больш умоўная, чым першая. Эмблемы гэтых гербаў не звязаны прама з той ці іншай асаблівасцю горада. Яны маюць на сабе выяву якога-небудзь святога, як правіла, заступніка горада, герб ці частку герба гаспадара горада або якую-небудзь іншую выяву. Пры вывучэнні гэтай групы гербаў, асабліва з рэлігійнай сімволікай, трэба улічваць той факт, што і яны часта маюць пад сабой нейкія нерасшыфраваныя намі рэальныя глебу і змест, якія з цягам часу былі забыты нашчадкамі, і ўжо зараз, праз прызму іхняга светаўяўлення, да нас дайшлі толькі вонкавыя формы. Калі мы зможам расшыфраваць гэты змест, тады некаторыя з іх перайдуць ужо ў папярэднюю групу функцыянальных гербаў.

Пасля падзелаў Рэчы Паспалітай і далучэння Беларусі да Расіі пачынаецца другі перыяд геральдыкі нашых местаў. Трэба адзначыць той факт, што фарміраванне і існаванне інстытута гарадскога герба ў Расіі пачалося крыху пазней. Як піша даследчыца расійскай гарадской геральдыкі Н. А. Собалева, «...ідэя гарадскога герба ўзнікла пры Пятры I… …пры яго пераймальніках... гарадскія гербы не зацвердзіліся як сістэма. Але з другой трэці XVIII ст. можна назіраць з’яўленне «неафіцыйнай» увагі да гарадскога інстытуту — герба горада…».

Гарадскі герб у якасці сімвала самакіравання горада з’яўляецца ў Расіі толькі з канца XVIII ст.

У 1782 г. адбылося наданне новых гербаў гарадам Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў. Гарады першага атрымалі ў якасці герба стандартную выяву воіна на кані з шабляй у руцэ (герб Пагоня) і адрозніваліся паміж сабой толькі колерам поля шчыта. Усе старажытныя гербы гарадоў, якія апынуліся на тэрыторыі Магілёўскага намесніцтва (як раней і на Смаленшчыне), таксама былі зменены на новыя. Прычым не абышлося і без такіх чыста штучных утварэнняў: на гербе Копысі з’явіўся «черный сидящий заяц в зеленом поле, каковых редких зверьков в окрестностях сего города изобильно».

22 снежня 1796 г. быў зацверджаны Указ Сената аб гербах гарадоў некалькіх намесніцтваў, у тым ліку і Менскага. Толькі пяці гарадам былі пакінуты старыя гербы, праўда, у новай мастацкай рэдакцыі. Гарады, якія сталі цэнтрамі паветаў, атрымалі новыя гербы, якія, на думку іх стваральнікаў,



*Пячатка Крэва. Канец XVIII ст.*



*Паліхромная кафля з выявай слуцкага гарадскога герба. XVIII ст.*



*Малюнак 1850 г. герба Лепеля, з фондаў Дэпартамента Герольдыі Расійскай імперыі*




*Малюнак герба з канфірмацыйнага прывілея Гародні 1718 г.*



*Новаатрыманы герб Дрысы, з Поўнага збору законаў Расійскай Імперыі, 1781 г.*



*Новаатрыманы герб Полацка, з Поўнага збору законаў Расійскай Імперыі, 1781 г.*



*Герб Гродзенскай губерні. Малюнак 1860 г. З фондаў Дэпартамента Герольдыі Расійскай імперыі*

павінны былі адлюстроўваць асаблівасці таго або іншага рэгіёна. Такім чынам, іх цяжка лічыць гарадскімі, хутчэй гэта яўна павятовыя гербы, а гарадам — цэнтрам паветаў, прадпісвалася карыстацца імі.

Пазней, у 40-х гадах XIX ст., гербы наогул пачынаюць давацца ўжо не гарадам, а паветам (за выключэннем Лепеля і Гомеля), таму лічыць гэтыя гербы гарадскімі можна вельмі ўмоўна. Адной з неад'емных дэталяў гербаў гэтага перыяду з'яўляецца, як правіла, уключэнне ў горную частку шчыта губернскага герба, а для размяшчэння выявы, якая мусіла прадстаўляць места, — ўласна гарадскога герба, — заставалася толькі дольная частка шчыта.

Агульная тэндэнцыя гербатворчасці ў расійскі перыяд вылучаецца мэтанакіраваным знішчэннем папярэдніх гербаў як не адпавядаючых прынцыпам самадзяржаўя. Гэта тлумачыцца тым, што стваральнікі «новых» гербаў недвухсэнсоўна ставілі перад сабой задачу праслаўлення царызму і зацвярджэння ягонай улады. Такая сітуацыя ўвогуле дэвальвуе гербы гэтага перыяду прымяняльна да нацыянальных рэгіёнаў былой Расійскай імперыі, дзе яны часта не ўспрымаліся (і не без падстаў), як сімвалы, звязаныя з уласнай гісторыяй і традыцыямі.

У 60-я гады XIX ст. Дэпартаментам Герольдыі ў Пецярбургу былі распрацаваны праекты гарадскіх і губернскіх гербаў Гродзенскай, Віленскай. Віцебскай, Магілёўскай, Менскай і іншых губерняў. Па сваіх мастацкіх якасцях яны былі дасканалей папярэдніх і больш закамуфляваны з ідэалагічнага боку, але свайго зацвярджэння гэтыя гербы так і не дачакаліся.


*Пячатка мінскага сталярска-стэльмахоўска-цяслярскага цэха. Выразана ў 1787 г.*

Калі больш ці менш асветлены пытанні ўласна гарадской геральдыкі. дык цэхавая геральдыка застаецца па-за ўвагай не толькі шматлікіх аматараў мінуўшчыны, але і навукоўцаў прафесійных.

Справа ўскладняецца тым, што на працягу XVI–VIII стст. іх колькасць не заставалася нязменнай. У сувязі з рознымі падзеямі палітычнай гісторыі і эканамічнымі зрухамі адзін або другі цэх знікаў, потым адраджаўся зноў, два, тры, а часта і болей цэхаў аб'ядноўваліся ў адзін, потым з іх вылучаліся новыя.

Як правіла, узнікненне рамесных цэхаў абумоўліваў або прывілей на магдэбургскія правы месту, або асобны дакумент. Вельмі часта прывілей на заснаванне цэха спалучаўся са статутам, або уставам, што рэгламентаваў пэўнымі артыкуламі дзейнасць, правы і у, некаторых выпадках, атрыбуты, якія сведчылі аб юрыдычнай правадзейнасці, цэхавую пячатку і герб. На сённяшні дзень паводле, нельга сказаць вычарпальнай, інфармацыі вядома каля 150 цэхавых установ (на перыяд ад канца XVI да першай паловы XVIII ст. уключна). Але, на жаль, далёка не кожны статут мае вопіс герба, які павінен быў упрыгожваць цэхавую пячатку.


*Пячатка мінскага ганчарска-мулярскага цэха. Выразана ў 50-70-х гг. XVII ст.*

Увогуле ўся цэхавая геральдыка падзяляецца, паводле выяў і ўкладзенага ў іх зместу, на тры групы: **вытворчую, рэлігійную** і **абстрактную**. Найбольш распаўсюджанай, бясспрэчна, з'яўляецца вытворчая, якая, у сваю чаргу, адлюстроўвае як тагачасная прылады працы, так і саму прадукцыю, што выраблялася ў цэху. Трапляюцца гербы, якія аб'ядноўваюць абодва гэтыя віды. Як правіла, вытворчая сімволіка з'яўлялася ў тых выпадках, калі герб на цэхавую пячатку і харугву не быў абумоўлены прывілеем, а, значыць, сам з'яўляўся прадуктам мастацкай і геральдычнай думкі тых, хто заказваў, або тых, хто выконваў пячатку. Адзіным вядомым на сённяшні дзень выключэннем з гэтай групы гербаў з'яўляецца герб, што быў атрыманы магілёўскім кравецкім цэхам 1 лютага 1634 г. У ім гаварылася. што цэх павінен мець «харугву, на якой за герб залаты крыж і нажніцы ў белым полі». Падобная сімволіка, дарэчы, адлюстроўвалася таксама і на харугве Менскага кравецкага цэху.


*Пячатка гродзенскага ганчарска-мулярскага цэха, выразана у другой палове 40-х гг. XIX ст*

Пячаткі з рэлігійнай сімволікай адлюстроўвалі нябеснага заступніка таго або іншага цэху — Магілёўскія гарбары з 1634 г.

# ГЕРБЫ ЦЭХАВЫХ УСТАНОЎ



*Герб магілёўскага гарбарскага цэха, 1634 г.*



*Герб мінскага кушнерска-капялюшнага цэха, 1672 г.*



*Герб магілёўскага купецкага брацтва, 1661 г.*



*Герб мінскага аб'яднанага загармістроўска-збройніцка-кавальска-слясарскага цэха, XVIII ст.*



*Герб магілёўскага аб'яднанага збройніцка-слясарска-кавальска-катлярскага цэха, 1634 г.*



*Герб магілёўскага злотніцкага цэха, 1634 г.*



*Герб магілёўскага кравецкага цэха, 1634 г.*



*Герб навагародскага шавецкага цэха, XIX ст.*



*Герб мінскага кравецкага цэха, XVIII ст.*

мелі за герб на цэхавай харугві выяву Панны Найсветшай. У 1661 г. Магілёўскаму купецкаму брацтву была дадзена «пячатка з вырытым стаячым анёлам з шалямі і крыжам». Больш ранні герб на купецкую пячатку, што быў атрыманы ў 1636 г., уяўляў сабой выяву св. Хрыстафора — заступніка усіх падарожнікаў. Пячаткі з выявамі св. апосталаў Пятра і Паўла былі ва ўжытку ў Менскім і Полацкім кушнерска-гарбарскіх цэхах. А берасцейскія кушняры карысталіся пячаткай, якую упрыгожвала выява сабалінай шкуркі.

Апошняя група — гербы с абстрактнай сімволікай, не звязанай непасрэдна ні з вытворчасцю, ні з рэлігійнымі сімваламі, хаця асацыятыўную сувязь на некаторых гербах прасачыць ўсё ж такі можна. Такім прыкладам з'яўляецца герб Магілёўскага аб'яднанага цэха, у які ўваходзілі мечнікі, слесары, кавалі і катляры. Як бачым, усе гэтыя прафесіі звязаны з апрацоўкай металаў, і толькі апошняя стаіць асобна ад працэсу вытворчасці зброі. У пацвярджальным прывілеі ад 3 чэрвеня 1634 г. гаварылася: «тым звышменованым цэхам за герб пагоню вызначаны таго гербу Пагоня на харугві і пячатцы цэхавай ужываць на вечныя часы». Як бачым, адзін з відаў прадукцыі цэха звязаны з абаронай, і герб усяго цэха адлюстроўвае абарончую сімволіку.

У непасрэднай блізкасці да гэтых груп гербаў знаходзіцца сімволіка брацтваў — аб'яднанняў мяшчан па канфесійнай прыналежнасці. Праўда, яна у роўнай ступені можа быць аднесена і да канфесійнай сімволікі.

Адным з першых атрымала пячатку з выявай св. Троіцы Віленскае праваслаўнае брацтва адпаведна з лістом Канстанцінопальскага Патрыярха ад 21 ліпеня 1589 г. **«печатью наданою им от Патриарха с образом Святой Троицы».**

Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што далёка не ва ўсіх падобных выпадках можна гаварыць аб «чыстых» гербах. Хутчэй, выявы, якія ўпрыгожваюць пячаткі падобных устаноў, уяўляюць сабой сімвалы. Пацвярджэннем гэтай думкі з'яўляецца той факт, што такія выявы не заўсёды лаканічныя і больш адпавядаюць традыцыям малявання абразоў, а не правілам геральдыкі. Гэта ў аднолькавай ступені тычыцца як праваслаўных і грэка-каталіцкіх, так і каталіцкіх брацтваў, а таксама і некаторых іншых устаноў. Нешматлікімі выключэннямі з гэтага шэрагу з'яўляюцца выявы на пячатках Віленскага ці Пінскага капітулаў, а таксама на пячатцы Віленскага брацтва і манастыра св. Духа. На апошняй у рэнесансным шчыце знаходзіцца крыж, у падножжы якога змешчаны перакулены рагамі ўгору маладзік. Дарэчы, на больш позніх пячатках гэтыя



*Пячатка віленскага Свята-Троіцкага брацтва. Прыціснута да дакумента 1634 г.*



*Пячатка брацтва "Успенія Прачыстыя Багародзіцы" (слуцкай замкавай царквы). 1733 г.*



*Пячатка віленскага брацтва Св. Ганны, 1582 г.*

геральдычная формы эмблем губляюцца і усё часцей змяняюцца на літургічныя.

На заканчэнне трэба адзначыць наступныя моманты:

*1. Для беларускай карпарацыйнай геральдыкі характэрна наяўнасць двух асобных этапаў — дагеральдычнага і геральдычнага. Апошні падзяляецца адпаведна на перыяды уласна і познегеральдычны.*

*2. Інстытут гарадскога герба на Беларусі пачынае фарміравацца з наданнем гарадам права на самакіраванне і атрыманнем як неабходнага атрыбута ўлады гарадской пячаткі і герба на яе.*

*3. Перыяд росквіту інстытута гарадскога герба на Беларусі абмяжоўваецца апошнімі дзесяцігоддзямі XVI — першай паловай XVII стагоддзя. Характэрнай рысай яго з'яўляецца імкненне да адлюстравання адметных рысаў, асаблівасцей кожнага места. З канца XVIII стагоддзя адбываецца працэс нівеліравання і знішчэння асаблівасцей гарадскіх гербаў папярэдняга перыяду, частковая замена іх гербамі штучна вынайдзенымі, не маючымі сувязі з гісторыяй і мясцовымі традыцыямі, падмены паняцця «мескі герб» паняццем «герб павятовы». На сённяшні дзень вядома звыш 120 старажытных (магдэбургскіх) гербаў, што належалі местам, размешчаным на этнічных беларускіх землях. Гарадскі герб, як і назва горада, ёсць рэч незнішчальная. Стараннае вывучэнне гэтага інстытута дапамагае як удакладніць асобныя моманты жыцця старажытнага беларускага горада, так і адлюстроўвае месца ўсёй беларускай культуры ў кантэксце сувязей з агульнаеўрапейскай традыцыяй.*

*4. Важнымі часткамі карпарацыйнай геральдыкі з'ўляюцца цэхавая і брацкая геральдыка. У іхняй эмблематыцы знайшлі шырокае адлюстраванне (асабліва ў першай) як вытворчыя, так і міфалагічныя сюжэты. Не былі пакінуты ў баку і рэлігійныя матывы. Калі ў цэхавай геральдыцы яны складаюць каля трэцяй часткі сюжэтаў, дык у брацкай з'яўляюцца цалкам дамінуючымі.*

*5. Цэхавая геральдыка з'яўляецца каштоўнай крыніцай для вывучэння гісторыі як вытворчасці ўвогуле, так і асобных прылад працы на Беларусі. Тыпаж інструментаў можа быць у пэўнай меры паказальнікам культурных і вытворчых сувязей з іншымі краінамі.*

# ГЛАВА 5
# КАНФЕСІЙНАЯ СІМВОЛІКА

Месцазнаходжанне нашай зямлі ў цэнтры Еўропы, перакрыжаванне асноўных гандлёвых шляхоў, якія вялі з захаду на ўсход і з поўдня на поўнач, абумовілі і забяспечылі выдатныя магчымасці для абмену тут не толькі матэрыяльнымі, але і духоўнымі каштоўнасцямі.

У перыяд узнікнення і росквіту геральдыкі ў Еўропе пануючай была рэлігійная ідэалогія. Агульныя для рэлігій — хрысціянства, іудаізму і мусульманства — Стары Запавет і Новы Запавет былі галоўнай сімвалавай базай і жыццятворнай крыніцай, адкуль прадстаўнікі гэтых канфесій чэрпалі геральдычныя і іканаграфічныя сюжэты.

Безумоўна, дамінуючай з'яўляецца, што зусім зразумела, сімволіка хрысціянскіх вызнанняў. У апошняй, са значнай ступенню ўмоўнасці, можна вылучыць рымска-еўрапейскую і грэка-арыентальную групы, з якіх пры больш дробным дзяленні вылучаюцца каталіцкая, пратэстанцкая, уніяцкая і праваслаўная плыні.

Цалкам зразумелым з'яўляецца тое, што найбольш яскравымі геральдычнымі адзнакамі вылучаецца першая група. Гэта тлумачыцца тым, што яна ў большай ступені падверглася ўздзеянням носьбітаў «жывой» геральдыкі. Да прадстаўнікоў грэка-арыентальнай групы яны даходзілі ў больш аслабленым стане.

На мяжы XVI і XVII стст., з перамогай контррэфармацыі на тэрыторыі Беларусі (ВКЛ), а таксама з актывізацыяй агульнаеўрапейскіх кантактаў і сувязей адбывалася значнае пашырэнне геральдычных уплываў на царкоўную эмблематыку. Зваротным вынікам перамогі контррэфармацыі стала як паступовае змяншэнне колькасці вернікаў рымскай канфесіі, што аб'ектыўна звужала базу носьбітаў геральдычнай праваслаўнай і пратэстанцкай традыцыі ўвогуле, так і пэўнае зніжэнне геральдычнага і мастацкага ўзроўню эмблематычных выяў, якія належалі гэтым асяродкам духоўнай культуры (цэрквам, зборам, брацтвам і г. д.).

Дзеля аб'ектыўнасці трэба падкрэсліць яшчэ раз той факт, што паколькі галоўнай крыніцай для ўсіх адгалінаванняў хрысціянскай рэлігіі з'яўлялася Біблія і асноўныя сюжэты, якія адлюстроўвалі сімвалы веры, запазычваліся з яе, то па сваёй пабудове ў сувязі з кананічнасцю Святога Пісання яны не маглі шмат чым адрозніваца нават ва ўстановах, што належалі да розных накірункаў хрысціянства.

У большым аддаленні ад гэтага найбагацейшага масіву сімвалавых выяў стаяць іудзейская і мусульманская эмблематыкі, якія толькі ў некаторай ступені, дзякуючы агульнаму з хрысціянствам ідэалагічнаму падмурку, можна злучыць з вышэйназванай.

Рэцыдывы больш старажытных рэлігійных (паганскіх) пластоў можна спаткаць на шэрагу нашых геральдычных, сфрагістычных і іншых помнікаў. Безумоўна, адным з распаўсюджаных сімвалаў з'яўляецца крыж. Спалучэнне крыжа з сонцам або месяцам успрымалася ў хрысціянстве як сімвалы, што адпавядаюць апакаліптычнай звестцы аб значэнні паўнаты выратавання. Амаль такі ж сэнс мае выява Панны ў небе на целе сонца, пад нагамі якой маладзік і зорны вянок вакол галавы.

Увогуле, сонца, месяц і зоркі як нябесныя свяцілы ніколі аніводнай рэлігіяй не ўспрымаліся як сімвалы зла.

Геральдычныя абрысы крыжа маюць звыш дзвюх сотняў варыяцыяй пры захаваннні асноўнага прынцыпу пабудовы. Створаны шляхам простага перасячэння дзвюх рысак, заключаны ў кола альбо не, ён быў яшчэ ў дахрысціянскія часы і не толькі для Еўропы сімвалам сонца (а значыць, і жыцця), святла, цяпла, агню і г. д.

Больш ускладнёная фігура крыжа (гаммакрыж) са зламанымі і загнутымі пад прамым кутом па гадзіннікавай стрэлцы канцамі — свастыка, а з насуперак зламанымі канцамі — саўвастыка. У перакладзе з мовы старажытных арыйцаў — санскрыта, гэтае слова ***(suaistika)*** азначае: ***su*** — дабро, ***aistika*** — будзе. Такім чынам, атрымліваецца: «дабро будзе» альбо «добра будзе». Свастыка як галоўны сімвал вогнепаклоннікаў была і салярным сімвалам, і знакам сталага аднаўлення і атаясамлівала саюз чатырох галоўных стыхій — агню, вады, зямлі і паветра. Акрамя таго, яна была сімвалам мужчынскага пачатку, а павернутая люстэркава (саўвастыка) — жаночага. Гэты сімвал, народжаны ў старажытнай Індыі, быў шырока распаўсюджаны ў Кітаі, Бірме, на Крыце, Кіпры, у Этрурыі, Грэцыі, Рыме, а таксама і ў шэрагу іншых краін Еўропы. Але ён не быў вядомы на землях, заселеных сяміцкімі народамі. Не сустракаецца ён і ў Егіпце, Вавілоне, Асірыі. Апошні факт і падштурхнуў Гітлера выкарыстаць свастыку ў якасці эмблемы нацызму (чорная свастыка у белым полі — не толькі сімвал рэгенерацыі, але і антысяміцкі знак). Свастыка не была невядомай канструкцыяй і на Беларусі. Яна даволі часта трапляецца археолагам у якасці клейнаў на гліняных вырабах, зафіксавана як на пячатках мяшчанаў, так і ў шляхецкім гербе, які называецца «Барэйка». Другі агульнавядомы сімвал прыйшоў да нас праз пасрэдніцтва Бібліі з сяміцкіх краін — пяцікутная зорка. Адпаведна з паданнем гэтая зорка была на пярсцёнку цара Саламона. Але яна мае больш глыбокія карані: старажытныя іудзеі запазычылі яе падчас егіпецкага палону. Іерогліф гэтага выгляду азначаў у нізоўях Нілу вышэйшую дасканаласць (ва ўзвышаным сэнсе), а на побытовым узроўні гэта была вышэйшая адзнака, якую малявалі на папірусе настаўнікі сваім вучням за добра выкананыя практыкаванні. Праз пасрэдніцтва Бібліі гэты сімвал прыйшоў да нас і адлюстроўваўся ў выглядзе шляхецкага герба «Пяцірог». Апошні можа ўяўляць як чыстую пентаграму (пяцікутнік), так і з упрыгажэннем у выглядзе лілеі на верхнім рагу. Такім жа чынам трапіў да нас іудзейскі сімвал — зорка цара Давіда. Яна ўяўляе два (аднолькавага памеру) роўнакутнікавыя трохкутнікі, якія накладзены адзін на адзін і накіраваны вяршынямі ўгару і на дол. Гэты сімвал вельмі характэрны для



*1. Пячатка двараніна гаспадарскага Васка Івановіча, 1565 г.*
*2. Пячатка Каралеўскага казацкага ротмістра Міхайлы Бурагі, 1567 г.*
*3. Пячатка віленскага мешчаніна Івана Бяляя, 1583 г.*
*4. Пячатка слонімскага мешчаніна Дзмітра Сцяпанавіча Дзешкі, 1592 г.*
*5. Пячатка пінскага лаўніка Міхно Вашковіча, 1597 г.*
*6. Пячатка пінскага райцы Івана Броўшы, 1599 г.*



*Герб «Пяцірог». Малюнак пачатку XIX ст.*



*Менора, сямісвечнік. Дрэварыт з выдання 1517 г. Ф. Скарыны*

прадстаўнікоў беларускай сінагогі і сустракаецца, праўда, даволі рэдка, як біблейскі сімвал на некаторых гербах шляхты хрысціянскага вызнання і паходжання.

Другі сімвал — менора (свяцільнік-сямісвечнік) — вельмі распаўсюджаная выява. Адпаведна з паданнем менора была выраблена падчас вандра- вання яўрэяў у пустыні і мела выгляд правільнага дрэва, са ства-ла якога выходзіць шэсць галін, па тры з кожнага боку. Зробленая з чаканнага золата агульнай вагой каля цэнтнера, яна мела памер каля трох локцяў у вышыню. Менора з'яўлялася сімвалам стварэння свету за сем дзён. Цэнтральная вяршы- ня абазначала святы для ўсіх іудзеяў дзень шабат (суботу). Акрамя таго. яна ўвасабляла «шэсць бакоў зямлі і сем нябёсаў».

У хрысціянстве семантычнае значэнне сямісвечніка заключаецца ў знаменаванні сямі таінстваў праваслаўнай царквы, адпавядае сямі духам Божым, сямі пячаткам таямнічай кнігі, сямі трубам анёлаў, сямі чашам Божага гнева, сямі ўсяленскім саборам, сямі перыядам зямной гісторыі чалавецтва, сямі колерам вясёлкі і г.д. Карацей кажучы, менора адпавядае таямнічай лічбе сем, «якая знаходзіцца ў аснове шматлікіх нябесных і зямных законаў існавання».



*Пячатка Абрама Мажэйковіча, гомельскага арандатара, 1677 г.*

Цалкам зразумела тое, што хрысціянкая сімволіка з'яўляецца дамінуючай у канфесійнай геральдычнай спадчыне Беларусі. Яна падзяляецца на два вялікія накірункі: уласніцкапрыватны і карпарацыйна-царкоўны. Да першага належаць пячаткі, гербы духоўных асобаў і іерархаў, да другога — сімвалы, якімі карысталіся духоўныя ўстановы — цэрквы, касцёлы, зборы, манастыры, кляштары. капітулы, брацтвы і г. д.



*Пячатка духоўнага равіна мястэчка Мір, 1879 г.*

Першы накірунак вельмі шчыльна аб'ядноўваецца з прыватнай геральдыкай і адрозніваецца ад яе наяўнасцю атрыбутаў, якія сведчаць аб прыналежнасці ўладальніка герба да духоўнага сану. Асноўнымі сярод іх, якія недвухсэнсоўна падкрэсліваюць прыналежнасць уладальніка да духоўнага саслоўя, з'яўляюцца такія атрыбуты, як мітра, клабук, капялюш з кутасамі, ляска, альбо пастараль, меч, ключы.

# ГЕРБЫ ПРАВАСЛАЎНЫХ ІЕРАРХАЎ




*Герб Пятра Магілы, мітрапаліта Кіеўскага, экзарха Канстанцінопальскага, архімандрыта Пячорскага. З куцеінскага выдання 1637 г.*




*Герб Сільвестра Косава, епіскапа Мсціслаўскага, Аршанскага і Магілёўскага. З куцеінскага выдання 1637 г.*




*Герб Іосіфа Гарбацкага, епіскапа Віцебскага, Мсціслаўскага, Аршанскага і Магілёўскага. З куцеінскага выдання 1652 г.*



*Пячатка з гербам Іосіфа Нелюбовіча Тукальскага, епіскапа беларускага. 1663 г.*

## ГЕРБЫ І СІМВАЛЫ ПРАВАСЛАЎНЫХ ІЕРАРХАЎ І ЦЭРКВАЎ



*Пячатка Ціхана, епіскапа пінскага і тураўскага, 1525 г.*



*Герб Мялеція Храптовіча, епіскапа Уладзімірскага і Берасцейскага, архімандрыта Кіева-Пячорскай Лаўры. Да 1593 г. (Мал. А. Леўчыка).*



*Пячатка віленскага Святадухава брацтва, 1589 г.*



*Пячатка пінскага манастыра Св. Варвары, 1621–1624 гг.*



*Пячатка слуцкага манастыра і царквы Св. Троіцы, 1690 г.*



*Пячатка слуцкай царквы Пераўтварэння Божага, 1665 г.*



*Пячатка аршанскага Куцеінскага манастыра. Сярэдзіна XVII ст.*



*Пячатка мсціслаўскага Тупічаўскага Святадухава манастыра, 1736 г.*



*Пячатка Беларускай епіскапіі катэдры магілёўскай, 1740 г.*

Галаўныя ўборы (мітры, клабукі, капелюшы з кутасамі) размяшчаліся над таркам і часта, калі ўладальнік герба быў шляхетнага паходжання, над каронай, што азначала вяршэнства духоўнай улады над свецкай. Папская тыяра (з пачатку XIV ст.) ўвенчана трыма каронамі, на апошняй знаходзіўся яблык з крыжам, па баках размяшчаліся дзве стужкі. Біскупскія шапкі — мітры — насіліся арцыбіскупамі, біскупамі, а таксама старэйшымі абатамі як адзнака сану і былі зроблены ў выглядзе ладдзі, як правіла, багата аздобленай перлінамі і каштоўнымі каменнямі.

Акрамя таго, у рэлігійнай геральдыцы ўжываліся капелюшы, упрыгожаныя матузкамі з кутасамі. Кардынальскі капялюш быў чырвонага колеру з пятнаццаццю кутасамі, размешчанымі ў пяць радоў, патрыяршы — зялёны, з той жа колькасцю кутасоў. Арцыбіскуп таксама меў зялёны капялюш, але з дзесяццю кутасамі, біскуп — з шасцю і г.д.

Варта адзначыць тое, што ў дачыненні да уніяцкіх іерархаў на Беларусі гэта правіла, мусіць, не заўсёды выконвалася. Так, на гербе грэка-уніяцкага арцыбіскупа Язафата Булгака прадстаўлены замест дзесяці толькі сем кутасоў, а ў біскупа пінскага і тураўскага Георгія Булгака замест шасці чатыры кутасы, хаця ў гербе Льва Явароўскага, уніяцкага біскупа Уладзімірскай Брэсцка-Літоўскай епархіі, у адпаведнасці з санам, як і належыць, фігуруе шэсць кутасоў.

Менш разгалінаванымі (на моц вышэйсказаных прычын, а таксама ў сувязі з недахопам гістарычных матэрыялаў) ўяўляюцца канфесійныя атрыбуты ў праваслаўнай царквы, дзе на пячатках духоўных асоб сустракаецца мітра ў выглядзе сферычнай шапкі, упрыгожаная ўверсе яблыкам з крыжам. Паколькі уніяцкая царква, як і праваслаўная, захоўвала знешні бок набажэнства, там таксама ўжываўся падобны галаўны ўбор. Толькі ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. на шэрагу геральдычна-сфрагістычных помнікаў уніяцкіх



*Пячатка Тэадора Скуміновіча, віленскага прэлата, 1666 г.*




*Герб «Стрэмя» Канстанціна Казіміра Бжастоўскага, віленскага біскупа, маглёўскага абата. З кнігі Milunski M. Explanationes Juris… Vilno, 1705. г., Медзярыт*

іерархаў пачынаюць фіксавацца каталіцкія капелюшы з кутасамі.

Ордэнскія знакі і, магчыма, панагіі і дыстынгторыі размяшчаюцца пад таркам.

Біскупская ляска, альбо пацірыса ці пастараль, з'яўляюцца сімваламі пастырства, кіраўніцтва, настаўніцтва, вандравання. Ляска лічыцца сімвалам духоўнай улады, дадзенай Богам над вернікамі, улады пастуха над сваім статкам. У якасці абавязковай кананічнай прыналежнасці ляска згадваецца ў заходняй царкве ў V ст., а ва усходняй сустракаецца з VI ст. Спачатку ляска мела форму пастушага кія з загнутай верхняй часткай, потым да яе дадалася Т-падобная перакладзіна ўверсе. Затым яна трансфарміравалася ў звычайны крыж (на Беларусі такія навершы для ляскі з'явіліся ў XVI, а ў Масковіі ў XVII ст.). Пазней выкарыстоўваюцца іншыя мадыфікацыі — наверша ўпрыгожваецца акрамя крыжа дзвюма галовамі змей (сімвал мудрасці), накіраванымі адна да адной. У каталіцкай царкве рабілася спіралепадобнае наверша ляскі. Ляска, пастараль — атрыбуты не толькі мітрапалітаў, біскупаў, але і ігуменаў і архімадрытаў, знак іхняе ўлады над манастырскай браціяй. Ляскі бываюць двух відаў– паўсядзённыя і ўрачыстыя. Першыя — доўгія драўляныя дубцы са сціплай аздобай верхняе часткі з дрэва, косці, срэбра ці іншага металу. Другія вылучаюцца багатымі ўпрыгажэннямі з каштоўных камянёў і металу і ўжываюцца толькі ў час набажэнстваў, калі трэба паказаць людзям «узор ззяючай славы Усявышняга». Ляска на гербах размяшчаецца па-за таркам і відаць толькі яе наверша. Часта падаюць абедзве выявы — паўсядзённую і ўрачыстую, або замест адной з іх выступае меч як сімвал змагання за веру і ўлады, якая адлучае. Распаўсюджаным атрыбутам, асабліва ў каталіцкай царкве, з'яўляюцца два скрыжаваныя ключы, накіраваныя бародкамі ўгару. Гэты сімвал з'яўляецца недзе ў XIII ст. Залаты ключ «забараняючы», срэбны — «дазваляючы».



*Герб «Карп» Юзафата Карпа, жмудскага біскупа. З кнігі «Падзел святла ...» Вільня, 1737 г. Медзярыт*



*Уласны герб Францішка Казіміра Гечэвіча, віленскага каноніка, прэлата смаленскага і пароха веліжскага. З кнігі «Quaestiones Theologicae... ». Vilno, 1733 г., медзярыт*

# ГЕРБЫ КАТАЛІЦКІХ ІЕРАРХАЎ



*Герб Багуслава Корвін Гансеўскага, смаленскага біскупа. З кнігі «Містычны фантан ... ». Вільня, 1737 г., медзярыт*



*Герб «Секер (Siekerz)» Міхаіла Яна Зянковіча, віленскага біскупа. З кнігі Sinodus Dioceziana Vilnensis... Vilno, 1744 г., медзярыт*



*Герб «Ліс» Юзафа Сапегі, біскупа, каад'ютара дыяцэзіі віленскай, біскупа, вялікага рэферэндарыя ВКЛ. З кнігі Абрамовіча А. «Казання нядзельныя... ». Вільня, 1753 г., медзярыт*



*Прыватны герб («Шрэнява», «Ражкі», «Лебедзь» і «Ліс») Аляксандра Гораіна, рэферэндарыя ВКЛ, біскупа, прэлата віленскай катэдры. З кнігі «Dissertationes Theogicae...». Vilno, 1763 г., медзярыт*



Пячатка Мірскага
Мікалаеўскага касцёла.
Канец XVIII– пачатак XIX стст.



Герб Шарашова з выявай
архангела Гаўрыіла.
Мал. 1792 г. з метрыкі ВКЛ



Пячатка Ордэна кармелітаў
Правінцыі Літоўскай, 1766 г.




Пячатка Нясвіжскага
касцёла іезуітаў.
Канец XVIII– пачатак XIX стст.




Пячатка Радашковіцкага
прыходскага касцёла.
Першая палова XIX ст.

Яшчэ адзін атрыбут папскай геральдыкі — павілон, альбо парасон, які з'явіўся ва ўжытку ў XVI ст. Тарк з гербам размяшчаўся на скрыжаваных ключах і пад парасонам. У хрысціянскай геральдыцы і евангелісты маюць сімвалавае і сэнсавае абазначэнне: св. Матфей — анёл і сімвал месіянства; св. Марк — леў і моц, св. Лука — цялец і ахвяра; св. Іаан — арол і вышыні евангельскага вучэння.

Значнае месца ў канфесійнай сімволіцы займаюць выявы анёлаў. Само слова ў перакладзе з грэчаскай мовы азначае *пасланец*. З больш даўніх часоў вядомы постаці крылатых быкоў (Асірыя), пасланец Алімпа — Гермес (Грэцыя), пасланец Бога Ра — Гор (крылаты дзіск), а таксама крылатыя сфінксы (Егіпет). У хрысціянстве — серафімы, херувімы, архангелы і крылатыя жывёлы, якія з'явіліся ў раннім сярэднявеччы Еўропы, куды яны прыйшлі, магчыма, пад уплывам асірыйскай культурнай спадчыны. У хрысціянскім мастацтве яны з'явіліся каля IV ст. н.э.: серафім — дзіцячая галоўка з шасцю чырвонымі крыламі, херувім — з блакітнымі. Анёл — постаць з двума крыламі, якая выконвае розныя даручэнні Усявышняга, як правіла, падаецца натуральнымі фарбамі ў белым адзенні. Старэйшымі па чыну сярод памочнікаў Бога з'яўляюцца Архангелы, якіх, па некаторых даных, сем. Чатыры персаніфіцыраваны і валодаюць асабістымі функцыямі. Яны займаюцца аховай і сувяззю паміж Богам і чалавецтвам. Толькі Міхаіл (Міхаэль) і Гаўрыіл (Габрыэль) згадваюцца пісьмёнамі ў Бібліі, а Рафаіл (Рафаэль) і Урыель — у Апокрыфе. Аб гэтых чатырох згадваецца, што яны падтрымліваюць і ахоўваюць трон Бога. Атрыбуты Міхаіла — вагі і меч. Ён адпаведна успрымаўся як князь нябесных вояў, што змагаюцца з сіламі пекла. Міхаіл — падабенства Божае. Гаўрыіл — моц Божая. Адпаведна з Бібліяй

# ГЕРБЫ І СІМВАЛЫ УНІЯЦКІХ ІЕРАРХАЎ І ЦЭРКВАЎ



*Пячатка Іпація Пацэя, архіепіскапа, мітрапаліта кіеўскага. Пачатак XVII ст.*



*Герб мітрапаліта Кіпрыяна Жахоўскага. З Віленскага выдання «Літургікону...», 1697 г.*



*Пячатка Супрасльскай Лаўры чыну Васіля Вялікага, XVIII ст.*



*Пячатка Георгія Булгака, епіскапа пінскага і тураўскага. Пачатак XIX ст.*



*Пячатка Тэадора Вісłоцкага, епіскапа Супрасльскага. Пачатак XIX ст.*



*Пячатка Льва Яварогўскага, грэка-уніяцкага епіскапа Уладзіміра-Валынскай [і] Брэсцка-Літоўскай епархіі. Пачатак XIX ст.*



*Пячатка Морацкай парафіяльнай Узнясенскай царквы, 1832 г.*




*Пячатка Беларускай грэка-уніяцкай кансісторыі, 1832 г.*




*Пячатка Олтушскай царквы Праўтварэння Божага. XIX ст.*



*Пячатка Церабежаўскай царквы Св. Іллі Прарока. XVI–XVII стст.*



*Пячатка з гербам мінскага біскупа Якуба Дзядзеркі, кавалера ордэнаў Белага Арла і Св. Станіслава, 1802 г.*



*Пячатка Петрапаўлаўскай Езераўскай царквы. Пачатак XIX ст.*



*Пячатка Віленскага капітула, 1611 г.*



*Пячатка Лідскай каталіцкай парафіі, 1781 г.*

ён выконвае функцыі надзвычайнага пасла, але толькі ў асабліва важных выпадках. Яго традыцыйны атрыбут — лілея ў руцэ. Рафаіл — вызгаенне Божае, князь анёлаў, якія апякуюць людзям і асабліва вандроўнікам, моладзі і немаўлятам. Ён, як правіла, апрануты ў адзенне пілігрыма з кійком і высушаным гарбузом, у якім падчас пераходаў пад пякучым сонцам Блізкага Усходу захоўвалі ваду. Урыэль — святло Божае. Ён паказвае людзям ззянне Божай мудрасці. Яго атрыбуты — світак і кніга. Астатнія тры Архангелы не называюцца паіменна ў хрысціянскай тэалогіі, але ў вучэнні іудаізму фігуруюць іх імёны — Рагуэл (тэрор Божы), Саракəл (пераўтварэнне Божае), Рэміэл — міласць, спачуванне Божае. Некаторыя крыніцы называюць яшчэ трох Архангелаў: Хамуэль — вобраз Божы, Ёфель — прыгажосць Божая і Задкіэль — справядлівасць Божая. Ва ўсіх варыянтах імёнаў канчатак слоў ***-эл, -эль, -ель*** паходзіць ад старажытнаяўрэйскага слова, якое абазначае Бога.

Асобнае месца займаюць гербы капітулаў — царкоўных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія існавалі на землях ВКЛ. Віленскі капітул карыстаўся лаканічным сімвалам з выявай залатых карон і крыжа ў сярэбраным полі, а герб Пінскага капітула, бясспрэчна, узнік пад непасрэдным уплывам праваслаўнай традыцыі — такая выява зафіксавана на пячатках турава-пінскіх епіскапаў пачатку XVI ст.

Што тычыцца эмблематычных выяваў, адлюстраваных на царкоўных пячатках, дык іх можна з пэўнай ступенню верагоднасці аднесці да аўтэнтычных гербаў. Як правіла, на іх падаецца ілюстраваная выява, якая адпавядае той падзеі альбо святому, у гонар якіх збудаваны і асвечаны храм. Калі гэта царква св. Іллі, дык на яе пячатцы — выява аднайменнага




*Пячатка Капыльскага евангелісцкага збору. XVIII ст.*



*Пячатка Полацкага евангелісцкага збору. XVIII ст.*



*Пячатка суперінтэндантства евангелісцка-рэфарматарскіх цэркваў Беларускай акругі. Канец XIX – пачатак XX стст.*

святога. Калі касцёл прысвечаны св. апосталам Пятру і Паўлу, на ягонай пячатцы адпаведны сюжэт з іхнімі постацямі ці, а некаторых выпадках, іхнія атрыбуты — ключ і меч. У тым выпадку, калі месца богаслужэння прысвечана падзеі, якая мела месца ў пэўным храналагічным абшары (напрыклад, Пераўтварэнне Сына Божага, Ушэсце Панны Марыі, Дабравешчанне), дык яна адлюстроўваецца адпаведна з канонам ці вельмі набліжана да яго.

Такім чынам, тут назіраецца вельмі цеснае зліццё сімволікі з мастацтвам пісання абразоў і яўна прысутнічае значны адыход ад лаканічнасці геральдычнай мовы. Гэта тычыцца як пячатак праваслаўных, так і каталіцкіх і нават пратэстанцкіх. Праўда, апошніх — у меншай ступені, паколькі пратэстанты адпаведна з дагматамі вучэння не заахвочвалі ўвогуле традыцыю стварэння і пакланення абразам. На іхніх пячатках вельмі распаўсюджаным з'яўляецца сюжэт «рукапацісканне», крыж, котвіца і сэрца як сімвалавы адпаведнік — Веры, Надзеі і Любові. Сказанае вышэй не выключае выкарыстання прадстаўнікамі гэтае канфесіі і менш лаканічных сюжэтаў.

Пэўны след мусульманскага Усходу быў пакінуты ў назвах некаторых прыват-



*Пячатка Ляхавіцкай мячэці, 1852 г.*




*Пячатка Слонімскай саборнай мячэці, 1872 г.*



*Пячатка Асмалоўскай мячэці. Сярэдзіна XIX ст.*



*Пячатка менскага мулы. Сярэдзіна XIX ст.*

ных гербаў, якія былі ва ўжытку на Беларусі. Сярод іх Аксак, Байбуза, Балабан, Дзяніс, Кіркор, Тэрэбез і іншыя. У перакладзе з турэцкай мовы аксак — кульгавы, бейбуза — багаты целам, балабан — сокал. Падобная назва ўжываецца прымяняльна да аднаго з відаў сокала і ў славянскіх краінах, у Турцыі ў пераносным сэнсе — балван, Дзяніс — мора, Кіркор даслоўна азначае сорак мужоў, вояў (згадаем вядомую казку Усходу пра Алі-Бабу і ягоных апанентаў), Тэрэбез — места ў Малой Азіі (Трапезунд, які па-народнаму завецца Тэрэбез).

Выхадцы з Крыма і Турцыі прынеслі з сабой мянушкі і прозвішчы, але, засвоіўшы еўрапейскую звычку карыстацца гербамі, пакінулі ім свае імёны. Хаця, па сваёй сімволіцы і семантыцы, іх гербы часта мелі агульнаеўрапейскія культурныя ці нават хрысціянскія матывы. Адным з нешматлікіх выключэнняў з гэтага правіла можна лічыць герб «Корсак» (назва маленькай лісы ў Сярэдняй Азіі), які можна, з некаторымі агаворкамі, звязаць з тамгамі Нагайскай, альбо Крымскай арды.

Больш акрэсленыя ўсходнія сюжэты адлюстроўваліся ў выглядзе спецыфічных шабляў — «ардынак» з крыжовым эфесам і загнутай галоўкай, шырокім напачатку і загнутым на канцы лязом. Прыклад таго ж кшталту – ўжыванне ў якасці сімвала «зульфікара» – меча прарока Мухамеда. Матыў зульфікара вельмі характэрны для народаў мусульманскага Усходу. Адпаведна з паданнем гэты меч быў пасланы Богам брату прарока Мухамеда. Хоць дакладна і невядома, як ён выглядаў, але, паводле традыцыі, лічыцца, што ён меў дубальтовае лязо, якое каля эфеса было ўпрыгожана зоркай Сулеймана (Саламона). Як правіла, выява зульфікара размяшчалася гарызантальна.

Безумоўна, што найбольш улюбёным матывам, які быў звязаны з культам, з'яўлялася выява паўмесяца і зоркі. Акрамя сакральных прадметаў і вайсковага рыштунку, гэты сюжэт, дапоўнены стралой, выкарыстоўваўся ў гербе Анкуда.

Такім чынам:

*1. Канфесійная сімволіка на Беларусі фарміравалася на біблейскім ідэалагічным падмурку і хрысціянскай сюжэтнай базе.*

*2.Прадстаўнікі іншых канфесій, дзякуючы талерантнасці беларускага народа, шырока выкарыстоўвалі свае ўласныя духоўныя каштоўнасці.*

*3. Сярод хрысціянскіх канфесій найбольш «геральдызаванымі» з'яўлялюцца каталіцкі і уніяцкі накірункі, што тлумачыцца больш актыўнымі сувязямі з Захадам і заваёвай імі, з канца XVI–сярэдзіны XVII ст., дамінуючага (асабліва уніяй) становішча у грамадстве.*

# ЗЯМЕЛЬНАЯ СІМВОЛІКА



# ГЛАВА 6
# ЗЯМЕЛЬНАЯ СІМВОЛІКА

**Вытокі сімвала.** У далёкія часы, калі геральдычная традыцыя толькі замацоўвалася як у людской свядомасці, так і ў розных дзяржавах, гэты працэс не абмінуў і землі, на якіх адбывалася фарміраванне нашай краіны. Асноўным сімвалам, пад юрысдыкцыяй якога яны знаходзіліся некалькі стагоддяў, быў яздок на кані — Пагоня. Узнікненне герба Пагоня адбывалася не адразу, бо гістарычна гэты працэс не мог быць аднахвілінным, коратка абмежаваным у храналагічнай прасторы актам.

Сімвал Пагоня выспяваў у глыбокай старажытнасці і зафіксаваў умовы жыцця нашых далёкіх прашчураў, па летапісных даных узнік у XIII ст, хаця сама ідэя адлюстравання збройнага воя ці князя на кані мае больш глыбокія карані.

Увогуле, яздок — гэта з глыбокай старажытнасці адна з найбольш улюбёных як эмблематычных, так і мастацкіх тэм на пячатках, манетах, гемах і г.д. Такое стаўленне да яе не з'яўляецца выпадковым: з таго моманту, як чалавек сеў на каня, ён набыў новыя якасці – павялічыў сваю моц і хуткасць перасоўвання ў прасторы і займеў перавагу над пешай асобай, што не магло не знайсці свайго адлюстравання і ў тагачаснай свядомасці, і ў мастацтве. Неабходна адзначыць, што выява воіна, князя на кані — даволі распаўсюджаны сюжэт у ранейшыя часы. Адным з найбольш старажытных сведчанняў гэтага з'яўляецца грэка-персідская пячатка з выявай коннага палявання на ліса, якая датуецца V ст. да н.э. Матыў ездака знаходзіў сваё адлюстраванне і ў старажытным Парфянскім царстве (на тэрыторыі Сярэдняй Азіі) ў I–II стагоддзях н.э. Сцэна бітвы двух ездакоў ёсць на сасанідскіх пячатках пачатку нашай эры. Вядомы факты ўжывання сімвала ездака ў Баспорскім царстве, лепшыя творы скіфскага злотніцтва таксама прысвечаны гэтаму сюжэту.

Як піша вядомы польскі даследчык геральдыкі і сфрагістыкі С.К. Кучынскі, пячатка з выявай конніка выступае ў сфрагістыцы князёў і феадальных уладальнікаў на захадзе Еўропы ўжо ў XI ст. Пазней, да з'яўлення гербавых пячатак, конная постаць была найбольш частым выяўленчым матывам пячатак княжацкіх і ўсяго рыцарства. Рыцар на кані, які крочыць ці бяжыць галопам, у зброі, з прапарцом ці мечам, разам з таркам у руцэ, быў іканаграфічным эквівалентам выразу «DUX» [князь].

У звычаях той эпохі выява рыцара-ўладальніка на кані адыгрывала ролю сімвала гатоўнасці да бітвы за годную, у разуменні рыцарскага кодэксу гонару, справу. Менавіта ў гэтым значэнні яна адбівалася на манетах і пячатках. Падобным чынам прадстаўлялі і заступнікаў рыцарства – архангела Міхаіла, св. Юр'я, а таксама і св. Маўрыцыя.

На пячатках польскіх князёў выява конніка з'явілася ў другой палове XII ст., а на манетах нават у XI ст. Засваенне польскай княжацкай сфрагістыкай гэтага сімвала знайшло адлюстраванне яго ў XIII ст. і пазнейшых стагодзях і паўплывала на крышталізацыю герба Літвы — Пагоня.

Поўнасцю адносяць у патэнцыял заходнееўрапейскай геральдыкі вытокі герба Пагоня савецкія даследчыкі А. Стуканаў і В. Касмылёў, якія падкрэсліваюць нямецка-крыжацкія ўплывы на працэс станаўлення і генезісу гэтага герба і прыпісваюць яго паходжанне летувіскай (жмудскай – А.Ц.) традыцыі. Але гэта толькі адзін аспект узнікнення герба Пагоня і, як нам здаецца, не вырашальны.

У Хроніцы Літоўскай і Жамойцкай гаворыцца: «**Наримонт, яко старший будучи** (над ягонымі братамі — А.Ц.) **в Великом князстве Литовском пановал... Той Наримунт мел герб, або клейнот, рицерства своего таковый, и тым печатовался, Великому князству Литовскому заставил его, а то такий: в гербе муж збройный, на коню белом, в полю червоном, меч голый, як бы кого гонючы держал над головою, и есть оттоля названы погоня**».



*Пячатка полацкага князя Глеба (летапіснага Нарымунта) з выявай тэзаіменнага святога, 1330 г.*

Шэраг іншых хронік-летапісаў таксама паўтараюць гэтую звестку. Гісторык XIX ст. Т. Нарбут датуе гэтую падзею 1282 г. Густынскі летапіс прыпісвае гэтую акцыю іншаму князю: «**В лето 6786** (1278 г.)**... Витен нача княжети над Литвою измысли себе герб и всему княству Литовскому печать: рыцер збройны на коне з мечем, еже ныне наричут Погоня**». Іншыя летапісныя крыніцы сведчаць за тое, што герб Пагоня быў прыняты паводле ініцыятывы Рыманта-Васіля — сына, па адных звестках, Тройдзеня, па іншых, — Пройдзена, які з'яўляецца бацькам усё таго ж Віценя. Васіль і параіў апошняму перамяніць герб па прыкладу вышэй згаданага Нарымонта, які пакінуў свой герб Кентаўр «**братии своей**», а сабе «**уделал герб а человека на кони з мечом, а то знаменуючы через тот герб пана дорослого, хто бы мог боронити мечом отчизны свое**».

Як бачым, усе летапісныя сведчанні, з большай ці меншай ступенню дакладнасці, акрэсліваюць гэтую падзею 70–90 гадамі XIII ст. Такім чынам, ёсць усе падставы сцвярджаць. што з гэтага часу герб Пагоня замацоўваецца ў якасці рэпрэзентацыйнага сімвала за асобамі, якія ажыццяўляюць паўнамоцтвы вярхоўнай улады ў Вялікім княстве Літоўскім.



*Герб «Пагоня», з фондаў Дэпартамента Герольдыі. Малюнак 80-х гг. XVIII ст.*

Але гэты сімвал так бы і застаўся звычайным дынастычным гербам, калі б не быў звязаны з умовамі жыцця і міфалагічнай традыцыяй народа, які жыве на гэтай зямлі. У іншым выпадку яго б чакаў такі ж лёс, што напаткаў герб «Рыцар на кані» ў заходне-еўрапейскіх краінах, дзе, нягледзячы на ягоную шырокую распаўсюджанасць у XI–XIII стст., ён не перайшоў у новую якасць зямельнага, дзяржаўнага і нацыянальнага герба, а застаўся толькі сімвалам прыналежнасці ўладальніка пячаткі да вяршыняў феадальнай іерархіі. Сама пагоня была звычаем, вобразам і стылем жыцця ў тыя старасвецкія часы. Беларускі даследчык М.А. Ткачоў адзначаў, што з канца XIII стагоддзя да 1410 г. крыжакі больш як 140 разоў нападалі на Літву і Беларусь. З 1474 па 1569 гг. на Украіну і Беларусь зрабілі 75 набегаў крымскія татары. Такім чынам,




*Выявы конных постацей святых Барыса і Глеба на рэльефах Дзмітрыеўскага сабора ва Уладзіміры на Клязьме*

міжнароднае становішча, умовы жыцця народа вымушалі яго знаходзіцца ў бесперапыннай гатоўнасці да абароны. Гэтага ж патрабуе і вялікакняжацкі ліст, што выдаў Ягайла да абывацеляў ВКЛ ад 20 лютага 1387 г., у якім гаварылася: «Згодна са старадаўнімі звычаямі, ваенны паход з'яўляецца абавязкам, які выконваецца за кошт уласных магчымасцяў і сродкаў у тым выпадку, калі ўзнікае неабходнасць праследаваць ворагаў,непрыяцеляў нашых... У праследаванні ворагаў, якое па-народнаму завецца пагонею, павінны ўдзельнічаць не толькі рыцары, але і кожны мужчына, які можа насіць зброю, якога б не быў паходжання і стану». Звяртае на сябе ўвагу ў гэтым дакуменце тое, што ўдзел у пагоні мусіла прымаць не толькі шляхта, якая несла вайсковую службу, але ўсе мужчыны незалежна ад «паходжання і стану».

Другой крыніцай, якая досыць істотна паўплывала на выбар гэтага сімвала, была грэка-візантыйская традыцыя, з якой вельмі цесна былі звязаны «літоўскія» князі. Прыняцце яшчэ ў старажытны перыяд хрысціянства ўсходняга (праваслаўнага) абраду спрыяла развіццю шырокіх культурных кантактаў усходне-еўрапейскіх княстваў — Полацкага, Смаленскага, Тураўскага, Кіеўскага з Канстанцінопалем (Царградам).

Ідэі хрысціянства прынеслі разам з сабой і імёны, і міфалагічныя, і рэальныя фігуры грэка-візантыйскага пантэону. Адной з такіх з'яўляецца постаць св. Георгія, пакутніка і пераможцы. Існуе шмат старадаўніх жыцій і паданняў аб дзейнасці і цудах св. Георгія. Ягоны культ шырока распаўсюджаны не толькі ва ўсіх хрысціянскіх краінах Еўропы, але і на мусульманскім Усходзе, дзе яго завуць Кедэр. У сярэдневяковай Еўропе ён быў апекуном-заступнікам рыцарства, а ў славянскіх землях лічыўся не толькі воем, але яшчэ і «адказным» за землеробства і жывёлагадоўлю (нездарма імя Георгос азначае ў перакладзе з грэчаскай мовы «земляроб»). Ягоная



*Пячатка пінскага князя Фёдара Іванавіча Яраславіча, 1515 г.*



*Дзяржаўны герб Вялікага княства Літоўскага — Пагоня.*
*Выява на Вострай браме у Вільне. Сучасны выгляд.*



*Герб князёў Агінскіх. Мал.XIX ст.*



*Паліхромная кафля з выявай герба Пагоня. [XVI ст.]*



*Паліваная кафля з выявай герба Пагоня. 30 –я гг. XVII ст.*



*Пячатка Мінскага павета, атрыманая у 1565 г..*




*Беларускі лубок з выявай св. Юр'я Пераможцы, "Патрона Вялікага княства Літоўскага"*
*[канец XVIII—пачатак XIX ст ст.]*

Традыцыйная іканаграфія — рыцар з дзідай на кані, каля ног каня — забіты цмок.

Нельга не згадаць яшчэ аб адной постаці, якая ўвайшла ў свядомасць насельніцтва Усходняй Еўропы: гэта св. Дзімітры Салунскі, які лічыўся заступнікам славянства. Ен быў воінам і правіцелем Салуні, ягоныя атрыбуты — вайсковае ўзбраенне, дзіда, меч.

Але не толькі іншаземныя культурныя ўздзеянні ўплывалі на свядомасць народа і фарміравалі вобраз будучых дзяржаўных сімвалаў. Трансфармацыя і кансалідацыя грэка-візантыйскіх і заходне-еўрапейскіх традыцый адбывалася на мясцовай глебе. Вельмі блізка да Пагоні і так званага «маскоўскага ездака» размяшчаецца іканаграфія св. Барыса і Глеба.



*Выява Георгія Пераможцы. Малюнак з прывілея на магдэбургскае права Угор'ю, 1792 г.*

Абодва браты былі (каля 1071–1072 гг.) кананізаваны праваслаўнай царквой. У летапісах маецца шмат апавяданняў аб цудоўных вылягчэннях, якія адбываліся каля іхняй труны, перамогах, якія атрыманы ад іхніх імёнаў і з іхняй дапамогай, аб паломніцтвах да іх дамавінаў. Барыс і Глеб былі самымі папулярнымі святымі, якіх шанаваў увесь народ. Іхнія вобразы знайшлі сваё адлюстраванне на старажытных помніках злотніцкага мастацтва, архітэктуры, абразах і г.д. У час раскопак у Мсціслаўі ў слаях XII–XIII стст. быў знойдзены медальён з выявай дзвюх конных постацей, узброеных дзідай і мечам, — выявамі св. Глеба і Барыса.

Ёсць яшчэ адзін аспект гэтага пытання. Герб Пагоня — выява ездака з мечам на кані — ніколі б не стаў зямельным, дзяржаўным ці нацыянальным, калі б яго ідэя была прыўнесена цалкам звонку, незалежна з якога боку: ці то з еўрапейска-нямецка-лацінскага, ці то грэка-візантыйскага. Яшчэ ў часы паганства адным з найбольш паважаных ва ўсіх славянскіх народаў быў вобраз Ярылы — бога вясновага адраджэння і ўрадлівасці зямлі. Свята Ярылы было святам перамогі жыцця над смерцю, вясны над зімой. І ў гэтых сваіх функцыях ён «зліваецца» ў народнай свядомасці з святым Юр'ем (Георгіем). Этнографы XIX стагоддзя адзначалі: «Успаміны аб Ярыле жывей (з усіх славянскіх народаў — А.Ц.) зберагліся на Беларусі, дзе яго ўяўлялі маладым і прыгожым..., які ездзіць на белым кані, на ягоных плячах белая мантыя, на галаве ў яго вянок з палявых веснавых кветак, у правай, уздзетай угару руцэ ён трымае жытнія каласы, а ў левай, спушчанай на дол, — чалавечы чэрап (семантыка вобраза зразуме-



*Медальён з выявамі Барыса і Глеба, знойдзены на раскопках у Мсціслаўі*



*Пячатка князя Ноўгарада Вялікага Аляксандра Неўскага, XIII ст.*



*Пячатка сына — кн. Дзмітрыя Аляксандравіча*



*Пячатка сына — кн. Андрэя Аляксандравіча*



*Рэверс срэбнай манеты балгарскага цара Міхаіла Шышмана (1323–1330 гг.) з выявай тэзаіменнага святога*

лая — перамога жыцця над смерцю), ногі яго босыя. У яго гонар беларусы святкуюць час першай сяўбы (у канцы красавіка)».

Падагульняючы выказанае вышэй, трэба адзначыць, што на ўзнікненне герба «Пагоня» і замацаванне яго на старажытных землях Вялікага княства Літоўскага паўплываў шэраг наступных фактараў, кожны з якіх паасобку не быў вырашальным. Толькі спалучэнне іх у гістарычным і этнічным кантэксце было прычынай замацавання тут і ідэнтыфікацыі герба Пагоня менавіта з гэтымі землямі. Гэта наступныя фактары:

*1. Атаясамленне герба «Пагоня» з пастаццю абаронцы родных краёў і адлюстраванне самога жыцця народа пад заўсёднай ваеннай пагрозай падчас узнікнення і крышталізацыі гэтага сімвала.*

*2. Уплывы традыцый грэка-хрысціянскіх культаў — Св. Дзімітрыя і св. Георгія, адаптацыя апошніх на мясцовай глебе і фарміраванне пад іх уплывам іканаграфіі і культаў уласных пакутнікаў-заступнікаў.*

*3. Спалучэнне і персаніфікацыя ў гербе постацяў і св. Георгія, і св. Барыса з вельмі блізкага мінулага, і паганскага Ярылы з больш глыбокіх культурных пластоў.*

*4. Пэўныя ўплывы праз прызму польскай і крыжацкай геральдыкі заходне-еўрапейскіх традыцый адлюстравання постаці коннага князя-правадыра на пячатках феадальных іерархаў.*

Усе гэтыя фактары разам і кожны паасобку ў пэўнай ступені паўплывалі на гісторыка-іканаграфічнае фарміраванне вобраза — мужа дарослага, збройнага, з мечам на кані, гатовага бараніць сваю зямлю, **«еже ныне наричут Пагоня».**

**Герб Пагоня у часы ВКЛ і позняй Рэчы Паспалітай.** Ідэя коннай пячаткі шырока распаўсюджваецца не толькі на Захадзе, але і на землях Паўночна-Усходняй Еўропы. Аднымі з першых сфрагістычных помнікаў такога тыпу, якія можна датаваць з высокай ступенню дакладнасці, з'яўляюцца пячаткі Аляксандра Неўскага (1236–1240; 1241–1263). Вядомы пяць пячатак, што належалі яму. На ўсіх ёсць выява коннай постаці, узброенай мечам, на трох — свецкая выява. Як робіць дапушчэнне Е. Каменцава, гэта выява самога князя, а на двух — патранальны, ці аднайменны св. Аляксандр. Адрозніваюцца гэтыя выявы наяўнасцю на свецкай выяве кароны на галаве ездака і німба і імя святога на дзвюх апошніх.




*Герб Вялікага княства Літоўскага, малюнак 80-х гг. XVIII ст., з фондаў Дэпартамента Герольдыі*

Прыкладна тое ж мастацкае вырашэнне зафіксавана і на пячатках сыноў Аляксандра: Дзімітрыя (1276–1281; 1283–1284) і Андрэя (1281–1283; 1294–1304). Першы карыстаўся пячаткамі, на адным баку якіх прысутнічала выява тэзаіменнага Св. Дзімітрыя. Пры гэтым варта адзначыць, што ў адным варыянце — гэта яздок з німбам і дзідай, у іншых — яздок з німбам і мячом. Толькі надпіс на пячатцы дазваляе спалучыць абедзве гэтыя выявы з адной постаццю — Св. Дзімітрыем. Пячаткі ж другога брата — Андрэя нясуць на сабе выяву сакольніка. Гэтыя пячаткі каштоўныя для нас тым, што па часу свайго існавання яны амаль цалкам супадаюць з паведамленнямі беларуска-літоўскіх летапісаў аб абранні гербам Пагоні. Такое супадзенне пацвярджае факт існавання ў XIII ст. гэтага сімвала на землях Ноўгарада Вялікага, а значыць, мусіць накіроўваць даследчыкаў на пошук прамых, а не ўскосных сведчанняў існавання пячатак з аналагічнай сімволікай князёў ВКЛ і больш ранніх.

Блізкі да вышэйназваных сюжэт мае пячатка полацкага князя Глеба, якая замацоўвае дагаворы паміж Полацкам і Рыгай ў 1330 г. На ёй –выява ездака, якая бліжэй да іканаграфіі св. Дзімітрыя, св. Юрыя ці св.Глеба, чым да класічнай Пагоні. Калі адкінуць асцярожнасць у вызначэнні гэтага помніка, можна сцвярджаць, што на пячатцы выява тэзаіменнага св. Глеба, такім чынам, на археолагаў ускладаецца задача пошукаў пячаткі з выявай і св. Барыса.




*Пячатка маскоўскага князя Дзімітрыя Данскога, XV ст.*

Выява рыцара збройнага на кані зафіксавана і на пячатцы вялікага князя Ягайлы, якая ўжывалася, на думку М. Гумоўскага, у 1377–1386 гг. Іканаграфія яе аб'ядноўвае па стылю з большасцю іншых пячатак гэтага перыяду і, у пэўнай ступені, з выявай ездака на рэльефе Дзімітраўскага сабора ва Уладзіміры на Клязьме.

Але гэта не адзіная вядомая пячатка Якава-Ягайлы. Пасля Крэўскай уніі ягоны статус змяніўся: ён стаў каралём Польшчы. Змянілася і імя — пасля пераходу з праваслаўя у каталіцтва ён атрымаў імя Уладзіслаў. Змена пасады і імя вымагала і змены атрыбута улады і «ідэнтыфікатара ягонай асобы» — пячаткі. Вядома некалькі ягоных тронных пячатак. Як адзначаюць шматлікія даследчыкі, асоба на троне мае амаль партрэтнае падабенства з Якавам-Ягайлай-Уладзіславам. На пячатках, выкананых з вялікім майстэрствам, у гатычным стылі — выява караля, які сядзіць на троне. Вакол — выявы гербаў земляў, суверэнам якіх ён з'яўляецца. Сярод іншых прадстаўлены і герб Пагоня. Апошні падтрымлівае анёл-шчытатрымальнік. Вельмі адметная сама кампазіцыя герба: на шчыце — выява рыцара збройнага з мечам на кані, а каля конскіх капытоў — крылаты цмок. Такім чынам, атрымоўваецца быццам бы нейкая пераходная форма паміж гербам з выявай Св. Георгія (Юр'я) Пераможцы і класічнай Пагоняй. Сярод іншых прадстаўнікоў правячых родаў, што карысталіся гэтым гербам, варта назваць Чартарыйскіх, Сангушкаў, Астрожскіх, Алелькавічаў.

Падобнай сімволікай карыстаецца, між іншым, і ўнук Гедыміна, уладзіміра-валынскі князь Аляксандар Карыятавіч. Праўда, на ягонай пячатцы гэты сюжэт прадстаўлены ў больш чыстым выглядзе: св. Юрый забівае дзідай пачварнага змея.

Варта адзначыць і той факт, што адпаведна з паведамленнем польскага гісторыка Яна Длугаша (1415–1480), падчас Грунвальдскай бітвы каля намёту Якава-Ягайлы стаяў сцяг з выявай цмока.

Як адзначаюць даследчыкі, сімволіка цмока і змея ў геральдыцы далёка не тоесная — першы з'яўляецца ўвасабленнем магутнасці і сілы, а другі — сімвалам цемры і зла. Цмок — гэта і паўзун, і крылатая істота адначасова, з вялікай галавой і завостранай разяўленай пашчай. Пярэднія лапы яго падобны на арліныя ці львіныя, замест задніх ён мае тоўсты звілісты хвост. Крылаты змей вельмі падобны на яго, але адрозніваецца тым, што мае яшчэ і заднія лапы.



*Пячатка вялікага князя літоўскага Вітаўта, 1418–1430 гг.*

Вельмі цікавай нам падаецца тронная пячатка Вітаўта. Яна зафіксавана на дакументах 1407, 1412–1430 гг. На пячатцы персанальная выява князя з мітрай на галаве, у правай яго

руцэ — берла, у левай шчыт з дзяржаўным гербам Пагоня. Ужо згаданы М. Гумоўскі дае наступную інтэрпрэтацыю гербаў, якія размешчаны вакол постаці князя: тарк з крыжам належыць Валыні. з мядзведзем — Кіеву, з Пагоняй — Вільні і з капейшчыкам — Трокам. Калі з ягоным тлумачэннем выяваў валынскага і троцкага гербаў можна поўнасцю пагадзіцца, дык «расшыфроўка» астатніх выклікае пэўныя сумненні. Перш-наперш Вітаўт насіў тытул і быў вялікім князем літоўскім — той дзяржавы, што ўзнікла на этнічных беларускіх землях і ў часы Вітаўта ахоплівала славянскія землі ад Віленшчыны на поўначы амаль да Чорнага мора на поўдні. Таму вылучаць на дзяржаўнай (троннай) пячатцы нейкія асобныя землі (Віленшчыну ці Кіеўшчыну) не было сэнсу. У тыя часы ўсе яны даўно і поўнасцю знаходзіліся пад «юрысдыкцыяй Пагоні». Акрамя таго, шчыт-тарк з выявай гэтага герба паказаны на пячатцы як бы ў прывілеяваным стане. Вялікі князь трымае яго на ўзнятай левай руцэ, што падкрэслівае яго першынство ў параўнанні з астатнімі. Такая перавага магла быць аддадзена толькі дамінуючаму, агульнадзяржаўнаму гербу.



*Маестатная (тронная) пячатка вялікага князя літоўскага Вітаўта, XV ст.*

Лакальныя (тэрытарыяльныя) гербы — троцкі і валынскі — адлюстраваны на пячатцы як зямельныя гербы тых рэгіёнаў, з якімі Вітаўт быў звязаны некалькі іншымі стасункамі. Троцкая зямля — гэта спадчыннас валоданне Вітаўта, якое перайшло яму ад яго бацькі Кейстута. Спачатку Вітаўт стаў троцкім князем і ўжываў пячатку з выявай адпаведнага герба (пешы рыцар, што трымае у правай руцэ дзіду, а левай абапёрся на тарк). Гэтым напячаткавым сімвалам ён карыстаўся ў 70-я гг. XIV ст. Пазней, яшчэ не мяняючы тэксту напячаткавага надпісу, ён абірае сабе на пячатку сімвал ездака, што сведчыць аб ягоных інтарэсах да вялікакняжацкага прастолу. Думаецца, што да гэтага часу сімвалы былі ў поўнай ступені ўзгоднены з Ягайлам. Пячатка з Пагоняй фіксуецца



*Пячатка Уладзіміра Валынскага, кн. Аляксандра Карыятавіча (унука Гедыміна), 1375 г.*



*Малая пячатка канцылярыі Вялікага княства Літоўскага часоў Жыгімонта Старога*



*Пярэдні бок правесістай пячаткі кн. Дзімітрыя Карыбута, 1385 г.*



*Пячатка загадчыка Скарбу Вялікага княства Літоўскага Яна Камара. 1791 г.*

ўпершыню на акце Крэўскай уніі, падпісанай 14 жніўня 1385 г. Вядома, што Ягайла, адпаведна з гэтай уніяй, набываў сабе Польскую карону, а Вялікае княства Літоўскае, на думку Вітаўта, заставалася «без гаспадара». Зыходзячы з гэтых меркаванняў, па загаду Вітаўта была зроблена пячатка з агульнадзяржаўным гербам.

Пасля падзелу ўладарных паўнамоцтваў паміж Вітаўтам і Ягайлам заставаліся крыху прыглушанымі польскія прэтэнзіі на Валынь, што і вымушала Вітаўта падкрэсліваць свае прыярытэты над гэтай зямлёй, выносячы герб Валыні на дзяржаўную пячатку. Прыкладна тая ж сітуацыя адбывалася і са Жмуддзю. У 1382 г. ВКЛ страціла сваю юрысдыкцыю над гэтай тэрыторыяй, што было пацверджана Ранціжонскім дагаворам з Ордэнам у 1404 г. Толькі пасля Грунвальдскай бітвы пачаўся працэс далучэння жмудскіх земляў да княства. Такім чынам, памяшчэнне жмудскага герба на троннай пячатцы (тарк з мядзведзем) было прапагандысцкай дэкларацыяй мэт Вітаўта. Вядома, што пасля смерці Вітаўта і Ягайлы Ордэн ізноў узняў пытанне аб вяртанні пад сваю ўладу Жмудзі (Самагіціі), атрыманай ім у XIV ст. адпаведна з дагаворамі. Толькі пазней Жмудзь як асобная тэрыторыя ўвайшла ў склад ВКЛ з пэўнымі правамі аўтаноміі і са сваім уласным гербам Мядзведзь. Аб'ектыўны гістарычны матэрыял — помнікі сфрагістыкі (як і больш індывідуалізаваныя — старажытныя гербоўнікі) — надзейна захавалі тагачасны геральдычны зрэз, вартасць якога цяжка пераацаніць.

Каштоўным сведчаннем прыналежнасці герба «Пагоня» да беларускіх этнічных земляў з'яўляецца вялікая пячатка Жыгімонта Старога. На ёй у цэнтры — выява герба «Пагоня», а вакол — іншыя зямельныя і дынастычныя гербы, аб'яднаныя паміж сабой звілістай стужкай. На стужцы — надпісы на лацінскай мове: пад першым гербам, з выявай арла — **PATERN** (бацькоўскі), пад другім, з выявай паса **MATERN** (матчын), пад трэцім. з выявай архангела (Міхаіла?) – **KIIENS** (Кіеўскі), пад чацвёртым, з выявай крыжа — **VOLNI** (Валынскі), і нарэшце, пад пятым — мядзведзем — **SAMAGITIE** (Жмудскі). Такім чынам, названы ўсе землі, што знаходзіліся пад юрысдыкцыяй Вялікага княства Літоўскага і, дарэчы, размяшчаліся вакол яго. У цэнтры якраз размешчаны герб зямлі, якая і адыгрывала аб'ядноўчую ролю для ўсіх гэтых земляў, у тым ліку сучаснай тэрыторыі Беларусі*.

---

** Прыкладна тая ж геральдычная сітуацыя адлюстравана і на вялікай пячатцы яго сына — Жыгімонта Аўгуста, пазней Стафана Баторыя і шэрагу іншых уладароў, аж да апошняга караля Рэчы Паспалітай — Станіслава Аўгуста Панятоўскага.*

Адзначым таксама, што і ў тытулатары гаспадара ў час існавання ВКЛ, а пазней — Рэчы Паспалітай падкрэслівалася: Кароль Польскі, Вялікі Князь Літоўскі, Рускі (маецца на ўвазе Рускае ваяводства, Львоўшчына — А.Ц.), Прускі, Жамойцкі і г.д. Як бачым, Жмудзь фігуруе ў тытуле асобна ад ВКЛ, а Беларусь увогуле не згадваецца, хаця менавіта на яе абшарах і знаходзілася гэтае самае княства. Адмаўленне ад тэрміна Беларусь у гэтыя часы было вымушаным. З моманту вызвалення ад мангола-татараў, ці нават раней, маскоўскія цары, грунтуючыся на генеалагічных сувязях, выказвалі прэтэнзіі на беларускія землі, а з XVI ст. нават уключылі ў свой тытул назвы Белай і Малой Русі. З мэтай перашкодзіць гэтай (спачатку ідэалагічнай) экспансіі і каб не ствараць прэцэдэнта, з чыста палітычных меркаванняў абодва гэтыя паняцці інтэнсіўна замяняюцца ў афіцыйным ўжытку на Вялікае княства Літоўскае (ці папростаму Літва) і Украіна, ці Украйна (што значыць «у края Хрысціянскіх земляў». калі глядзець з Захаду). Пры гэтым апошні тэрмін, здараецца, знаходзіць ужытак у дачыненні нават да ўсходу Вялікага княства Літоўскага, паўночнага Падняпроў'я.

*Вялікая пячатка канцылярыі ВКЛ часоў Жыгімонта Старога з выявай жмудскага мядзведзя ў дольнай частцы*

Традыцыі ўжывання герба Пагоня ў дачыненні да беларускіх земляў, узнікшыя ў глыбокай старажытнасці, знаходзяць сваю легітымізацыю (афармленне праз заканадаўчыя акты) у XVI ст. У другім (1566 г.) і трэцім (1588 г.) Статутах ВКЛ гаварылася: «**Теж мы Господарь даем под гербом того паньства нашого Великого князства Литовского, Погонею, печать до каждого повету...**». Такім чынам, былая традыцыя, якая выходзіла сваімі каранямі з гістарычных умоў існавання народа, дзяржавы, была юрыдычна зафіксавана і замацавана заканадаўчым актам. Таксама было ўпарадкавана карыстанне гэтым спрадвечным зямельным

*Малая пячатка канцылярыі ВКЛ, 1545 г.*

*Гісторыка-геральдычная карта зямельнай прыналежнасці герба «Пагоня».*



*Пячатка земскага суда Расіенскага павета Жмудскага княства, канец XVIII ст.*



*Пячатка гродскага суда Расіенскага павета Жмудскага княства, канец XVIII ст.*



*Паліваная кафля з выявай герба "Пагоня". XVII ст.*



*Фрагмент паліванай кафлі з выявай герба "Пагоня" XVII ст.*



*Паліваная кафля с выявай герба "Св. Юрэй". XVII ст.*



*Герб "Малая Пагоня". Мал. XIX ст.*



Тытульны аркуш Трыбунала
Вялікага княства Літоўскага.
Выдадзены ў Вільні 1581 г.



Тытульны аркуш трэцяга накладу Статута
Вялікага княства Літоўскага. Віленскае
выданне 90 х гг. XVI ст.



Тытульны аркуш Статута Вялікага
княства Літоўскага. Выдадзены
у Вільні ў 1588 г.



Выява герба Пагоня ў абкружэнні зямельных гербаў
Рэчы Паспалітай. З віленскага выдання Статута
Вялікага княства Літоўскага. 1614 г.



*Выява герба "Пагоня" з тытульнага аркуша Статута Вялікага княства Літоўскага 1588 г (другі наклад).*



*Герб «Пагоня». Малюнак канца XVIII–пач. XIX стст.*



*«Маскоўская Пагоня», з кнігі XVII ст.*

гербам. Калі на гістарычнай карце ваяводстваў раскласці іх старажытныя зямельныя гербы, то атрымоўваецца. што ў асноўным на этнаграфічныя беларускія землі прыпадае выява гербаПагоня. Усе суседнія землі маюць іншыя гербы.

Увогуле старажытныя гербоўнікі (XVI–XVIII стст.) налічваюць ажно пяць адрознасцей герба Пагоня. *Першая* — класічная: у чырвоным полі збройны рыцар на белым кані. Правай рукой яздок трымае ўздзеты над галавой голы меч, а на левым плячы — шчыт з падвойным залатым крыжам. Конь накрыты трохканцовай гунькай. Афарбоўка конскай зброі і шчыта рыцара на найбольш старажытных каляровых малюнках — блакітная.

*Варыянт другі:* такі ж яздок, але ва ўздзетай руцэ ён мае дзіду, якую рыхтуецца кінуць у ворага. Дзеля справядлівасці адзначым, што іканаграфія такога варыянта герба нам не трапілася. Вядомы толькі моўныя вопісы, хаця не выключана, што тут ідзе справа аб маскоўскім гербе, дзе вой забівае дзідай змея, і аб варыяцыі, калі яздок трымае дзіду ўперавес, хаця апошні нідзе, акрамя Ліпнішскага гарадскога герба, пакуль не знойдзены. Праўда, нельга выключаць, што дадзены варыянт з'яўляецца, у пэўнай ступені, рэмінісцэнцыяй іканаграфіі св. Глеба.

*Варыянт трэці:* выява голага ездака, які ўздзеў над галавой меч, на кані без сядла. Трэба адзначыць, што такое мастацкае рашэнне Пагоні таксама амаль не трапляецца, але вядома падобная версія маскоўскага герба XVII ст.

Згадваюцца таксама ў гербоўніках *два варыянты* «малой пагоні», калі на шчыце прыведзены не ўвесь герб, а толькі ягоная галоўная дэталь — збройная рука з голым мечам. Адрозніваюцца апошнія два варыянты паміж сабой колерам



*Герб Ліпнішак з выявай другога варыянта «Пагоні». Малюнак 1792 г. з канфірмацыйнага прывілея. Метрыка ВКЛ.*



*Пячатка Мсціслаўскай майдэборыі сяр. XVIII ст. з выявай герба «Малая пагоня».*

# ПОМНІКІ СФРАГІСТЫКІ З ВЫЯВАМІ ГЕРБА «ПАГОНЯ»



*Пячатка Лугвена [Сымяёна] Альгердавіча, 1386 г.*



*Пячатка Новагародскага земскага суда, 1566 г.*



*Пячатка Пінскага земскага суда, 1674 г.*



*Пячатка Мінскага земскага суда, 1713 г.*



*Пячатка замкавая Слуцкага княства, 70-я гг. XVII ст.*



*Пячатка Галоўнага Трыбунала ВКЛ, Мінская кадэнцыя, 1766 г.*



*Пячатка Мінскага земскага суда, 1767 г.*



*Пячатка 1-га палка пярэдняй стражы ВКЛ, 1794 г.*



*Пячатка 2-га коннага палка ВКЛ, 1794 г.*




*Харугва паспалітага рушэння – народнага апалчэння Слонімскага павета (1588—1633 гг.), рэстаўрацыя 1747 г..*



*Патройны грош (трояк). Сярэдзіна XVI ст.*




*Фрагмент гарматы. з выявай герба „Пагоня". 1631 г.*



*Радавы герб «Пагоня». Мал. XIX ст.*




*Пячатка інтэндэнцыі прэросляўскай парафіі часоў паўстання Т. Касцюшкі. Канец XVIII ст.*



*Пячатка земскага суда Пінскага пав. Сярэдзіна XVIII.ст.*



*Герб «Пагоня». Гравюра XIX ст.*

*Харугва паспалітага рушэння народнага апалчэння Гародзенскага павета, 1588 – канец XVIII ст.*

поля— залатым ці чырвоным, і клейнотамі — упрыгажэннямі на шлемах: у першым варыянце гэта паўтор узброенай мечам рукі, у другім — паясная выява пешага рыцара з узнятым мечам. Акрамя гэтых, згадваецца таксама і т. зв. *«татарская пагоня»*: у зялёным полі — яздок, які адстрэльваецца з лука ў сваіх праследвальнікаў.

Пагоні, акрамя дзяржаўных харугваў і паспалітага рушэння — павятовых, ваяводскіх, былі адлюстраваны і на пячатках канцылярыі Вялікага княства Літоўскага. Апошнія выразаліся кожны раз новыя пры змене вялікага князя, а пазней – караля Рэчы Паспалітай. Неардынарным з'яўляецца той факт, што гэтая ж выява прадстаўлена і на пячатках замка (гродскага суда) Слуцкага княства. Гэтая з'ява цікавая тым, што на пячатках падобных устаноў. як правіла, выразаўся прыватны герб канкрэтнага для кожнай адміністрацыйнай адзінкі гродскага суддзі. Такім чынам, мы маем з'яву з фіксацыяй зямельнага герба ўсяго Слуцкага княства, які пасля далучэння да Расійскай імперыі быў аб'яўлены «гарадскім».



*Пячатка Берасцейскага земскага суда, 1662 г.*



Пячатка канцылярыі земскай каптуровай Пінскага павета, 1733 г.

Як зямельны (ваяводскі) герб, па сведчанні нямецкіх крыніц, Пагоня была прадстаўлена сярод іншых гербаў у зале пасяджэнняў Сойма Рэчы Паспалітай. Адзначым таксама, што і ў тытулатуры гаспадара ў час існавання ВКЛ, а пазней — Рэчы Паспалітай падкрэслівалася: Кароль Польскі, Вялікі князь Літоўскі, Рускі (маецца на ўвазе рассечаны: у правай (калі арыентавацца на асобу, якая трымае шчыт) яго частцы была Пагоня, у левай — Калюмны. Абодва полі — блакітнага колеру ў адрозненне ад гарадскога герба, дзе Калюмны былі размешчаны ў чырвоным полі. Апошні (віленскі) гарадскі герб — памылковы. На пячатках магістрата Віленскага ў XVI–XVIII ст. фігуруе іншы герб — выява св. Крыштафа. Яшчэ адзін рассечаны шчыт належаў Падляшскаму ваяводству. У ім у правай, галоўнай, частцы была выява польскага арла, а ў левай — сярэбраная Пагоня, накрытая блакітнай гунькай. Як вядома, Падляшша было ў1569 г. анексіравана Каронай Польскай. Таму, у адпаведнасці з правіламі геральдыкі, у знак падпарадкаванасці Пагоня тут размешчана ў левай частцы, а ў правай — герб краіны-уладара. Той жа сэнс і ў перасячэнні шчыта, калі ўверсе ставіцца герб краіны аб'ядноўваючай або заваёўваючай, а ўнізе — краіны падпарадкаванай.

Астатнія гербы ваяводстваў ВКЛ мелі шчыт, у полі якога размяшчалася Пагоня. Яны адрозніваліся паміж сабой толькі афарбоўкай. Берасцейскае, Віцебскае, Мсціслаўскае, Навагародскае і Троцкае ваяводствы мелі гербы з блакітным полем, а Менскае і Полацкае — з чырвоным.



Пячатка Навагародскага земскага суда 40-х гг. XVIII ст.

Такім чынам:

*1. Канчатковае замацаванне Пагоні як сімвала ўлады адбываецца ў канцы XIV – пачатку XV ст.*

*2. Афіцыйная легітымізацыя герба Пагоня і замацаванне яго за беларускімі землямі адбываецца адпаведна са Статутамі ВКЛ 1566 і 1588 гг.*

*3. Для тэрыторыі гістарычнай Жмудзі ўласцівы герб Мядзведзь, які фігуруе у разнастайных гістарычных крыніцах на працягу XV–XIX стст. Пасля далучэння да ВКЛ жмудскі Мядзведзь у дачыненні да герба Пагоня знаходзіцца ў падпарадкаваным стане.*

*4. Як самастойны сімвал, герб Пагоня атаясамліваецца з тымі этнаграфічнымі землямі, якія яго ўжывалі з адрозненнямі ў колеры поля, постаці каня, афарбоўцы збруі, вайсковым рыштунку ездака.*



*Аб'яднаны герб з выявамі Белага Арла і Пагоні. У шыльдзе герб Саксоніі. 30 – я гг. XVIII ст.*



*Вайсковая харугва Вялікага княства Літоўскага 1764—1792 гг.*



*Застаўка з «Віленскай газеты». 1764 г.*



*Пячатка урадавай камісіі Ашмянскага пав. 90 гг. XVIII ст.*



*Значык артылерыі ВКЛ 60—90 гг. XVIII ст.*



*Залатая шкофь'я са срэбнай «Пагоняй» для мацавання пер'яў на афіцэрскіх шапках кавалерыі ВКЛ (1785 – 1790 гг.).*



*Гарда палаша з аб'яднаным гербам Рэчы Паспалітай. Канец XVIII ст.*




*Ганаровы медаль Віленскай губ. з выявай губернскага герба за дасягненні ў сельскай гаспадарцы. Сярэдзіна XIX ст.*

**Герб Пагоня ў часы Расійскай імперыі.** Гісторыя і існаваннегерба Пагоня не спыняецца з падзеламі Рэчы Паспалітай і далучэннем беларускіх земляў да Расійскай імперыі. Гэты герб працягваў рабіць уплыў на нацыянальную свядомасць атаясамлівацца з канкрэтнай тэрыторыяй, народам і актыўна функцыяніраваць у канцы XVIII – пачатку XX стст., нават знаходзячыся ў цяні двухгаловага расійскага арла.

Пасля далучэння ўсходняй часткі Беларусі да Расійскай імперыі (1772 г.) царскі ўрад пастанавіў стварыць Палявы гусарскі беларускі полк. У 1775 г. ён быў укамплектаваны «да поўных шасці эскадронных штатаў *нацыянальнымі людзьмі* (падкрэслена намі — А.Ц.) ізноў далучанай да Расіі па першаму падзелу Польшчы Беларускай губерні». Гэты полк атрымаў у наступным годзе ўласны штандар з гербам — шчыт, падзелены на два полі: у горным, залатым — выява двухгаловага арла, у «дольнай чырвонай частцы — выява літоўскага ўзброенага ездака на белым кані з уздзетай шабляй».

Прыкладна ў той жа час (70-я гг. XVIII ст.) быў створаны і Полацкі мушкецёрскі полк, які атрымаў у якасці герба на баявы сцяг рассечаны шчыт: у правым залатым полі — выява паловы чорнага расійскага арла, у левым чырвоным — Пагоня.

За час панавання імператара Паўла I, які змяніў на расійскім прастоле сваю матку — Кацярыну II, быў праведзены шэраг рэформ, што скасоўвалі пэўныя кацярынінскія ўстановы. Замест Віцебскай і Магілёўскай губерняў была створана адна аб'яднаная — Беларуская. У 1796 г. Указам Сінода і Сената, адрасаваным Беларускаму губернскаму праўленню, было падкрэслена, каб паводле прыкладзенага «при оном рисунка герба» ва ўсіх месцах, дзе прадпісана, былі расійскія гербы замест «нынешних». Імперскі герб таксама мусіў быць і на пячатках мясцовых, дзяржаўных устаноў. Далей у гэтым «Указе...» гаварылася: «...то как во всяком уездном городе рещиков (пячатак — А.Ц.) наитится не может, для того к вырезанню для всех по губернии мест и чинов с изображеннем нового Герба печати подрядить... рещика». Адпаведна з пецярбургскім указам быў знойдзены «рещик» пячатак. Ён выразаў 132 пячаткі для «прысутных месцаў» Беларускай губерні. Апошні атрымаў разам з «Урадавым загадам» і распараджэннем працадаўцы — магілёўскага каменданта палкоўніка Бістрама, каб на пячатках быў выразаны «не московский, ***а белорусскій*** (падкрэслена намі — А.Ц.) Герб».

Выява Пагоні фігуруе не толькі на пячатках дзяржаўных устаноў і баявых штандарах XVIII ст., яна працягвала яшчэ крочыць і ў наступным XIX ст.



*Герб Полацкага мушкецёрскага палка, 1774 г.*



*Герб «горада і уезда Віцебскага», што зафіксаваны ў дакументах Санкт-Пецярбургскага Дэпартамента Герольдыі. Малюнак 1840 г.*



*Пячатка Магілёўскага губернскага дэпутацкага дваранскага сходу. Канец XVIII ст.*


Афіцэрская шапка
17-га уланскага палка, 1812 г.


Афіцэрская партупея з жэтонам
з выявай герба Пагоня, 1812 г.

У час вайны 1812 г. на баку французскіх войск выступіла 100 тыс. жыхароў былой Рэчы Паспалітай, з іх прыкладна 20 тыс. былі ўраджэнцамі "Літвы". У «Ваеннай песні Літвінаў», якую яны спявалі ў 1812 г., былі такія словы: «Будзь разам з Пагоняй магутным».

Збройны яздок не быў чужынцам і ў шэрагу вайсковых часцей, якія падпарадкоўваліся расійскаму камандаванню. Сцягі лейб-гвардыі Гродзенскага гусарскага палка ўпрыгожваюцца гэтым сімвалам адпаведна з указам ад 19 верасня 1827 г. Яны выглядалі наступным чынам: на белым шаўковым штофе квадратнай формы, абшытым з трох бакоў сярэбранымі махрамі, па краях шытыя серабром лаўры, на рагах вензелі Мікалая I з каронамі. а ў сярэдзіне двухгаловы арол, на персях якога шчыт малінавага і зялёнага аксаміту з выявай на ёй «літоўскага» вершніка. Пад арлом вышыты серабром літары Л. Г. Г. Г. П, над дрэўкам штандара — шар, на якім двухгаловы арол з святым Георгіем у шчытку.

Герб Пагоня знайшоў сваё адлюстраванне не толькі на штандарах вайсковых часцей, што фарміраваліся з ураджэнцаў Беларусі. У канцы 60-х гадоў мінулага стагоддзя быў распрацаваны вялікі герб Расійскай імперыі, дзе на крылах царскага арла былі размешчаны аб'яднаныя шчыты розных земляў, што знаходзіліся у падпарадкаванні царскага самадзяржаў'я. Сярод іх былі шчыты, звязаныя з былой тэрыторыяй Вялікага княства Літоўскага: шчыт аб'яднаных гербаў былых беларускіх княстваў, на якім былі прадстаўлены тры гербы — полацкі, віцебскі і мсціслаўскі (праўда, варта адзначыць, што апошні можна поўнасцю аднесці да позняга тварэння Дэпарамента Герольдыі). На полацкім і віцебскім шчытах былі дадзены выявы традыцыйнага герба гэтых былых княстваў — Пагоні, адпаведна ў сярэбраным і чырвоным палях.

Аналагічна пабудаваны і шчыт аб'яднаных гербаў княстваў і абласцей Паўночна-Заходняй Расіі. На ім прадстаўлены гербы Вялікага княства Літоўскага, Самагіціі (Жмудзі) і Беластоцкай вобласці. У першым полі, які на папярэднім

шчыце, — выява Пагоні ў чырвоным полі, у трэцім рассечаным — у верхняй частцы сярэбраны аднагаловы (польскі) арол, у ніжняй — ізноў-такі Пагоня (як вядома, Падляшша — Беласточчына была далучана Каронай Польскай да яе перад заключэннем Люблінскай уніі ў 1569 г), і, нарэшце, у другім полі — герб Самагіціі з выявай чорнага мядзведзя.



*Ротны сцяг Беларускага гусарскага палка, 1776–1783 гг.*

У паўстанні 1863 г. герб Пагоня ў спалучэнні з Белым Арлом стаў сімвалам нацянальна-вызваленчай барацьбы за дэмакратычную перабудову грамадства. Царскі сатрап Мураўёў-вешальнік аддаў распараджэнне аб забароне нашэння жалобных знакаў — чорных шапак з белымі султанамі, спражак з аб'яднаным гербам Полышчы і Літвы. Нават праз некалькі гадоў гэтае распараджэнне працягвала дзейнічаць. Так, у 1866 г. было праведзена «...дознание о ношении пояса с бляхою на которой изображен Литовский герб». Паліцэйскі надзіральнік далажыў Ваеннаму начальніку Дзісненскага павета аб «ношении дворянином Каетаном Конюшевским возмутительного знака». Гэта быў «...козин пояс с медною пряжкой, на коей изображен герб Древняго Литовского княжества «Погонь» (т.е. скачущий всадник съ занесённою вперёд рукою с мечемъ)». Заўважаны ў такім «возмутительном» учынку К.Канюшэўскі быў падвергнуты штрафу памерам у 5 руб. срэбрам[1].



*Ківер ніжніх чыноў Гродзенскага Лейб-Гвардыі гусарскага палка, 1824–1825 гг.*

Такім чынам, герб Пагоня ў XIX стагоддзі з'яўляўся, з аднаго боку, сімвалам афіцыйнай тэндэнцыі, а з другога — неафіцыйнай, рэвалюцыйна-дэмакратычнай. Але ва ўсіх выпадках ён атаясамліваўся з канкрэтнай тэрыторыяй, якая ахоплівала землі сучаснай Беларусі. Тады, у XIX ст., беларускімі губернямі лічыліся тыя, што адышлі да Расійскай імперыі ад часу першага падзелу ці раней — гэта Віцебская. Магілёўская і Смаленская, а літоўскімі — Мінская, Гродзенская і Віленская (тэрыторыя дзвюх апошніх ахоплівала большую частку паўночнай і амаль увесь захад сучаснай Беларусі). Гэта знайшло сваё адлюстраванне і ў губернскіх гербах. Гродзенская атрымала свой першы герб у 1802 г. — з выявай Пагоні ў горнай частцы шчыта, а ў дольнай — зубра.



*Пячатка Мінскай паліцыі, 1812 г.*

---

[1] *НГАБ у Мінску. Ф. 1430, воп. 1, спр. 32365.*



*Ківерны герб Гродзенскага Лейб-Гвардыі гусарскага палка. Зацверджаны ў 1818 г.*

Пры наступным «рэдагаванні» гербаў, у 1845 г. на ім быў пакінуты толькі зубр. Акрамя Гродзенскай гербамі з Пагоняй карысталіся Віленская і Віцебская губерні. У 1845 г. пачынаецца даволі шырокае наданне павятовых гербаў, якія падкрэслівалі прыналежнасць таго або іншага павету да адпаведнай губерні, што пазначалася размяшчэннем у галоўнай частцы поля губернскага герба, а ў падпарадкаванай — тых, якія, на думку іхніх стваральнікаў, адлюстроўвалі пэўныя асаблівасці паветаў. Гэта першнаперш кранула Ашмянскі, Вілейскі, Дзісенскі, Лідскі паветы Віленскай губерні, якія атрымалі гербы з Пагоняй у горнай частцы. Паколькі гербы іншых беларускіх гарадоў да гэтага часу ўжо былі перайначаны і не былі падобныя на папярэднія, а тым больш на ваяводскія, таму і з астатніх павятовых гербаў Пагоня знікла. Але яна засталася на тых гербах, якія былі нададзены царскім урадам адразу пасля далучэння да Расіі ўсходніх земляў былога Вялікага княства Літоўскага.



*Герб горада і Полацкага павета. Малюнак 1840 г., з фондаў Дэпартамента Герольдыі*



*Герб Віцебскай губерні. Малюнак 1840 г., з фондаў Дэпартамента Герольдыі*

Новыя расійскія ўлады пачалі шырокую кампанію па выціску мясцовых адметнасцей і падвядзенню ўсяго духоўнага жыцця пад агульнадзяржаўны расійскі лад. Адным з першых такіх мерапрыемстваў у гэтым накірунку было наданне новых



*Герб Магілёўскай губерні, 1856 г.*

# ГЕРБАВЫЯ ШЧЫТЫ НЕКАТОРЫХ ГУБЕРНЯЎ З ВЯЛІКАГА ГЕРБА РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ



*Шчыт аб'яднаных гербаў Беларускіх, 1857 г.*



*Шчыт аб'яднаных гербаў Паўночна-Заходняй Расіі, 1857 г.*



**Герб Віцебскага княства**



**Герб Вялікага княства Літоўскага**



**Малы герб Расійскай Імперыі**



**Герб Мсціслаўскага княства**



**Герб Самагіціі (Жмудзі)**



**Герб Полацкага княства**



**Герб Беластоцкай вобласці**

# ГЕРБЫ ГУБЕРНЯЎ



*Герб Віленскай губерні.*
*Зацверджаны ў 1878 г.*



*Герб Віцебскай губерні.*
*Зацверджаны ў 1856 г.*



*Герб Гродзенскай губерні.*
*Зацверджаны ў 1878 г.*



*Герб Магілёўскай губерні.*
*Зацверджаны ў 1878 г.*



*Герб Мінскай губерні.*
*Зацверджаны ў 1878 г.*

гербаў гарадам Полацкага і Магілёўскага намесніцтваў. Гістарычныя гарадскія гербы гарадоў усходняй часткі Беларусі былі заменены агульнадзяржаўным гербам Пагоня. Пры гэтым у кожным з новададзеных гербаў шчыт быў падзелены на дзве часткі: у верхняй, па геральдычных паняццях «пануючай», размяшчаўся двухгаловы расійскі арол, а ў дольнай — «падпарадкаванай» — Пагоня. Такім чынам, гэтыя гарадскія гербы, з аднаго боку, дэвальвавалі прынцыпы індывідуальнаці кожнага былога магдэбургскага места, а з другога — падкрэслівалі іхняе залежнае становішча ад расійскага самадзяржаўя і ў дадатак псавалі настрой жыхарам той часткі дзяржавы, якая яшчэ не была захоплена царызмам. Бо герб, які на захад ад расійска-«польскай» мяжы шанаваўся як сімвал дзяржаўнага суверэнітэту, на ўсходзе ад яе быў нізведзены ў стан падпарадкаванага. На захадзе ён быў гонарам і сведчаннем дзяржаўнасці, на ўсходзе — гарадскім ці нават мястэчковым сімвалам, за якім не стаяла ніякіх гарантый правоў мяшчан, што ім карысталіся.

Такім быў галоўны сэнс надання гарадам усходняй Беларусі выявы дзяржаўнага герба яшчэ не да канца далучанай краіны. Як адзначала савецкая даследчыца Н. Собалева, «гербы (расійскія — А.Ц)... ствараліся перш-наперш у інтарэсах вярхоўнай дзяржаўнай улады, з'яўляючыся адзнакай, пры дапамозе якой адлюстроўваліся і выражаліся прынцыпы пэўнага накірунку ў палітыцы царызму». Тым не менш, нягледзячы на тое, што гэтыя гербы часта насілі штучны характар і былі ўніфікаваны па агульнаму ўзору, у адрозненне ад магдэбургскіх, яны адлюстроўвалі не гарадскія асаблівасці праз сімволіку, а старажытны зямельны сімвал. Гэта тэндэнцыя найбольш яскрава адбілася на гербах Віцебскай і Магілёўскай губерняў, колішняй радзімы Пагоні. Усяго царскім урадам было нададзена дзевяць гарадскіх гербаў з яе выявай.

Адлюстраванне старажытнай Пагоні на беларускіх губернскіх, павятовых, гарадскіх, вайсковых гербах было з'явай, якая канстатавала асэнсаванне спалучанасці паняццяў, якое склалася ў суседніх народаў: геаграфічна-этнічнага — *Беларусь* і геральдычнага — *Пагоня.*

На заканчэнне адзначым:

*1. Герб Пагоня з'яўляўся сімвалам, які пэўным чынам спалучаўся ў тагачаснай свядомасці з тэрыторыяй Беларусі, але часта называўся «Літоўскі».*

*2. Афіцыйныя ўлады Расійскай імперыі часта выкарыстоўвалі Пагоню ў спалучэнні з двухгаловым арлом з мэтай падкрэслівання сваёй улады над далучанымі тэрыторыямі.*

*3. Нацыянальныя, рэвалюцыйна-дэмакратычныя сілы бачылі у гербе Пагоня аб'яднаўваючы сімвал у змаганні за самастойнасць і незалежнасць.*



*Герб Гродзенскай губерні, 1802 г.*



*Герб Лідскага павета Віленскай губерні, 1845 г.*



*Герб Віленскай губерні, 1845 г.*




*Пячатка Міністэрства абароны БНР. 1918-1920 гг.*




*Пячатка дэлегацыі Навыйшэйшай рады БНР*




*Пячатка Менскай беларускай гімназіі 1918-1920 гг.*




*Паштовая марка БНР.*



*Пячатка Міністэрства Унутраных спраў БНР. 1918-1920гг.*

**Герб Пагоня ў XX ст.** Катаклізмы Першай сусветнай вайны, Лютаўская рэвалюцыя і Кастрычніцкі пераварот (1917 г.) далі новы імпульс, штуршок і накірунак у развіцці нацыянальна-вызваленчага руху ва ўсёй Еўропе. Нараджаліся новыя краіны. Дакладней, нацыі, захопленыя раней больш моцнымі суседзямі, выходзілі на шлях волі і незалежнасці. Не абмінуў гэты працэс і Беларусь. У сакавіку 1918 г. была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка (БНР). Варта заўважыць, як адзначаў М. Ткачоў, што Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг выкарыстоўваліся беларускім нацыянальным рухам яшчэ ад пачатку XX ст. Ідэя Пагоні як нацыянальнага сімвала лунала ў паветры і выразнікам яе стаў паэт Максім Багдановіч, які яшчэ ў 1916 г. напісаў свой славуты верш.

На фоне гэтых працэсаў само сабой адрадзілася жаданне ўзвысіць старадаўнюю Пагоню да статуса дзяржаўнага герба. Магчыма, гэта адбылося зусім стыхійна, таму, наколькі вядома. не было замацавана ніякім дзяржаўным заканадаўчым актам, у якім быў бы кананізаваны ў якасці дзяржаўнага гербу адзіны адменнік Пагоні і мелася строгае апісанне ўсіх ягоных дэталяў. (Трэба таксама заўважыць, што на сёння архівы БНР захоўваюцца у Маскве і, магчыма, даследчыкі ў будучым знойдуць і афіцыйныя дакументы аб наданні гербу Пагоня статуса дзяржаўнага.) Выява Пагоні выкарыстоўвалася на пячатках розных устаноў БНР. Нягледзячы на тое, што Беларуская Народная Рэспубліка была ліквідавана бальшавікамі, а сама Беларусь разрэзана дзяржаўнай мяжой на дзве часткі – БССР і Заходнюю Беларусь, ідэя сімвала засталася жыць.

Узнікшая ў гэты перыяд Літоўская рэспубліка абрала старажытны славянскі герб у якасці свайго дзяржаўнага.



*Старонка пашпарту БНР, з выявай дзяржаўнага герба.1918 –1920 гг.*




*Паштоўка БНР. 1918 – 1920 гг. ХХ ст.*




*Шыльда Вайскова – Дыпламатычнай місіі БНР ў Рызе, 1921 г.*




*Сцяг першага Слуцкага палка стральцоў БНР. 1918—1920 гг.*




*Юбілейная паштовая марка у гонар БНР. 1950-я гг.*



*Герб Пагоня. Вышыты ў 1937 –1938 гг. Кацярынай Пышко, сястрой паэта і вязня ГУЛАГа С. Новікава –Пяюна.*



*"Беларуская Пагоня". Незацверджаны варыянт 1942 г.*

Пэўным чынам у гэтым увасобіліся праз патаемныя прэтэнзіі літоўскай буржуазіі на падуладнасць ёй спрадвечных беларускх земляў. Нельга не сказаць. што ў сталіцы Літвы – Коўне – не разумелі двухсэнсоўнасці такога становішча, якое ўсведамлялі нават шмат якія дзяржаўныя дзеячы Літоўскай рэспублікі, публічна сцвярджаючы патрэбу змены Пагоні як дзяржаўнага герба Літвы. У 1935 г. тагачасны літоўскі прэм'ер Тубаліс у сойме афіцыйна прызнаў "нелітоўскае" паходжанне Пагоні, заявіўшы, што ідзе праца над стварэннем арыгінальнага герба. Гэтая складаная праца мусіла б дайсці да лагічнага канца. але наступныя бурхлівыя падзеі заўчасна прыпынілі яе.

У час Другой сусветнай вайны герб Пагоня з'яўляецца ў якасці аб'екту інтарэсу тых груповак на Беларусі, якія супрацоўнічалі з нямецкімі акупацыйнымі ўладамі. Як сведчыла газета «Раніца», у дакуменце, [быццам бы – А.Ц.] падпісаным гаўляйтэрам Вільгельмам Кубе 27 чэрвеня 1942 г., было адзначана, што беларускімі нацыянальнымі знакамі і эмблемамі лічацца: беларуская нацыянальная Пагоня; бел-чырвона-белы сцяг. Як сведчаць нашы пошукі ў архівах, гэта была дэзініфармацыя. Нямецкія ўлады стварылі нават камісію, каб знайсці вінаватых у пашырэнні такіх звестак. Пад падозру трапілі тыя беларускія дзеячы, што пайшлі на службу да захопнікаў. Прычанай публікацыі імі падобнай "дэзы", відаць, было імкненне падштурхнуць акупацыйныя ўлады да юрыдычнага, хоць бы і "папяровага", прызнання краіны. У Пацдамскім архіве захоўваюцца дакументы 1942-1944 гг. рэйхсміністэрства па акупаваных усходніх тэрыторыях, дзе згадваецца пытанне аб легалізацыі беларускіх нацыянальных сімвалаў у выглядзе Пагоні. кветкі васілька і бел-чырвона-белага сцяга. Але пры гэтым трэба адзначыць, што з Берліна рэгулярна прыходзілі ў адрас гебіцкамісара Беларусі і беларускіх установаў парады ўстрымацца ад іх, а ў лісце (люты 1944 г.) было адзначана, што «стварэнне беларускага нацыянальнага знаку не такая тэрміновая справа». У апошнім па гэтаму пытанню распараджэнні рэйхсміністра ад 14 чэрвеня 1944 г. [у сувязі з пасяховым наступам Чырвонай Арміі на Беларускіх франтах – А.Ц.] сказана, што «вырашэнне гэтага пытання неабходна скончыць». Ні Пагоня, ні васілёк, ні «штандар бел-чырвона-белы» не былі афіцыйна дазволены ці зацверджаны ў гэтыя часы. .Ужо згаданы рэйхсміністр пісаў у кастрычніку 1943 г. генеральнаму камісару ў Мінск:«...праект беларускага нацыянальнага знака ў якасці беларускай дзяржаўнай сімволікі не можа быць адобраны, таму што дзяржаўная сімволіка патрабуе пэўную дзяржаўную самастойнасць або хоць нейкую аўтаномію. Будучыня Беларусі ... яшчэ не вызначана такім чынам, каб



*Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь 1991–1995 гг. Мастакі Кулік Я.С., Крукоўскі Ул. Я.*



*Праект Вялікага Дзяржаўнага герба Беларусі. Маст. А. Бажэнаў па матэрыялах і пад кіраўніцтвам А. Цітова, 1991г.*




*Пячатка Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў. 1991–1995 гг.*

сёння можна было гаварыць аб яе сімволіцы…». Менавіта ў гэтых радках і крыецца разгадка таго, чаму гэтыя беларускія колы дамагаліся зацвярджэння гістарычнай сімволікі і чаму акупанты ўсялякім чынам тармазілі гэтую справу. Першыя бачылі ў гэтым хаця б эфемерную гарантыю захавання і існавання Беларусі пры «новым парадку», а другія не хацелі звязаць сябе аніякімі авансамі ці абавязацельствамі на гэты конт.

Стыхійнае карыстанне жменькай калабарантаў старадаўнімі сімваламі і эмблемамі яшчэ болей чым на паўстагоддзя дало падставы для шматлікіх палітычных спекуляцый у дачыненні да герба Пагоня. Але ж ці можна звінавачваць сімвал, які выкарыстоўвалі пэўныя групы? Дарэчы, апошні выкарыстоўваўся, як і ў часы Расійскай імперыі, абмежавана, у падпарадкаваным стане. У гэтым варыянце расійскага двухгаловага арла змяніў германскі аднагаловы са свастыкай...

Пасля перамогі СССР над фашысцкай Германіяй герб Пагоня, здавалася, зноў быў аддадзены на поўнае забыццё. Савецкая сістэма, імкнучыся поўнасцю нівеліраваць адметнасці і асаблівасці народаў, вельмі раўніва ставілася да праяў імі сваіх асабістых і індывідуальных рысаў. Гэта тычылася ўсіх, у тым ліку і нашага. Стандартызацыя, падмена і замена нацыянальных сімвалаў класава-палітычнымі, падмена самога паняцця «нацыянальны сімвал» на «нацыяналістычны» была галоўнай задачай ўсёй прапагандысцкай машыны. Нягледзячы на ўсе гэтыя высілкі, герб Пагоня як аб’ектыўная рэальнасць працягваў існаваць у свядомасці народа. Распад СССР і абвяшчэнне незалежнасці Рэспублікі Беларусь далі магчымасць аб’яднаць усе функцыі герба Пагоня (як зямельнага, гістарычнага і нацыянальнага) і нават вярнуць яму на пэўны час статус герба Дзяржаўнага (да 1996г., калі па выніках агульнарэспубліканскага рэферэндума ён быў заменены цяперашнім)

Такім чынам:

*1. Тры хвалі нацыянальнага адраджэння XX ст. праходзілі пад знакам Пагоні.*

*2. Забарона бальшавікамі гэтага сімвала і спробы легітымізацыі і выкарыстанне яго падчас фашысцкай акупацыі не дэвальвуюць гэты герб як нацыянальную каштоўнасць беларускага народа.*

# ГЛАВА 7
# ДЗЯРЖАЎНАЯ СІМВОЛІКА У XX СТ.

Новы і прынцыпова іншы накірунак атрымала беларуская геральдыка пасля лютаўскіх і кастрычніцкіх падзей ў 1917 г. Ранейшыя нацыянальныя сімвалы былі непрымальныя для скіраванай на сусветную рэвалюцыю ідэалогіі бальшавікоў і палітычнай сістэмы, якая на той час трымалася на жорсткім адміністрацыйна-камандным кіраванні.

У гэты перыяд актывізавалася імкненне да нівеліроўкі любых мясцовых асаблівасцей, пачала пераважаць аднастайнасць у мастацкім вырашэнні і рэзка звузілася сама колькасць эмблематычных сродкаў. Прыўнесеныя абавязковыя афіцыйныя сімвалы занялі месца на пячатках вышэйшых дзяржаўных устаноў, а з часам пачалася іх экспансія і на больш нізкім, але значна больш шырокім узроўні, з выцісканнем са звароту сімволікі папярэдніх перыядаў. Апошні працэс атрымаў свой інтэнсіўны пачатак ужо ў другой палове 20-х гг. XX ст.

Савецкая атрыбутыка на працягу сямі дзесяткаў гадоў з'яўлялася своеасаблівай формай прапаганды ідэй сацыялізму. Пад непасрэдным уплывам савецкай эмблематыкі фарміравалася афіцыйная геральдыка былых сацыялістычных, а таксама шэрагу маладых краін Азіі, Афрыкі, якія ўваходзілі ў сферу палітычных, ваенных і эканамічных уплываў СССР.

У сярэдзіне нашага стагоддзя ўзнікла як бы новая хваля ў геральдычнай плыні. Калі геральдычная традыцыя ў сярэднявякоўі распаўсюджвалася з краін Захаду на Усход, дык пасля перамогі народаў СССР у Вялікай Айчыннай вайне і пачатку эпохі дэкаланізацыі назіраецца актыўны ўсплеск цікавасці да савецкіх эмблематычна-геральдычных прынцыпаў, што адлюстроўвалася ў паўтарэнні кругавой канструкцыі герба і абкружванні яго рознымі каласамі, галінкамі і г.д., ва ўжыванні іншых элементаў і прыёмаў савецкай эмблематыкі. Ва ўсіх гэтых гербах як бы адлюстроўваліся мэты ўсталявання сацыялізму ва ўсіх краінах свету, пэўныя рысы грамадскага ладу ў Савецкім Саюзе.

Дзяржаўны герб СССР быў зацверджаны 6 ліпеня 1923 г. на другой сесіі ЦВК. Дапрацоўка малюнка герба была даручана мастаку І. І. Дубасаву. Сам жа праект дзяржаўнага герба СССР быў зроблены Усеваладам Корзунам. Па тых нешматлікіх звестках, якія маюцца аб ім, вядома, што ён паходзіў з Беларусі, працаваў тапографам, і ў той час, калі быў аб'яўлены конкурс на стварэнне герба СССР, знаходзіўся ў камандзіроўцы ў Маскве.

Канстытуцыя СССР 1924 г. дае наступнае апісанне гэтага герба: на фоне зямной кулі — скрыжаваныя серп і молат, у ніжняй частцы — узыходзячае сонца. Усё гэта абкружана вянком з каласоў, перавітых чырвонай стужкай шэсць разоў — па колькасці [дзяржаўных — А.Ц.] моў рэспублік, краі стужкі пакінуты вольнымі. На кожным вітку ленты — надпіс «Пролетарии всех стран, соединяйтесь!» на шасці мовах рэспублік: рускай, украінскай, беларускай, азербайджанскай, армянскай, грузінскай. Уверсе — пяціканцовая зорка.

У далейшым адбываліся змены, якія тычыліся толькі колькасці віткоў на гербе ў адпаведнасці з павелічэннем колькасці савецкіх рэспублік, што з часам уваходзілі ў склад СССР.

Трэба адзначыць, што да 1924 г. ужо сфарміраваліся асноўныя п р ы н ц ы п ы  с а в е ц к а й

эмблематычнай традыцыі. Галоўныя для яе сімвалы — серп і молат, якія былі закліканы адлюстроўваць вобразы мірнай працы, ідэйнай згуртаванасці і непарыўнай сувязі саюза рабочых і сялян.

На першым этапе гэтыя сімвалы, вельмі простыя і лакранічныя, лёгка даступныя для разумення грамадствам, якое было выхавана на даволі моцным «геральдычным» падмурку, знайшлі шырокае разуменне ў масавых колах не толькі расійскага, але і замежнага пралетарыяту.

Сімволіка перакрыжаваных сярпа і молата фіксуецца ў сакавіку 1918 г., калі па загаду СНК у друкарні імя І. Фёдарава быў падрыхтаваны малюнак першай дзяржаўнай пячаткі Савецкай Расіі. Як згадваў В.Д. Бонч-Бруевіч, які займаў тады пасаду кіруючага справамі Саўнаркома, старшыні ЦК і СНК Расійскай Федэрацыі Ул. Леніну вельмі спадабаўся праект, але ён быў супраць мяча, які знаходзіўся ў цэнтры кампазіцыі. Упершыню шырокае ўжыванне сярпа і молата ў якасці дамінуючай эмблемы прыпадае на святкаванне рэвалюцыйнага свята — Першамая 1918 г. Гэта было зроблена па ідэі маскоўскага мастака Я.І. Камзолкіна. Паводле партыйнага загаду працоўныя машынабудаўнічага завода ў г. Пушкіне адлілі і ўстанавілі на яго магіле чыгунную пліту з надпісам «Е.М. Камзолкину, создателю эмблемы «Серп и Молот». Хаця літаратура ўспамінае таксама і іншага мастака — петраградскага архітэктара Л. Руднева, магчымага аўтара гэтай эмблемы.

Як вядома, першая канстытуцыя РСФСР была зацверджана ў ліпені 1918 г. на пасяджэнні прэзідыума УЦВК пятага склікання. Першая канстытуцыя БССР, як пісаў наркамюст Гетнер, складалася паэтапна: «Першая, пісаная частка нашай канстытуцыі, у выглядзе юрыдычнага афармлення Савецкай Беларусі, была апублікавана часовым рабоча-сялянскім урадам Беларусі 1 студзеня 1919 г. Гэты Маніфест быў выдадзены пасля вызвалення Беларусі ад нямецкай акупацыі і адлюстроўваў сабой структуру будучай Савецкай Беларусі... У падмурак нашай канстытуцыі была пакладзена дэкларацыя правоў працоўнага і эксплуатуемага народу з канстытуцыі РСФСР, прыстасаваная да беларускіх умоў»[1] .

Гэта прывяло да таго, што першы герб Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі Беларусь нічым не адрозніваўся ад герба РСФСР, акрамя надпісаў на стужках. Але гэта была толькі адна праблема. Галоўнае ж заключалася ў тым, што «дэ факта» ні Беларусь, ні Украіна, ні ў наступным іншыя савецкія рэспублікі не разглядаліся як самастойныя ва ўсіх сваіх дзеяннях прававыя суб'екты, якімі б дакументамі «дэ юрэ» гэта не



*Праект герба РСФСР, які быў адхілены Ул. Леніным*




*Першая пячатка РСФСР, адбітак 1918 г.*




*Герб БССР, варыянт 1919 г.*

---

[1] *Звезда.— 1924. — 15 января.*



*Ордэн Чырвонага Працоўнага Сцяга БССР*



*Пячатка Ленінскай сельскай рады Слуцкай акругі (сярэдзіна 20-х гадоў XX ст.)*




*Эмблема Аддзела Рыбааховы Народнага Камісарыята Земляробства ССРБ, 1921 г.*

падмацоўвалася. У студзені 1919 г. ЦК РКП(б) было прынята рашэнне аб утварэнні Літоўска-Беларускай ССР. На пасяджэнні (27 лютага 1919 г.) Цэнтральных выканаўчых камітэтаў рэспублік быў распрацаваны праект Канстытуцыі новай аб'яднанай рэспублікі і давалася апісанне яе герба: ён уяўляў сабой копію папярэдняга з тым адрозненнем, што да беларускамоўнага тэксту дадаваліся надпісы на літоўскай, польскай, яўрэйскай і рускай мовах. Як вядома, юрыдычна гэтае палітычнае ўтварэнне праіснавала да ліпеня 1920 г., калі распалася падчас наступлення польскіх легіянераў. Услед за гэтым адбылося т. зв. 2-е абвяшчэнне БССР — прынята Дэкларацыя аб незалежнасці БССР. Варта адзначыць, што да сённяшняга дня яшчэ не знойдзена ніводнай выявы герба Літбела. Хутчэй за ўсё, яго проста не існавала, а дзяржаўныя органы карысталіся пячаткамі, на якіх была толькі пісьмовая (наратыўная) інфармацыя. У тым жа 1920 годзе ва ўжыванне быў узяты папярэдні герб ССРБ.

Узнікненне ў 1922 г. СССР парадзіла «штуршок з гары» (ініцыятыву зверху) да пошукаў новага герба нашай рэспублікі, які б у дастатковай меры падкрэсліваў бы адзінства ўсёй краіны і ў той жа час, хоць бы ў даволі вузкіх межах «жанру», высвечваў яе своеасаблівыя рысы і тым самым не выступаў абсалютнай копіяй герба Савецкай Расіі.

З гэтай мэтай у канцы лютага 1924 г. быў аб'яўлены конкурс на стварэнне герба рэспублікі. За лепшыя праекты былі ўстаноўлены тры прэміі на агульную суму 300 рублёў. Але ў сувязі з тым, што тэрміны былі надта абмежаваныя (да 5 сакавіка 1924 г.), станоўчых вынікаў конкурс не даў. Гэта вымусіла яго арганізатараў прадоўжыць тэрмін да 1 мая 1924 г. Але, нягледзячы на абодва конкурсы, пажаданых вынікаў не было. Варта адзначыць, што ў ліпені 1924 г. адзін з прадстаўленых на конкурс праектаў (аўтар — мастак Г. Жмудзінскі), быў абмеркаваны на пасяджэнні Прэзідыума ЦВК БССР, а 10 кастрычніка таго ж году па гэтаму праекту быў зацверджаны Ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга БССР, узнагароджанне якім праводзілася да 1937 г.

Адначасова СНК БССР даручыў распрацаваць герб рэспублікі Інстытуту беларускай культуры. У Інбелкульце была створана камісія, у якую ўвайшлі Я. Дыла, В. Друшчыц, М. Мялешка, М. Шчакаціхін. Крыху пазней да работы па стварэнню герба БССР быў падключаны і Народны камісарыят асветы БССР. Вынікам аб'яўленага конкурсу на герб БССР было прадстаўленне на яго звыш пяцідзесяці малюнкаў.

## ЭСКІЗЫ ПЯЧАТАК УСТАНОЎ, АРГАНІЗАЦЫЙ І ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, ЗАЦВЕРДЖАНЫЯ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ 20-Х ГАДОЎ XX СТ.




*Пячатка Цітавянскага культ-асветніцкага гуртка Ігуменскага павета*




*Выканаўчае бюро каапературы рабочых і служачых народнай сувязі г. Менска*




*Пячатка Цэнтральнага ляснога аддзела народнага камісарыята земляробства ССРБ*




*Таварыства аматараў рыбнай лоўлі Ігуменскага павета*




*Пячатка Ігуменскай электрычнай станцыі*




*Пячатка Адзінага рабоча-сялянскага спажывецкага таварыства*




*Пячатка дабраахвотнай пажарнай дружыны вёскі Дуб-Лес*




*Рэлаўшчынскі сельскі пажарны [камітэт]*




*Дукорскі валасны пажарны камітэт*

# ЭСКІЗЫ ПЯЧАТАК УСТАНОЎ, АРГАНІЗАЦЫЙ І ПРАДПРЫЕМСТВАЎ, ЗАЦВЕРДЖАНЫЯ Ў ПЕРШАЙ ПАЛОВЕ 20-Х ГАДОЎ ХХ СТ.




*Пячатка Беларускага Праваслаўнага сінода (зацв. 18.10.1924 г.)*




*Пячатка Барысаўскага гуртка аматараў электратэхнікі*




*Пячатка Менскага кааператыўнага таварыства птушкаводаў*




*Пячатка Культпрасвета пры Мар'інагорскім с/г тэхнікуме*




*Пячатка цэнтральнай управы прафсаюза будаўнічых работнікаў Беларусі*




*Пячатка кааператыва супрацоўнікаў Мінгарвыканкама і НКУС*




*Пячатка Цітвянскай валаснай пажарнай дружыны Ігуменскага павета*




*Пячатка фабрычна-завадскога камітэта 1-й савецкай слясарна-кузнечнай майстэрні г.Мінска*




*Пячатка фізіка-матэматычнага гуртка, г.Мінск*




*Герб БССР, варыянт 1927 г.*

На пасяджэнні Саўнаркама, якое адбылося 27 снежня 1926 г., праекты былі разгледжаны. Лепшым прызнаны праект кіраўніка Беларускага дзяржаўнага мастацкага тэхнікума ў Віцебску мастака В. Волкава.

Яго малюнак «найбольш адпавядаў умовам конкурсу і быў прыняты з некаторымі ўдакладненнямі». Ухвалены праект герба быў прэміраваны сумай у 200 рублёў. Астатнія сем лепшых праектаў, таксама прадстаўленыя работнікамі мастацкага тэхнікума, былі прэміраваны па 50 рублёў кожны.

Праект мастака В. Волкава пасля ўнясення правак (чырвоная стужка з белай каймой па краях была заменена на чырвоную) быў зацверджаны на VIII Усебеларускім з'ездзе Саветаў 11 сакавіка 1927 г. У прамове першага сакратара ЦК КП(б)Б А. І. Крыніцкага падкрэслівалася, што дзяржаўны герб БССР мае «характар шрыфту беларускай мовы часткова ў стылі Скарыны».

Другая канстытуцыя БССР (1927 г.) дае наступнае апісанне герба рэспублікі (раздзел XIII, артыкул 74): «Дзяржаўны герб Беларускае Сацыялістычнае Савецкае Рэспублікі складаецца з малюнку ў праменнях усходзячага сонца сярпа і молата, якія змешчаны крыж на крыж ручкамі ўніз і абкружаны вянком; гэты вянок складаецца злева з жытніх каласоў, перапленых канюшынаю, а справа з дубовае галінкі; унізе паміж




*Герб БССР, варыянт 50-х гг. XX ст.*

абедзьвюма палавінамі вянка перавіты чырвонаю стужкаю, на якой змешчаны надпісы на беларускай, яўрэйскай, расійскай і польскай мовах: «Пралятарыі ўсіх краін, злучайцеся!» і ніжэй — ініцыялы БССР. Уверсе гербу знаходзіцца пяціканцовая зорка». Жытнія каласы (на думку тагачасных ідэолагаў) адлюстроўвалі сельскую гаспадарку, а дубовая галінка — лясныя багацці рэспублікі. Пяціканцовая зорка — шлях да сацыялізму. Колькасць моў — чатыры — адпавядала, з аднаго боку, асноўным этнічным групам, якія пражывалі на тэрыторыі рэспублікі, а з другога — не стварала палітычных падстаў для ўціску беларускай мовы на тэрыторыі Заходняй Беларусі, перададзенай Леніным адпаведна з Рыжскім дагаворам 1921 г. Польшчы.

У 21 артыкуле Канстытуцыі БССР 1927 г. была падкрэслена роўнаправнасць моў на БССР, а наступны артыкул заканадаўча зацвярджаў у сувязі з большасцю беларускага насельніцтва «у рэспубліцы пераважнасць беларускай мовы для адносін паміж дзяржаўнымі, прафесіянальнымі і грамадскімі ўстановамі і арганізацыямі».



*Герб СССР, варыянт 1957 г.*

Трэцяя канстытуцыя БССР (1937 г.) пакінула герб рэспублікі без змен, але разгорнуты ў тыя часы наступ на «нацдэмаў» і імкненне ўлад знівеліраваць нават вонкавыя адрозненні не магло не паўплываць нават і на дзяржаўны герб БССР. З мэтай далейшай уніфікацыі і нівеліроўкі знешняга выгляду герба былі зроблены адпаведныя захады. 28 ліпеня 1938 г. на вячэрнім пасяджэнні першай сесіі Вярхоўнага Савета БССР




*Эталон Дзяржаўнага Герба Рэспублікі Беларусь*

дэпутат Захараў І.А. выступіў з прамовай, дзе адзначалася, што «Беларусь з'яўляецца індустрыяльна-калгаснай краінай. У сельскай гаспадарцы пераважаюць большасцю пасевы зернавых і тэхнічных культур — жыта, лён, канюшына. Усё гэта з'яўляецца асноўным багаццем сельскай гаспадаркі, што і павінна быць адлюстравана ў дзяржаўным гербе Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». На гэтай падставе ён унёс прапанову аб унясенні змен у дзяржаўны герб: «замяніць вянок з дубовымі лісцямі вянком з жытніх каласоў, пераплеценых клеверам і ільном». Такім чынам, было растлумачана і ідэалагічна абгрунтавана адмаўленне ад папярэдняга герба рэспублікі. У гэтым фармальна-дэмагагічным тлумачэнні адлюстравалася поўнае неразуменне самой асновы герба як незмяняльнай і незнішчальнай існасці. Калі рухацца далей за такой логікай думак «геральдыста», дык пазней, па меры развіцця прамысловасці, трэба было б уносіць у герб дадатковыя элементы, звязаныя з развіццём нафтаздабычы і нафтаперапрацоўкі, солездабычы, развіццём цяжкага машынабудавання, радыёэлектроннай прамысловасці і г.д., і ў рэшце рэшт герб пераўтварыўся б з сімвалічнай, лаканічнай і ўстойлівай выявы, якая перш-наперш адлюстроўвае гістарычныя карані, традыцыю, альбо час і галоўныя ідэі грамадска-палітычнага ладу, у рухомую мінівыставу дасягненняў народнай гаспадаркі, ў нейкую канструкцыю, абцяжараную малазначнымі дробнымі элементамі.




*Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь, 1995 г.*

Герб Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі праіснаваў да распаду СССР. Пасля рэферэндуму 14 мая 1995 г., па яго выніках замест герба Пагоня быў уведзены сучасны Дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь.

У часы хрушчоўскай адлігі (60-я гг. XX ст.) была зроблена спроба адрадзіць побач з дзяржаўным інстытут гарадскога герба, напоўніўшы яго «новым сацыялістычным зместам». Гэтая спроба на Беларусі не была выніковай. Нязграбныя наборы хімічнага посуду, малаткоў, шасцяронак і іншых прылад працы пры пэўнай геральдычнай рэдакцыі маглі б адпавядаць нейкай прафесійнай альбо цэхавай эмблеме, але ніяк не гербу горада. Сярод такіх няўдалых, але вельмі характэрных спроб можна прывесці прапанаваныя тады «гербы» Пінска і Бабруйска, Полацка і Ваўкавыска. Гэты спіс можна працягваць і далей. На жаль, падобныя спробы працягваюцца і ў наш час, калі ў тым альбо іншым месцы ў адрыве ад уліку законаў геральдычнай творчасці ўзнікаюць не гербы, а нейкія канструкцыі для адлюстравання працоўных дасягненняў.

**Такім чынам**:

*1. Фарміраванне сімволікі сацыялістычнай Беларусі адбывалася цэнтралізавана, рэгулявалася ідэалагічнымі ўстаноўкамі.*

*2. Першасны пласт, звязаны з папярэдняй геральдычнай традыцыяй, афіцыйна існаваў на Беларусі да другой паловы 20-х гг. XX ст. Пазней ён саступіў месца новай савецкай сімволіцы.*

*3. Спробы стварыць і замацаваць новыя гербы ў адрыве ад традыцый геральдыкі як па сэнсу, так і па стылю выканання, маюць мала шанцаў на поспех.*

***

***Завяршаючы агляд гісторыі развіцця беларускай геральдыкі канцом XX стагоддзя слушна заўважыць, што яна гэтым часам зусім не абмяжоўваецца. Як і любая іншая тэарэтычная і практычная дзейнасць чалавека, геральдыка можа зведваць перыяды ўзлёту і спаду цікавасці да сябе, пад уплывамі каньюктурных мэтаў адчуваць на сабе суб'ектыўныя ўплывы, якія зыходзяць толькі з цягам часу. Але ж сапраўдным каштоўнасцям ані час, ані каньюктура не пагражаюць.***

***Сёння ў Беларусі праца над вывучэннем і засваеннем геральдычнай спадчыны, яе прыстасананнем да практычных мэтаў не спынілася і працягваецца. Наколькі будуць удалымі гэтыя віды дзейнасці змогуць ацаніць больш аб'ектыўна і шчыра ўжо гісторыкі і геральдысты наступных пакаленняў. Бо, як вядома, вялікае лепш бачыцца на адлегласці!***

# ЛІТАРАТУРА

**Альгердзіч, Г.** Нашы нацыянальныя эмблемы.— Паходжанне Пагоні // Раніца. №48–49 (за 22–26 кастр.). Берлін, 1944.

**Белямук, М.** Вытокі беларускіх пячаткаў.— Кліўленд, Огаё. 1986.

**Вярыга-Дарэўскі, А.** Рускія пячаткавыя знакі // Спадчына.— 1992.— № 5.

Гербоўнік беларускай шляхты: у 2 т. Т.1: Літара А.— Мн., 2002.

Гербоўнік беларускай шляхты: у 2 т. Т.2: Літара Б.— Мн. 2007.

**Грыб, Т.** Прычынак да высьветленьня беларускае геральдыкі // Іскры Скарыны. Вып. 3.— Прага, 1935.

**Казбярук, Ул.** Летапісы пра нараджэнне Пагоні // Спадчына.— 1992.— № 3.

**Луцкевіч, Ант.** Беларускі музей ім. Івана Луцкевіча. Вільня. 1933.— Менск, 1992.

Малы гербоўнік наваградзкай шляхты. / Аўт. калект.— Мн., 1997.

Пагоня ў сэрцы — тваім і маім: Зб. арт. / Пад рэд. А. Цітова.— Мн., 1995.

**Пануцэвіч, В.** Пагоня й крыж Пагоні.— Беларуская Царква. Вып. 18.— Чыкага, 1960.66.70-84.

**Пікарда, Г.** Алегарычная геральдыка Францішка Скарыны.— Спадчына.— 1992.— №№5, 6; 1993.— №№ 1, 2.

**Трусаў, А.** Лунай, наш сцяг, ляці, Пагоня! З гісторыяй на «Вы». Вып. 3.— Мн., 1994.

**Штыхаў, Г. В., Галенчанка, Г. Я.** Пагоня (сімволіка старажытнага герба) // Навіны Беларускай Акадэміі.— 1991.— № 39 (619).

**Цітоў, А.** Гербы беларускіх гарадоў // Беларусь.— 1981.— № 8.

**Цітоў, А.** Гербы беларускіх гарадоў.— Мн.: Полымя, 1983.

**Цітоў, А.** Пячаткі горада Гродна. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.— 1984.— №4.

**Цітоў, А.** Беларуская гарадская геральдыка. // Помнікі старажытнабеларускай культуры.— Мн.: Навука і тэхніка, 1984.

**Цітоў, А.** Пячаткі і герб Мінска XVI–XVIII ст. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.— 1986.— № 1.

**Цітоў, А.** Ключы да пазнання мінулага (Архітэктура ў геральдыцы і сфрагістыцы Беларусі) // Мастацтва Беларусі.— 1986.— №3.

**Цітоў, А.** Гербы і пячаткі Магілёва XVI–XVIII ст. // Помнікі гісторыі і культуры Беларусі.— 1988.

**Цітоў, А.** Сімвалы новага поступу (герб і сцяг БССР) // Мастацтва Беларусі.— 1989.— №1.

**Цітоў, А.** Гарадская геральдыка Беларусі // Полымя.— 1989.

**Цітоў, А.** Шляхамі Францыска Скарыны // Полымя.— 1989.

**Цітоў, А.** Дык хто ж ён, «збройны рыцар на кані»? // ЛіМ.— 1987, 18 снежня.

**Цітоў, А.** Цэхавая геральдыка // Мастацтва Беларусі.— 1987.— № 6.

**Цітоў, А.** Загадка герба Ф. Скарыны // Мастацтва Беларусі.— 1989.— № 8.

**Цітоў, А.** Гарадская геральдыка Беларусі.— Мн., 1989.

**Цітоў, А. К.** Якім быць гербу незалежнай Беларусі? // Звязда.— 1991.— № 171.

**Цітоў, А.** Герб места Слуцкага // Спадчына.— 1992.— № 5.

**Цітоў, А.** Пячаткі старажытнай Беларусі.— Мн., 1993.

**Цітоў, А.** Наш сімвал ПАГОНЯ. Мн., 1992 (выд. 1-е); 1993 (выд. 2-е).

**Цітоў, А.** Геральдыка Беларускіх местаў.— Мн., 1998.

**Арсеньев, Ю.В.** Геральдика. Лекции, читанные в Московском археологическом институте в 1907/8 году.— М., 1908.

**Виллинбахов, Г.** К вопросу о традиции в грузинской знаменной символике.— Тбилиси, 1977.

**Винклер, П.П.** Гербы городов, губерний, областей и поселков Российской империи.— СПб., 1899; М., 1991.

**Гаттерер, И.Х.** Начертание гербоведения / Пер. Глеба Мальгина.— СПб, 1805.

Герб и флаг Белорусской державы: Сб. ст.— Мн., 1997.

**Гречило, А.** Українска міська геральдіка.— Київ.— Львів, 1998.

**Грибанов, Э.Д.** История международных медицинских эмблем.— М., 1976.

**Грибанов Э.Д.** Медицина в символах и эмблемах.— М., 1990.

**Демидова, Н.Ф.** Отражение политики русского правительства в Башкирии в гербах и печатях ее городов XVII–XVIII вв. // Южноуральский археографический сборник. Вып. 1.— Уфа, 1973.

**Драчук, В.С.** Таемніци геральдикі.— Київ, 1974.

**Драчук, В.С.** Системы знаков Северного Причерноморья.— Киев, 1975.

**Драчук, В.С.** Рассказывает геральдика.— М., 1977.

**Зайцев, Б.П.** Эмблематика Советской Украины.— Харьков, 1968.

**Каменцева, Е.И., Устюгов Н.В.** Русская сфрагистика и геральдика.— М., 1963.

**Кудряшов, В.** Спортивная атрибутика.— М., 1976.

**Лакиер, А.Б.** Русская геральдика.— СПб., 1855; М., 1990.

**Лукомский, В.К.** Герб как исторический источник (Доклад, прочитанный в секторе вспомогательных дисциплин 22 ноября 1945 г.) // Краткие сообщения о докладах и полевых исследованиях института истории материальной культуры. XVII.— М-Л., 1947.

**Лысенко, Н.** Русская государственная символика.— Л., 1990.

**Матковски, А.** Грбовіте на Македонија.— Скопје, 1970.

**Однороженко, О.А.** Козацькі часи: Полкові, сотенні, миські и містечкові печатки.— Харьків, 1998.

**Перкун, В.** Костельні печатки (Брацлавський, Вінницький, Могилёвський деканати, 1800–1916). Каталог.— Київ—Вінниця, 1998.

**Похлебкин, В. В.** Международная символика и эмблематика.— М., 1989.

**Поцелуев, В.** Гербы Союза ССР.— М., 1987.

**Прозоровский, Д. И.** Собрание польских и других печатей, принадлежащее Академии художеств. Разобрал и описал Д. Прозоровский.— СПб, 1881.

**Ражнев, Г.** Герб Смоленска.— Смоленск, 1993.

**Савчук, Ю.К.** Міська геральдика Поділля.— Вінниця, 1995.

**Соболева, Н.А.** Российская городская и областная геральдика XVIII–XIX вв.— М., 1981.

**Соболева, Н.А.** Старинные гербы российских городов.— М., 1985.

**Сперанов, Н.Н.** Земельные гербы российских городов.— Л., 1985.

**Стуканов, А., Космылев, В.** Герб Республики // Политический собеседник.— 1988.— № 3.

**Стуканов, А., Космылев, В.** Кто же ты, «Рыцер збройный на коне з мечем»? // Политический собеседник.— 1988.— №4.

**Ткачев, М.** Национальные символы: Народ и история // Советская Белоруссия.— 1989.—№235, 236; гл. таксама «З гісторыяй на «Вы». Вып. 1.— Мн., 1991.

**Ураносов, А. А.** Русские областные и городские печати и гербы в период образования и укрепления Русского централизованного многонационального государства (XV–XVII вв).— М., 1952.

**Хорошкевич, А. Л.** Договоры Полоцка 1405–1406 гг. как источник по истории его внешней торговли и торговой политики: Археографический ежегодник за 1962 г.— М., 1963.

**Хорошкевич, А. Л.** Печати полоцких грамот XIV–XV вв. // Вспомогательные исторические дисциплины. Т. 4.— Л., 1972.

**Черных, А. П.** Геральдика // Вспомогательные исторические дисциплины.— М., 1990.

**Янин, В. Л.** Актовые печати Древней Руси. X–XV вв.: у 2 т.— М., 1970.

**Boniecki, A.** Poczet rodow w WXL w XV–XVI wiekach.— Warszawa, 1887.

**Dzialyński, M.** Zbior praw Litewskich, Poznań, 1841.

**Čarek, I.** Městske znaky v Českých zemích. — Praha, 1985.

**Chomicki, A.** Herby miast i ziem polskich. — Warszawa, 1939.

**Eichler, E., Walther, H.** Stadtenamenbuch der DDR.— Leipzig, 1988.

**Ewe, H.** Schiffe auf Siegel.— Rostok, 1972.

**Fox-Davis, A.C.** A Complete guide to Heraldry.— London, 1969.

**Gudavičius, E.** Zymenys ir zenklai Lietuvoje XII–XX a.— Vilnius, 1989.

**Gumowski, M.** Herby miast polskich.— Warszawa, 1960.

**Gumowski, M.** Najstarsze pięszcie miast polskich XII i XIV wieku.— Torun, 1960.

**Gumowski, M.** Pięczcie Ksiąząt Litewskicli. Ateneum Wilenskie. Rocznik VII.— Wilniaj, 1930.

**Kazańczuk, M.** Staropolskie legendy herbowe.— Wroclaw, 1990.

**Kuczyński, S. K.** Herb Warsawy, 1977.

**Kuczyński, S. K.** Pieczęcie i herb Plocka oraz herb wojewodstwa plockiego.— Plock, 1979.

**Kuczyński, S. K.** Pieczęcie i herby miasta Łęczyce oraz zemi Łęczyckiej.— Łęczyca, 1985.

**Kuczyński, S. K.** Pieczęcie Ksiązat mazowieckich.— Wroclaw, 1979.

Lexikon Stadte und Wappen der DDR.— Leipzig, 1979.

**Liska, K.** Mestske znaky z ozdobami.— Praha, 1989.

**Liskevičenė, J.** XIV–XVIII Amziaus knigų grafika: herbai senuosiuose Lietuvos spaudiniuose.— Vilnius. 1997.

**Lojko, J.** Średniowieczne herby Polskie.— Poznań, 1985.

Ludzie i herby w dawnej Polsce.— Lublin, 1995.

**Machtscheck, H.** Unterhaltsame Wappenkunde.— Berlin, 1981.

**Miroszowski, St.** O heraldyce polskiej.— Krakow, 1987.

**Novak, I.** Slovenske mestske a obecne erby.— Martin "Osveta", 1972.

**Novak, I.** Rodove erby na Slovensku, 1986.

**Ostrowski, J.** Księga Herbow Rodów Polskich.— Warszawa, 1897.

**Oswald, G.** Lexicon der Heraldik.— Leipzig. 1984.

**Přibyl, A., Liska, K.** Znaky a pečetě středočeskych měst.— Praha, 1975.

**Pelant, J.** Znaky a pečetě zapadočeskych měst a městeček.— Plzen, 1985.

**Plewako A., Wanag, J.** Herbarz miast polskich.— Warszawa, 1994.

**Rimsa, E.** Lietuvos privačių miestų herbai. Lietuvos miestų istorijos šaltiniai. Kn. 2.— Vilnius, 1992.

**Russocki, S., Kuszyński, S. K., Willaume, J.** Godło barvy i hymn Rzeczy pospolitej.— Warzsawa, 1978.

**Volborth, von C. A.** The Art of Heraldry.— London, 1991.

**Vossberg, V. A.** Siegel des Mitterarbeis von Polen. Lithauen. Pommern und Preussen.— Berlin, 1854.

**Whittick, A.** Simbols. Sing and their meaning.— London, 1960.

**Zebrawski, T**. Pieczęcie dawniej Polski i Litwy.— Krakow, 1965.

**Zenger, Z. N.** Česká heraldika.— Praha, 1978.

**Znamerowski, A.** Insignia, simbole, herby Polskie.— Warszawa, 2003.

# ЗМЕСТ

*Аўтар выказвае сардэчную ўдзячнасць усім, хто з разуменнем ставіўся да працы, якую ён выконваў, і будзе шчыра ўдзячны за канструктыўныя заўвагі. З'яўленне дадзенай кнігі было б даволі праблематычным без дапамогі супрацоўнікаў і выкарыстання канкрэтных матэрыялаў наступных устаноў: Аршанскага краязнаўчага музея; бібліятэкі Акадэміі навук Літвы (аддзел рэдкай кнігі); бібліятэкі Варшаўскага універсітэта; бібліятэкі Львоўскага унівесітэта ім. Стэфаніка (аддзел рэдкай кнігі); Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея; Віцебскага абласнога краязнаўчага музея; Дзяржаўнайпублічнай бібліятэкі ім. М. Я. Салтыкова-Шчадрына ў Санкт-Пецярбургу (аддзел рэдкай кнігі); Інстытута гісторыі ПАН; Каса Мяноўскага (Варшава); Літоўскага музея мастацтва; Магілёўскага абласнога краязнаўчага музея; Музея горада Магілёва; навукова – даследчага аддзела кнігазнаўства Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі; Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі; Нацыянальнага дзяржаўага гістарычнага архіва ў Гродне; Нацыянальнага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Мінску; Нацыянальнага дзяржаўнага гістарычнага Літвы ў Вільні; Нацыянальнага Полацкага гісторыка – культурнага музея–запаведніка; Расійскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Санкт-Пецярбургу; Фундаментальнай бібліятэкі ім. Я. Коласа Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі (аддзел рэдкай кнігі); сябра Саюза мастакоў Беларусі Ул. Я. Крукоўскага і інш.*

**У афармленні выкарыстаны іллюстрацыі:**

Герб Пагоня. З гербоўніка XIV ст.(авантытул).

Выява герба Пагоня, з надгоб'я Ягайлы. XIV ст. ( апошняя стар. вокладкі)

Адбітак пячаткі места Слоніма. Канец XVIII ст. (прадмова).

На шмуцтытулах да гл. 1–7:

Герб Нясвіжа. Паводле малюнка з прывілея месту на магдэбурскія правы 1586 г. (рэканструкцыя колераў аўтара);

Герб Ігнацыя Агінскага, кавалера ордэна Белага Арла, маршалка ВКЛ, барысаўскага старосты і г. д., 1752 г. (мал. А. В. Леўчыка);

Выява герба Багуслава Радзівіла кн. на Біржах, Слуцку, Капылі і г. д., канюшага ВКЛ, генеральнага губернатара Прусіі. 1649 г. (мал. А.Леўчыка);

Герб места Крычаўскага. Мал. апошняй чвэрці XVIII ст. (з рукапіснага гербоўніка);

Герб біскупа Ігнацыя Якуба Масальскага. Апошняя чвэрць XVIII ст. (мал. А.Леўчыка);

Герб Пагоня (з рукапіснага геральдычнага зборніка Э.Коміна. 1575 г.);

Герб БССР 1927 г. (аўтар В.Волкаў, сучасная камп'ютэрная апрацоўка А.П.Бажэнава).

*Навукова-папулярнае выданне*

**ЦІТОЎ**
*Анатоль Кірылавіч*

**ГЕРАЛЬДЫКА БЕЛАРУСІ**

2-е дапоўненае і папраўленае выданне

Мастакі: А.Бажэнаў, А.Леўчык, К.Цітоў

Адказныя за выпуск: Я. В. Малашэвіч , А. П. Касцялецкая
Мастацкі рэдактар: А.І. Дрозд
Тэхнічны рэдактар А. В. Бабровіч
Дызайн: А. А. Бажэнаў, А. П. Бажэнаў
Камп'ютарная апрацоўка: А. С. Вацура

Падпісана да друку 06.05.2010. Фармат 84х108 1/16. Папера афсетная. Друк афсетны.
Гарнітура Times New Roman Cyr. Ум. друк. арк. 16,8. Ул.-выд. арк. 15,3. Тыраж 3000 экз. Заказ 2414.

Выдавец і паліграфічнае выкананне: УП «Мінская фабрыка каляровага друку»
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзіі ЛВ №02330/0494375 от 16.03.2009 і ЛП №02330/0494156 ад 3.04.2009.
220024, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.



БАЛЬТЫЦКАЕ МОРА
ЛІБАВА
МІТАВА
Люцын
Рэжыца
ШАЎЛІ
МЭМЭЛЬ
ЛІТВА
Дзьвінск
Браслаў
ТЫЛЬЗІТ
Юрбург
Вількамір
Сьвянцаны
Дунілавічы
ІНСТЭРБУРГ
Коўна
Вербалоў
Сувалкская губерня
Н.Трокі
Вільня
Смаргонь
Вялейка
Сувалкі
Ашмяны
Маладэчна
Віленская губерня
Друскенікі
Аўгустоў
Граева
Асавец
Гарадня
Ліда
Валожын
Радашкавічы
Менск
Навагрудак
Саколка
Ломжа
Ваўкавыск
Беласток
Слонім
Баранавічы
Несвіж
Копыль
Слуцак
Гарадзенская губерня
Бельск
Белавежа
Пружана
Варшава
Кобрынь
Седльцы
Пінск
Лунінец
Тураў
Берасьце
ПОЛЬШЧА
Радам
Люблін
Холм
Ковель
Сарны


Апочка
Тарапец
Ржэва
Себеж
Вялікія Лукі
Невель
Смаленская губерня
Віцебская губерня
Белы
Вяліж
Полацак
Гарадок
Парэчча
Духаўшчына
Вязьма
Віцебск
Ярцава
Смаленск
Дарагабуж
Сянно
Ворша
Красны
Ельня
Масальск
Калужск губерн
Горкі
Шклоў
Мсьціслаў
Рослаў
Жыздра
Магілеў
Чавусы
Чэрвэнь (Ігумень)
Чэрыкаў
Клімавічы
Ст. Быхаў
Магілеўская губерня
Бранск
Бабруйск
Сураж
Мглін
Арол
Рагачоў
Почап
Арлоўс губер
Жлобін
Клінцы
Трубчэўск
Старадуб
Навазыбкаў
Гомель
Добруш
Грамач
Рэчыца
Ноўгарад Северскі
Мозыр
Сарадня



ЦІТОЎ Анатоль Кірылавіч нарадзіўся 27.XI.1947 г. у Дрэздэне (Германія). Беларускі гісторык, архівіст, геральдыст. У 1975 годзе скончыў БДУ. З 1975 г. навуковы супрацоўнік, палеограф Цэнтральнага Дзяржаўнага гістарычнага архіва БССР у Мінску, з 1983 г. выкладаў у Мінскім інстытуце культуры, з 1994 г. старшы навуковы супрацоўнік НДІ справаводства і архіўнай справы, адначасова выкладчык БДУ. З 1998 г. працаваў у недзяржаўным Гуманітарна-эканамічным інстытуце. Даследуе беларускую геральдыку, сфрагістыку, гісторыю рамесных цэхаў, гістарычную геаграфію нашай краіны і іншыя спецыяльныя гістарычныя навукі. Аўтар шматлікіх артыкулаў і кніг па названых дысцыплінах. Ганаровы сябра Усерасійскага геральдычнага грамадства, сябра Польскага и Украінскага геральдычных таварystваў.




ISBN 978-985-454-500-4
9 789854 545004